ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 10






Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА" Менск 1936

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 10

Кастрычнік 1936 г.





ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон рэдакцыі па
камутатару 20000, доб. 168.



# *Лозунгі ЦК ВКП(б)*

## *да XIX гадавіны Вялікай пролетарскай рэволюцыі ў СССР*

1. Няхай жыве XIX гадавіна Вялікай социялістычнай рэволюцыі ў СССР!

2. Няхай жыве социялістычная рэволюцыя ва ўсім свеце!

3. Фашызм—гэта тэрарыстычная палітыка капіталістаў і памешчыкаў супроць рабочых і сялян. Фашызм—гэта захватніцкая вайна. Фашызм—гэта голад, галеча, разарэнне. Мабілізуем сілы на барацьбу з фашызмам!

4. Рабочыя, работніцы, сяляне і працоўныя ўсіх краін! Расшырайце і ўмацоўвайце народны фронт барацьбы супроць фашызма і вайны! За мір, за дэмакратычныя свабоды, за социялізм!

5. Брацкае прывітанне рабочым і сялянам Іспанскай дэмакратычнай рэспублікі, якія вядуць геранічную барацьбу супроць фашызма! Няхай жыве іспанскі народ!

6. Барацьба іспанскага народу—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва. Акружым спачуваннем і акажам дапамогу іспанскаму народу!

7. Большэвіцкае прывітанне рэволюцыйным пролетарыям Германіі. Няхай жыве геранічная комуністычная партыя Германіі! Няхай жыве таварыш Тэльман!

8. Няхай жыве брацкі саюз народаў Саюза ССР!

9. «Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны» (Сталін).

10. Няхай жыве наша родная, непераможная Чырвоная Армія— магутны аплот мірнай працы народаў СССР, верны страж заваёў Окцябрскай рэволюцыі!

11. Прывітанне байцам-пагранічнікам, пільным часавым совецкіх граніц!

12. Няхай расце і мацнее, няхай авалодвае тэхнікай і загартоўваецца наша родная, магутная Чырвоная Армія!

13. Няхай жывуць совецкія лётчыкі — гордыя сокалы нашай радзімы!

14. Многамільённай арміі ўдарнікаў і ўдарніц прамысловасці і транспарту, знатным людзям нашай краіны большэвіцкае прывітанне!

15. Перакрыем стаханаўскай работай новыя нормы выпрацоўкі!

16. Узнімем культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы!

17. За 60 тысяч тон сталі, 45 тысяч тон пракату ў суткі!

18. Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі абароннай прамысловасці! Вы адказваеце перад краінай за выкананне плана і высокую якасць абароннай прадукцыі.

19. Работнікі чыгуначнага транспарту!Ператворым транспарт ва ўзорную галіну народнай гаспадаркі!

20. Калгаснікі і калгасніцы, аграномы і работнікі соўгасаў! За 7—8 мільярдаў пудоў зярна ў год!

21. Няхай жывуць знатныя калгаснікі і калгасніцы!

22. Няхай жыве саюз рабочых і сялян—аснова совецкай улады!

23. Рабочыя і работніцы соўгасаў! Зробім кожны соўгас узорным прадпрыемствам!

24. Зробім усе калгасы большэвіцкімі, усіх калгаснікаў заможнымі!

25. Шырэй разгорнем совецкі гандаль у горадзе і вёсцы!

26. Прывітанне работнікам навукі і тэхнікі, мастацтва і літаратуры, чэсна выконваючым свой доўг перад совецкай радзімай!

27. Няхай жыве роўнапраўная працоўная жанчына!

28. Вырасцім здаровых, жыццерадасных дзяцей, адданых сваёй совецкай радзіме!

29. Піонеры і піонеркі! Авалодвайце ведамі і вучыцеся стаць барацьбітамі за справу Леніна!

30. Няхай жывуць совецкія фізкультурнікі і фізкультурніцы—гордасць нашай краіны!

31. Няхай жыве комсамольскае племя—магутны рэзерв і надзейны памочнік большэвіцкай партыі!

32. Вышэй рэволюцыйную пільнасць! Яшчэ шчыльней згуртуем рады вакол партыі Леніна!

33. Да канца выкаранім трацкісцка-зіноўеўскіх мярзаўцаў—фашысцкіх разведчыкаў, шпіёнаў і шкоднікаў!

34. Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная Партыя большэвікоў—правадыр і арганізатар пераможнага будаўніцтва соцыялізма!

35. Няхай жыве вялікі непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна! Няхай жыве ленінізм!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў).

# XIX год пролетарскай дыктатуры і будаўніцтва соцыялізма

Дзевятнаццатую гадавіну Окцябрскай рэволюцыі народы вялікага Совецкага Саюза сустракаюць новымі грандыёзнымі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва.

19 год таму назад пролетарыят і прыгнечаныя масы былой царскай Расіі, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі (большэвікоў) на чале з таварышамі Леніным і Сталіным зверглі панаванне капіталістаў і памешчыкаў. Арганізаваным і імклівым ударам пролетарыят скінуў уладу эксплаататараў і ўстанавіў сваю дыктатуру ў форме Совецкай улады.

Перамога Окцябрскай пролетарскай рэволюцыі ў Расіі адкрыла новую эру ў развіцці чалавецтва. Яна ліквідавала адвечныя ўстоі капіталізма—прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці і ачысціла дарогу для нябачанага ў гісторыі прагрэсу вытворчых і культурных сіл перамогшага народу. Яна ліквідавала назаўсёды эксплаатацыю чалавека чалавекам на адной шостай частцы свету, адкрыла неабмежаваныя магчымасці для праяўлення творчай ініцыятывы шырокіх мас у барацьбе за пабудову новага, бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя азнаменавала сабою першы этап надыходу сусветнай пролетарскай рэволюцыі, таму яна выклікала шалёную злобу ўсёй міжнароднай контррэволюцыі, якая абрушылася на нашу краіну разам з унутранай контррэволюцыяй. З поўначы і поўдня, з захаду і ўсходу—з усіх бакоў унутраная контррэволюцыя і інтэрвенты вогненным жалезным поясам сціснулі народжаную ў бурах маладую совецкую рэспубліку. Яны хацелі задушыць яе ўзброенай сілай і эканамічнай блакадай. Звергнуты клас эксплаататараў-крывапійцаў аб'яднаў свае ўзброеныя сілы з сіламі інтэрвентаў чатырнаццаці імперыялістычных краін. Агнём і мечам імкнуліся яны вырваць у пролетарыята і прыгнечаных мас Совецкай рэспублікі заваяваную імі свабоду, каб аднавіць сваё панаванне. Але дарэмны былі ўсе іх намаганні звярнуць Расію да старога капіталістычнага ладу. Пролетарыят, у саюзе з асноўнымі масамі сялянства, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і сваіх геніяльных правадыроў і арганізатараў—Леніна і Сталіна, адстаяў окцябрскія заваёвы. Усе намаганні ўнутранай і знешняй контррэволюцыі сустрэлі сакрушальны адпор з боку доблеснай і непераможнай Чырвонай арміі. Пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна Чырвоная армія на-галаву разбіла банды Дзенікіна, Калчака, белапалякаў і іншых

контррэвалюцыянераў і ачысціла ад іх совецкую зямлю. У гераічнай барацьбе пролетарыят і прыгнечаныя масы адстаялі окцябрскія заваёвы на фронтах грамадзянскай вайны, перамаглі разруху, голад і холад, аднавілі разбураную імперыялістычнай і грамадзянскай вайной народную гаспадарку.

Акружыўшы Совецкі Саюз эканамічнай блакадай, сусветная контррэволюцыя разлічвала на павольную пагібель і капітуляцыю совецкай улады перад капіталістычным светам. Ускладаючы свае надзеі і чаканні на тое, што маладая совецкая рэспубліка ўласнымі сіламі і сродкамі не здолее перамагчы эканамічную і гаспадарчую разруху, ворагі социялізма ўсіх масцей прарочылі пагібель совецкай улады і большэвікоў. Але яны пралічыліся. Большэвіцкая партыя на чале з Леніным і Сталіным не для таго павяла пролетарыят і прыгнечаныя масы царскай Расіі на штурм капіталізма, каб назаўтра адступіць перад узброенаю сілай унутранай контррэволюцыі і імперыялістычных інтэрвентаў і здаць заваяваную ўладу і свабоду капіталістам і памешчыкам. Не для таго арганізавалі большэвікі на чале са сваімі геніяльнымі правадырамі Леніным і Сталіным перамогу ў адкрытым узброеным баі на ўсіх фронтах грамадзянскай вайны, каб пасля адступаць перад эканамічнымі труднасцямі і здаць эксплаататарам пазіцыі дыктатуры пролетарыята. Сусветная контррэволюцыя пралічылася ў сваіх разліках, бо не ведала, што для большэвікоў няма такіх труднасцей і перашкод, якіх-бы яны не маглі перамагчы.

Пасля смерці Леніна ў ворагаў пролетарыята зноў ажыла надзея на магчымае аслабленне адзінства і сілы большэвіцкай партыі, на рознагалоссі ў яе радах. Актывізацыя контррэволюцыйнага трацкізма аднавіла ў іх надзею на немінучую пагібель совецкай улады. Але дарэмна. Верны саратнік Леніна—таварыш Сталін разбіў контррэволюцыйную вылазку трацкізма, згуртаваў рады партыі вакол Ленінскага Цэнтральнага Камітэта партыі і цвёрдаю рукою павёў пролетарыят і працоўныя масы Совецкага Саюза па шляху, указанаму В. І. Леніным.

Таварыш Сталін у непрымірымай барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, правым апартунізмам, праваляваццкім блокам, у барацьбе з усімі іншымі ворагамі партыі і пролетарыята адстаяў і ўзняў на новую, вышэйшую ступень вучэнне Леніна і мабілізаваў працоўныя масы для перамогі социялізма ў нашай краіне.

Пад кіраўніцтвам Сталіна Расія з адсталай аграрнай краіны ператварылася ў перадавую індустрыяльную з буйнейшай у свеце калектыўнай сельскай гаспадаркай. На працягу першай і другой пяцігодак неймаверна вырасла эканамічная магутнасць і абароназдольнасць Совецкага Саюза. Сярод хаосу бушуючага акіяна капіталістычных краін СССР стаіць як гранітны уцёс, атрымліваючы з кожным годам усё новыя і новыя перамогі на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва.

* * *

Окцябрская рэволюцыя прынесла социяльнае і нацыянальнае вызваленне ўсім раней прыгнечаным народам Расіі, аб'яднала шматмільённыя масы розных нацыянальнасцей пад сцягам пролетарскага інтэрнацыяналізма, стварыла вялікі Совецкі Саюз.

Усе народы нашай краіны, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і правадыра-народаў таварыша Сталіна аб'ядналіся ў дружную брацкую сям'ю для барацьбы за перамогу социялізма. Беларускі народ, як і іншыя падняволеныя народы былой царскай Расіі, толькі дзяку-

ючы перамозе Окцябрскай рэвалюцыі, на аснове ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ўпершыню за ўсю гісторыю свайго існавання атрымаў сваю дзяржаўнасць і нацыянальнае роўнапраўе ў вялікай сям'і народаў СССР. На месцы былой царскай калоніі, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, створана Беларуская Соцыялістычная Савецкая рэспубліка—неадлучная частка вялікага Савецкага Саюза.

Стварэнне БССР і КП(б)Б звязана з імёнамі Леніна і Сталіна, якія непасрэдна кіравалі стварэннем нацыянальных рэспублік і барацьбой большэвікоў Беларусі як у дні Вялікай пролетарскай рэвалюцыі, так і ў перыяд грамадзянскай вайны. Толькі дзякуючы брацкай дапамозе пролетарыята ўсяго Савецкага Саюза і неаслабнаму кіраўніцтву Леніна і Сталіна, Беларусь была ачышчана ад нямецкіх і белапольскіх банд і беларускі народ атрымаў сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Савецкая ўлада пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, забяспечыла эканамічны і культурны ўздым ва ўсіх нацыянальных рэспубліках.

Пры брацкай дапамозе вялікага рускага народу і ўсіх народаў Савецкага Саюза, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, БССР з былой царскай калоніі, з краіны эканамічна і культурна адсталай, выведзена ў рады перадавых рэспублік і абласцей Савецкага Саюза і ўзнагароджана вышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна.

* * *

Дзевятнаццатую гадавіну Окцябрскай рэвалюцыі народы Савецкага Саюза сустракаюць новымі грандыёзнымі перамогамі. Наша краіна стала непрыступнай крэпасцю соцыялізма. Соцыялізм стаў адзіна пануючай і камандуючай сілай ва ўсёй нашай народнай гаспадарцы. Залатымі словамі ў праекце сталінскай Канстытуцыі запісана: «Саюз Савецкіх Соцыялістычных рэспублік ёсць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян».

У нашай краіне няма беспрацоўя. Кожнаму працоўнаму сталінская Канстытуцыя прадастаўляе «права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы у адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю». У нашай краіне кожнаму працоўнаму адчынен шырокі шлях да заможнага, культурнага і радаснага жыцця. За межамі-ж Савецкага Саюза, у краінах капіталізма і фашызма, мільёны рабочых і сялян асуджаны на голад, жабрацтва і беспрацоўе. У нас асноўным законам дзяржавы—сталінскай Канстытуцыяй—замацоўваецца перамога соцыялізма і адкрываецца небывалы росквіт савецкай дэмакратыі для ўсяго насельніцтва СССР. А ў капіталістычных краінах фашызм знішчае апошнія рэшткі куцай буржуазнай дэмакратыі.

Развіццё савецкай дэмакратыі вызначае далейшы бурны рост палітычнай і вытворчай актыўнасці працоўных мас, рост іх самадзейнасці і арганізаванасці. А за межамі Савецкага Саюза фашызм дабіваецца ператварэння мільённых мас працоўных у маўклівых і пакорных рабоў капіталізма, выцiскае апошнія сокі з працоўных мас для ўзбраенняў і падрыхтоўкі новай сусветнай вайны.

Праект сталінскай Канстытуцыі на фоне нашых перамог яшчэ больш узмацняе дружбу вялікай сям'і ўсіх народнасцей Савецкага Саюза і натхняе шырокія масы на далейшую барацьбу за заможнае, культурнае, радаснае жыццё. Праект Канстытуцыі СССР з'яўляецца

найярчэйшым дакументам Сталінскай эпохі, які з выключнай сілай і нагляднасцю дэманструе перад усім светам перавагу соцыялістычнай сістэмы перад загніваючым капіталізмам.

Сталінская Канстытуцыя СССР з выключнай нагляднасцю паказвае пролетарыяту і працоўным усяго свету, што толькі дыктатура пролетарыята, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, можа вызваліць іх з ярма капіталістычнай эксплаатацыі, галечы і жабрацтва, забяспечыць далейшы прагрэс вытворчых і культурных сіл усяго чалавечага грамадства, што толькі дыктатура пролетарыята здольна ліквідаваць беспрацоўе—гэты адвечны біч пролетарыята і неадлучны спадарожнік капіталізма.

* * *

Дзевятнаццатую гадавіну свайго вызвалення з-пад гнёту капіталізма совецкі народ сустракае магутным разгортваннем стаханаўскага руху і творчай ініцыятывы шырокіх мас. Стаханаўскі рух, які з маланкавай хуткасцю ахапіў усю вялікую Совецкую краіну, узняў соцыялістычнае спаборніцтва на новую, вышэйшую ступень. Гэты выдатны рух перадавых людзей Совецкай краіны разбіў усе старыя «тэхнічна абгрунтаваныя» нормы вытворчасці і выявіў агромныя невычэрпныя рэзервы вытворчых магутнасцей нашых фабрык, заводаў і іншых галін народнай гаспадаркі.

Правадыр і арганізатар перамогі соцыялізма ў нашай краіне таварыш Сталін на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, ацэньваючы ролю і значэнне гэтага выдатнага руху, указаў, што

> «... стаханаўцы з'яўляюцца наватворцамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай».

На аснове разгортвання стаханаўскага руху і выкарыстання выяўленых стаханаўскімі метадамі работы вытворчых рэзерваў, наша краіна за апошні год атрымала не мала выдатных перамог на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Наша прамысловасць за апошні год узмацніла тэмпы выпуску прадукцыі. Так, за 9 месяцаў валавы прырост прадукцыі ўсёй прамысловасці Совецкага Саюза, у параўнанні з гэтым-жа перыядам мінулага года, складае ў нязменных цэнах 1926—1927 года 33,7 проц., у тым ліку па прамысловасці Наркамцяжпрома—35,1 проц., Наркамлегпрома—36,7 проц., Наркамхарчпрома—34,7 проц. і т. д. Прамысловасць наркаммясцпромаў саюзных рэспублік, якая ў асноўным базуецца на мясцовых сыравінных рэсурсах, за 9 месяцаў дала прырост прадукцыі, у параўнанні з тым-жа перыядам мінулага года,—на 31,7 проц., у тым ліку прамысловасць Наркаммясцпрома БССР—на 31,5 проц.

Выключных поспехаў на працягу апошняга года дабіўся наш соцыялістычны чыгуначны транспарт. Пад умелым большэвіцкім кіраўніцтвам таварыша Кагановіча чыгуначны транспарт дасягнуў сутачнай пагрузкі звыш 85 тысяч вагонаў, замест 50—60 тысяч вагонаў у папярэднія гады і тым самым з адстаючых выведзен у рады перадавых галін народнай гаспадаркі.

Совецкі народ, які 19 год таму назад скінуў уладу капіталістаў і памешчыкаў, праяўляе гераічнасць на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. З гушчы народнай штодня вырастаюць людзі, якія прыкладам сваёй работы і гераічнымі ўчынкамі паказваюць бязмежную адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, справе соцыялістычнага будаўніцтва. З кожным днём множыцца лік стаханаўцаў—герояў высокай прадукцыйнасці працы і выкарыстання тэхнікі. Множацца героі сталінскай эпохі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва і ўмацавання абароназдольнасці нашай краіны.

За апошні год выраслі рады Герояў Совецкага Саюза. Гэта высокае і ганаровае званне атрымалі нашы слаўныя лётчыкі тт. Чкалаў, Байдукоў і Белякоў, якія ўстанавілі сусветны рэкорд дальнасці палёту без пасадкі ў надзвычайна цяжкіх і суровых умовах Арктыкі. На самалёце «АНТ-25» па сталінскаму маршруту яны праляцелі без пасадкі 9.374 кілометры, прабыўшы ў паветры каля 105 гадзін.

Герой Совецкага Саюза тав. Леванеўскі са штурманам тав. Леўчэнка завяршылі выдатны 19.000-кілометровы пералёт Лос-Анжэлос (Амерыка)—Масква, адкрыўшы паўночную паветраную трасу паміж трыма сухазем'ямі: Амерыкай, Азіяй і Еўропай.

Герой Совецкага саюза тав. Молакаў завяршыў 26.000-кілометровы арктычны пералёт. Лётчык т. Юмашоў устанавіў выдатны рэкорд высотнага палёту з грузам у 10.000 кілограм і т. д.

Гераічныя ўчынкі нашых лётчыкаў прадэманстравалі перад усім светам магутнасць совецкай авіяцыі, мужнасць і адвагу совецкіх пілотаў, натхнёных геніем вялікага Сталіна.

Вялікі Совецкі Саюз сустракае дзевятнаццатую гадавіну свайго існавання, як эканамічна магутная краіна, аўладаўшая ўсімі сродкамі сучаснай тэхнікі вытворчасці і абароны. Совецкая краіна стала непрыступнай крэпасцю соцыялізма.

Гэтыя перамогі дасягнуты ў бязлітаснай і непрымірымай барацьбе партыі з контррэволюцыйным трацкізмам, правымі апартуністамі, права-лявацкім блокам і контррэволюцыйным нацыяналізмам усіх масцей і колераў. Таварыш Сталін з уласцівай яму празорлівасцю і непрымірымасцю да ворагаў пролетарыята і соцыялізма выкрыў контррэволюцыйную сутнасць трацкізма, як перадавога атрада контррэволюцыйнай буржуазіі. Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна выкрыла контррэволюцыйную сутнасць тэорыі трацкізма аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне і мабілізавала працоўныя масы нашай радзімы на правядзенне ў жыццё вучэння Леніна. Разграміўшы ўсіх ворагаў соцыялізма, партыя, пад кіраўніцтвам вялікага правадыра—таварыша Сталіна, арганізавала перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Працэс над трацкісцка-зіноўеўскай зграяй азвярэлых забойц, якія ў сваёй здрадніцкай дзейнасці скаціліся ў лагер фашызма, стаўшы яго ланцужнымі псамі, паказаў усяму свету, што іх адзінай мэтай было імкненне шляхам тэрору супроць кіраўнікоў большэвіцкай партыі і совецкай улады звергнуць дыктатуру пролетарыята і аднавіць капіталізм у нашай краіне. Але гэтага ім не ўдалося ажыццявіць і ніколі не ўдасца, бо ўвесь совецкі народ, кіруемы партыяй Леніна—Сталіна, апіраючыся на эканамічную магутнасць і абароназдольнасць сваёй краіны, узнімаючы сваю рэволюцыйную пільнасць, дасць усім ворагам сакрушальны адпор. Наша доблесная і непераможная Чырвоная армія, моцна стоячы на варце совецкіх рубяжоў, разаб'е на-галаву ўсіх капіталістычных інтэрвентаў, якія паспрабуюць напасці на нашу краіну.



*
* *

Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка—неадлучная частка вялікага Савецкага Саюза і яго фарпост на мяжы з капіталістычным Захадам—сустракае 19 гадавіну Окцябрскай рэволюцыі велізарнымі поспехамі на ўсіх участках нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

БССР—былая царская калонія, жабрацкая, эканамічна і культурна адсталая краіна,—дзякуючы правільнаму правядзенню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі стала ў рады перадавых, квітнеючых рэспублік Савецкага Саюза.

За 19 год існавання Савецкай улады, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна, пры дапамозе Савецкага Саюза і вялікага рускага народу ў БССР створана магутная соцыялістычная прамысловасць. На працягу першай і другой пяцігодак у БССР пабудаваны дзесяткі і сотні новых, узброеных сучаснай тэхнікай фабрык і заводаў, многія з якіх маюць усесаюзнае значэнне.

Сярод іх—усім вядомыя гіганты: Гомсельмаш, гомельскі шклозавод імя Сталіна—адно з буйнейшых прадпрыемстваў шкляной прамысловасці Саюза, Крычаўскі цэментны завод, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, барысаўская запалкавая фабрыка імя Кірава, Магілеўская шоўкавая фабрыка, віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», Белдрэс і многія іншыя фабрыкі і заводы, на якіх працуе па некалькі тысяч рабочых.

Дарэволюцыйная прамысловасць Беларусі, як і ўсіх іншых населеных нацменшасцямі акраін, складалася пераважна з дробных саматужных прадпрыемстваў. На 4.700.000 насельніцтва (у межах сучаснай Савецкай Беларусі) у 1913 годзе налічвалася ўсяго каля двух дзесяткаў тысяч рабочых, занятых пераважна ў рамеслена-саматужных прадпрыемствах. Удзельная вага прадукцыі прамысловасці ва ўсім нацыянальным прыбытку складала ўсяго каля 4,9 проц.

За 19 год існавання савецкай улады Беларусь ператворана ў адну з перадавых індустрыяльных рэспублік Савецкага Саюза. Удзельная вага прамысловасці ва ўсёй народнай гаспадарцы БССР складае 74 проц., лік рабочых, занятых толькі ў буйнай прамысловасці і на транспарце, узрос да 200 тысяч чалавек.

На месцы адсталай раздробленай індывідуальнай сельскай гаспадаркі вырасла буйная калектыўная гаспадарка, узброеная сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікай.

На палях калгасаў і соўгасаў нашай рэспублікі зараз працуюць звыш 7.000 трактароў, сотні ільнацерабілак, малатарань, снопавязалак, 120 камбайнаў і тысячы іншых складаных машын і прылад. Небывала ўзрасла роля машынізацыі апрацоўкі глебы і ўсіх сельскагаспадарчых работ. Калі на веснавым ворыве ў 1935 годзе трактарамі было праведзена толькі 12,3 проц. усяго аб'ёму работы, то ў 1936 г. удзельная вага трактарнага ворыва ўзрасла да 41,3 проц. Увядзенне ў сельскую гаспадарку ўсё больш і больш перадавой машыннай тэхнікі і аўладанне гэтай тэхнікай развівае і ўмацоўвае калгасную вытворчасць, ператвараючы сельскагаспадарчую працу ў разнавіднасць індустрыяльнай.

На базе росту тэхнічнага ўзбраення і разгортвання стаханаўскага руху калгасы і соўгасы нашай ордэнаноснай рэспублікі, не гледзячы на неспрыяючыя кліматычныя ўмовы гэтага года, дасягнулі буйней-

шых поспехаў у барацьбе за сталінскі ўраджай. Перадавыя калгасы, калгасныя брыгады і звенні дабіліся рэкордных паказчыкаў ураджайнасці. Так, напрыклад, брыгадзір тав. Чарнушэвіч з калгаса імя Якаўлева, Тураўскага раёна, атрымаў ураджай азімай пшаніцы 25 цэнт., жыта—22 цэнт., ячменю—19 цэнт. з гектара. У Дзержынскім раёне тав. Векша (калгас «9 студзеня») з плошчы ў 50 га азімай пшаніцы атрымаў ураджаю 33 цэнт. з га ў сярэднім. Рэкордныя паказчыкі ўраджаяў зернавых, лёну, бульбы налічваюцца сотнямі па калгасах нашай рэспублікі.

Змяніўся твар беларускай вёскі. Зараз у калгасах створаны і ствараюцца паркі культуры і адпачынку, клубы, тэатры, кіно, яслі, хатырадзільні, амбулаторыі. У калгасах пабудаваны тысячы новых светлых школ, у якіх навучаюцца дзеці калгаснікаў. Ліквідавана ў асноўным няграматнасць сярод дарослага насельніцтва. Працоўныя нашай рэспублікі разам з усімі працоўнымі Совецкага Саюза шпаркім крокам ідуць па шляху да заможнага, радаснага, культурнага жыцця.

За апошні год з гушчы народных мас Совецкай Беларусі выраслі выдатныя людзі, якімі ганарыцца ўся краіна. У нашай рэспубліцы—74 ордэнаносцы сельскай гаспадаркі і 35 ордэнаносцаў прамысловасці і транспарту. Дзесяткі тысяч стаханаўцаў выраслі ў прамысловасці, на транспарце, у сельскай і іншых галінах народнай гаспадаркі. Аўладаўшы тэхнікай, яны паказваюць сапраўды соцыялістычныя метады работы. Героі высокіх норм выпрацоўкі і ўраджайнасці соцыялістычных палёў выхаваны большэвіцкай партыяй у барацьбе за перамогу соцыялізма.

Словы таварыша Сталіна—«кадры вырашаюць усё» ператвораны ў рэчаіснасць у выдатным стаханаўскім руху. З кожным днём ён ахапляе ўсё больш і больш шырокія масы рабочых і калгаснікаў, ператварыўшыся ў магутны рух совецкага народу за стварэнне багацця прадуктаў і матар'яльных каштоўнасцей.

Падрыхтоўка да VIII надзвычайнага з'езда Советаў СССР выклікала новую хвалю вытворчага энтузіязму сярод рабочых прамысловасці, транспарту і іншых галін народнай гаспадаркі. Рабочыя многіх прадпрыемстваў узялі на сябе абавязак датэрмінова, к дню адкрыцця з'езда Советаў, дабіцца выканання гадавога вытворчага плана і паспяхова змагаюцца за ажыццяўленне ўзятых на сябе абавязацельстваў. Так, напрыклад, менская абутковая фабрыка імя Тэльмана датэрмінова — к 23 кастрычніка — выканала гадавы план на 100,6 проц. Калектыў рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў абавязаўся да канца года выпусціць яшчэ 78 тысяч пар абутку звыш плана.

Выяўленыя стаханаўскім рухам новыя вытворчыя рэзервы даюць нашай прамысловасці магчымасць не толькі выканаць, але і значна перавыканаць план 1936 г. Так, напрыклад, на аснове выяўленых стаханаўскім рухам рэзерваў прамысловасць Наркаммясцпрома нашай рэспублікі ўзяла на сябе абавязак даць у гэтым годзе на 30 мільёнаў рублёў, а ўся прамысловасць БССР—на 100 мільёнаў рублёў звышпланавай прадукцыі.

Уся прамысловасць ідзе насустрач 19 гадавіне Окцябрскай рэвалюцыі з высокімі тэмпамі барацьбы за выкананне гадавога плана. За 9 месяцаў гадавы план усёй прамысловасцю БССР выканан на 77,3%, у тым ліку мясцовай—на 77,5 проц. Уперадзе ўсіх галін саюзнай прамысловасці ідзе лясная. За 9 месяцаў яна дала 82,2 проц. гадавога плана, без лесазагатовак.

Большасць галін як саюзнай, так і мясцовай прамысловасці, пры ўмове правільнай арганізацыі работы і расстаноўкі сіл, далейшага разгортвання стаханаўскага руху і выкарыстання наяўных вытворчых рэзерваў можа дабіцца далейшага росту прадукцыйнасці працы і павелічэння выпуску прадукцыі.

Прамысловасць у гэтым годзе дабілася і значнага палепшання якасці прадукцыі, пашырэння асартыменту, асабліва прадметаў шырспажыву, што ў значнай меры палепшыла задавальненне ўсё больш і больш узрастаючага попыту шырокіх мас.

З ростам эканамічнай магутнасці Савецкай краіны неймаверна ўзрасло і палепшылася матар'яльна-культурнае становішча працоўных мас.

Совецкі народ сустракае 19 гадавіну свайго вызвалення з-пад гнёту капіталізма жыццерадасна і бадзёра. «Жыць стала лепш..., жыць стала весялей». Праца з цяжкага ярма, якім яна была пры капіталізме, ператварылася для мільёнаў совецкага народу ў справу «гонару, славы, доблесці і геройства». З кожным днём узрастае энтузіязм мас у барацьбе за новыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, за заможнае, культурнае і радаснае жыццё, за ператварэнне нашай краіны ў самую багатую ў свеце.

* * *

Апіраючыся на сваю эканамічную магутнасць і абараназдольнасць, СССР стаў важнейшым фактарам у барацьбе за мір. Роля і значэнне Совецкага Саюза ў міжнародным жыцці і барацьбе за мір узрастае з кожным годам. Гэта прымушаны прызнаць нават нашы заклятыя ворагі з буржуазнага лагеру. Разам з тым нашы поспехі і перамогі выклікаюць звярыны жах і ярасць фашыстаў усіх краін, асабліва фашыстаў трэцяй імперыі, якія шалёным тэмпам рыхтуюць новую сусветную вайну і ў першую чаргу вайну супроць Совецкага Саюза.

Фашысты, на чале з гітлераўскай трэцяй імперыяй, пачалі паход супроць дэмакратычнай Іспаніі, каб ператварыць яе ў сваю калонію. Фашысцкі мяцеж у Іспаніі супроць дэмакратычнага ўрада народнага фронту быў падрыхтаваны пры прамым падтрыманні і дапамозе нямецкіх і італьянскіх фашыстаў. Факты, апублікаваныя ў «Белай кнізе» іспанскага ўрада і заява прадстаўніка Совецкага Саюза ў камітэт аб неўмяшанні ў справы Іспаніі, неабвяржыма даказваюць, што Германія, Італія і Партугалія безупынна аказваюць непасрэдную дапамогу фашысцкім мяцежнікам Іспаніі ваеннай зброяй, боепрыпасамі, а таксама і жывою сілай.

Інтэрвенцыя нямецкага і італьянскага фашызма ў Іспанію з'яўляецца толькі першым крокам падрыхтоўкі сусветнай вайны.

Гераічная барацьба іспанскага народу супроць фашысцкіх мяцежнікаў з'яўляецца барацьбой супроць усяго фашызма, супроць вайны, барацьбой за захаванне міру. Таму сімпатыі пролетарыята ўсяго свету і 170-мільённага народу Совецкага Саюза—на баку гераічнага іспанскага народу. Выступленне совецкага прадстаўніка ў міжнародным камітэце па пытаннях неўмяшання ў справы Іспаніі супроць фашысцкай інтэрвенцыі і блакады Іспанскай рэспублікі сустрэла гарачае адабрэнне не толькі сярод шырокіх мас совецкага народу, які ад усяго сэрца жадае іспанскаму народу перамогі над фашысцкімі мяцежнікамі, але і сярод шырокіх народных мас усяго свету. Народы Совецкага Саюза, аказваючы матар'яльную дапамогу іспанскаму народу

прадуктамі, «аддаюць сабе адказ, што вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць прыватная справа іспанцаў, а— агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва» (Сталін).

Нямецкі фашызм ліхаманкава рыхтуецца да вайны. З працоўных мас ён выціскае апошнія сокі на патрэбы ўзбраення. Трэцяя імперыя ператворана ў ваенны лагер. Фашысцкія эмісары і гітлераўскія агенты раз'язджаюць па розных краінах, каб завербаваць саюзнікаў і найлепшым чынам палітычна падрыхтавацца да новага перадзелу свету.

Ваеннае пагадненне паміж фашысцкай Германіяй і імперыялістычнай Японіяй, пагадненне паміж фашысцкай Германіяй і Італіяй, пошукі нямецкага фашызма ў Англіі, усё большае ўцягненне фашысцкай Польшчы ў саюз з нямецкім фашызмам—усё гэта наглядна сведчыць аб росце ваеннай пагрозы.

Агрэсіўныя групоўкі імперыялізма чакаюць толькі зручнага моманту, каб у найбольш выгадных для сябе ўмовах распачаць вайну за новы перадзел свету і сфер уплыву.

Падрыхтоўка вайны суправаджаецца жудаснай эксплаатацыяй рабочага класа, працоўных мас, наступленнем на іх жыццёвы ўзровень. Нямецкі фашызм адкрыта прапагандуе неабходнасць скарыстаць сродкі існавання працоўных мас на ўзбраенне і падрыхтоўку вайны.

«...Калі народ вырабляе гарматы і самалёты,—піша фашысцкі «тэарэтык» І. В. Лудовіч,—ён не павінен адначасова патрабаваць павелічэння вытворчасці масла. Наадварот, у той меры, у якой вырабляецца ўзбраенне, мяркуецца адмаўленне ад усяго іншага» *).

Афіцыяльная фашысцкая прапаганда гітлераўскай Германіі заклікае да далейшага «добраахвотнага абмежавання» скарыстання харчоў у мэтах ваеннай падрыхтоўкі.

«У нас усё яшчэ ёсць людзі,—скардзіцца «Ангрыф»,—якія жадаюць у святочныя дні добра паесці... Зараз патрэбна адмовіцца ад гэтай традыцыі» **).

Нямецкі фашызм асуджае на галоднае існаванне мільённыя масы працоўных у інтарэсах падрыхтоўкі новай сусветнай вайны, у першую чаргу супроць Савецкага Саюза. Аб гэтым зусім адкрыта гаварылася ў выступленнях многіх афіцыйных фашысцкіх дзяржаўных дзеячоў.

Совецкі Саюз не жадае вайны і праводзіць паслядоўную палітыку міру. Але разам з тым ён не баіцца пагроз і гатоў адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны.

Совецкі Саюз, апіраючыся на сваю магутную непераможную Чырвоную армію, аснашчоную ўсімі сучаснымі сродкамі абароны і ваеннай тэхнікі, не баіцца фашыстаў. Імперыялістычныя драпежнікі, «якія паспрабуюць напасці на нашу краіну, атрымаюць сакрушальны адпор, каб у далейшым непаважна было ім саваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод» (Сталін).

Сваю гатоўнасць даць рашучы і сакрушальны адпор усякаму, хто паспрабуе напасці на нашу соцыялістычную радзіму, мы павінны падмацоўваць неаслабнай барацьбой за далейшыя перамогі соцыялізма, за далейшае ўмацаванне боездольнасці нашай непераможнай Чырвонай арміі, памятаючы ўказанне таварыша Сталіна, што «вайна можа ўспыхнуць нечакана», што «цяпер войны не абвяшчаюцца, а яны проста пачынаюцца».

*) „Правда" ад 16-X 1936 г.
**) „Правда" ад 5-X 1936 г.

Словы правадыра абавязваюць усе совецкія народы, а ў асаблівасці народы БССР, мяжуючыя з капіталістычным Захадам, змагацца за выкананне плана чацвертага года другой пяцігодкі, каб яшчэ больш узмацніць абароназдольнасць Совецкага саюза і магутнасць нашай Чырвонай арміі.

* * *

Пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскай партыі на чале з геніяльнейшым правадыром і арганізатарам социялістычнага будаўніцтва—таварышом Сталіным, з чыім імем непарыўна звязаны ўсе нашы перамогі, краіна Советаў сустракае 19 гадавіну вялікай Окцябрскай рэволюцыі, як непрыступная крэпасць социялізма. Нашы перамогі агромны. Але на іх мы не можам супакоіцца. Наперадзе стаяць грандыёзныя задачы па завяршэнню плана другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадства.

Далейшая барацьба патрабуе падзесяцярыць энергію і ўпартасць, каб сустрэць 20-ю гадавіну Окцябрскай рэволюцыі новымі перамогамі і завяршэннем плана другой пяцігодкі. Побач з гэтым далейшая барацьба патрабуе ўсямернага павышэння рэволюцыйнай пільнасці. Трэба памятаць, што класавая барацьба не спыняецца, а, як паказаў працэс над агалцелай трацкісцка-зіноўеўскай бандай забойц, яшчэ больш абвастраецца, што класавыя ворагі пераходзяць да ўсё больш рэзкіх форм наскокаў на партыю і совецкую ўладу, ставячы сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізма ў нашай краіне. Наша задача—умець распазнаваць усіх прытаіўшыхся ворагаў і бязлітасна выкрываць іх.

* * *

Пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна пролетарыят 19 год таму назад зверг уладу капіталістаў і памешчыкаў і ўстанавіў сваю дыктатуру. Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і правадыра ўсіх працоўных—таварыша Сталіна—працоўныя масы к 19 гадавіне свайго вызвалення атрымалі сусветна-гістарычныя перамогі на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і таварыша Сталіна ўвесь совецкі народ пойдзе наперад па шляху замацавання перамог социялізма і даб'ецца новых перамог у справе стварэння бяскласавага социялістычнага грамадства і заможнага, культурнага, радаснага жыцця.

---

Анры Барбюс

# Жалезная рука*)

... Калі вызваленае чалавецтва будзе адзначаць даты свайго вызвалення, то з найбольшым уздымам, з найбольшым энтузіязмам яно пачне святкаваць дзень 25 Окцябра 1917 года, дзень рашучага пераходу ад камедыі рэволюцыі да рэволюцыі сапраўднай. І яно аддасць чэсць тым, хто гэта ўтварыў.

Окцябрская рэволюцыя, звышрэволюцыя—удалася.

Яна адразу-ж дэкрэтуе безадкладны мір (першая практычная ўмова перамогі, першы промень святла ў хаосе); яна дэкрэтуе перадачу ўсёй улады Советам, г. зн. дыктатуру пролетарыята, уладу, якая нараджаецца ўсюды з самой зямлі, сапраўднае чалавечае права. Яна агалашае поўнае, зверхуданізу, разбурэнне ўлады буржуазіі не для таго, каб проста замяніць яе ўладаю класа, які да той пары прыгнятаўся і эксплаатаваўся, але для таго, каб рэарганізаваць усё грамадства пры дапамозе адзінай сілы, здольнай выканаць гэту каласальную задачу,—пры дапамозе пролетарыята. Каб стварыць, нарэшце, сапраўднае, цалкам каапераванае грамадства—без класаў, без прыгнечання і эксплаатацыі, непадзельнае і, натуральна, адкрытае для ўсяго свету грамадства працы. Капіталістычны фронт, які ахапляў да таго моманту ўвесь земны шар, быў прарваны, і прабоіна аказалася так агромна, што ў ёй умясцілася шостая частка ўсёй зямное сушы**).

* * *

Новая праблема каласальнай важнасці—грамадзянская вайна. Узброеныя ворагі,—яны атрымалі багатае ўзбраенне ад еўрапейскіх дзяржаў,—ахапілі кальцом усю Расію і, напіраючы на ўсе яе граніцы, ужо прарваліся ва многіх пунктах унутр краіны.

«Былі такія гадзіны,—асабліва ў кастрычніку 1919 года,—калі маладая рэспубліка здавалася на краі пагібелі. Але ні белыя арміі, ні ваенны напад Польшчы, ні сялянскія паўстанні, ні голад не зламалі яе волю. Натхняемыя Леніным, яе раздзетыя і разутыя батальёны

*) Раздзел з кнігі Анры Барбюса „Сталін“.
**) Гэтыя першыя тры абзацы з'яўляюцца ўрыўкам з раздзелу „Гігант“. (Рэд.).

ўзялі верх над чатырнаццаццю дзяржавамі»,—вымушан пісаць у сваім нарысе г. Малле, рэакцыйны журналіст, усім сэрцам адданы капіталізму і наогул вельмі прыстрасны.

Тут трэба асвятліць асабістую ролю Сталіна.

На якім-бы фронце грамадзянскай вайны ні ўзнікала асабліва грозная небяспека,—усюды пасылалі Сталіна.

«У перыяд 1918—1920 гг. таварыш Сталін з'яўляўся, бадай, адзіным чалавекам, якога Цэнтральны камітэт кідаў з аднаго баявога фронту на другі, выбіраючы найбольш небяспечныя, найбольш страшныя для рэволюцыі месцы.

... Там, дзе ў сілу цэлага раду прычын трашчалі чырвоныя арміі, дзе контррэволюцыйныя сілы, развіваючы свае поспехі, пагражалі самому існаванню совецкай улады, дзе замяшанне і паніка маглі ў любую мінуту ператварыцца ў бездапаможнасць, катастрофу,— там з'яўляўся таварыш Сталін. Ён не спаў начэй, ён арганізоўваў, ён браў у свае цвёрдыя рукі кіраўніцтва, ён ламаў, быў бязлітасны і—ствараў пералом, аздараўляў абстаноўку. Сам таварыш Сталін пісаў... што яго «ператвараюць у спецыяліста па чыстцы канюшань ваеннага ведамства» *) (Варашылаў).

Гэта—адзін з самых дзіўных і адначасова самых нязвычайных адрэзкаў жыццёвага шляху Сталіна. Ён вёў ваенную работу з такім бляскам, ён дабіўся такіх перамог, якіх давольі, каб праславіць любога палкаводца.

Карыстаючыся звесткамі, паведамленымі Варашылавым і Кагановічам, мы дамо тут кароткі нарыс «ваеннай работы» таго чалавека, якога той-жа Варашылаў называе «адным з самых выдатных арганізатараў перамог грамадзянскай вайны».

За два гады Сталін пабываў: на царыцынскім фронце (з Варашылавым і Мініным), на пермскім фронце 3-й арміі (з Дзержынскім), на петраградскім—пры першым наступленні Юдзеніча, на заходнім (смаленскім)—у час польскага контрнаступлення, на паўднёвым—супроць Дзенікіна, зноў на польскім (раён Житоміра) і зноў на паўднёвым—супроць Врангеля.

Немагчыма ўявіць сабе больш жахлівае становішча, чым тое, у якім аказаліся байцы Окцябра ў 1918 годзе. Уся краіна была ператворана ў заваленае трупамі і развалінамі поле бойкі, дзе, не спыняючыся ні на мінуту, ішоў бой за самае галоўнае—за палітычную ўладу.

У Маскве адбываецца леваэсэраўскае паўстанне, на ўсходзе здраджвае Мураўёў, на Урале развіваецца і мацнее чэхаславацкая контррэволюцыя, на крайнім поўдні—к Баку падбіраюцца англічане. «Усё гарыць у вогненным кальцы». Сталін прыязджае ў Царыцын. Тэлеграма за тэлеграмай ляціць па правадах да Сталіна ў Царыцын

*) Намёк на непарадкі ў ведамстве, кіруемым Троцкім.

ад Леніна і назад. Сталін прыехаў не ў якасці ваеннага інспектара, а ў якасці кіраўніка ўсёй харчовай справай поўдня Расіі. Становішча Царыцына набывае велізарнае значэнне. Паўстанне на Дану і страта Царыцына азначалі-б таксама страту—жахлівую страту—усяго Паўночнага Каўказа, гэтай багацейшай жытніцы.

Безадкладна па прыездзе Сталін піша:

«Ганю і лаю ўсіх, каго трэба, спадзяюся, хутка адновім. Можаце быць упэўнены, што не пашкадуем нікога—ні сябе, ні другіх, а хлеб усё-ж дамо. Калі-б нашы ваенныя «спецыялісты» (сапожнікі!) не спалі і не бяздзейнічалі, лінія не была-б перарвана; і калі лінія будзе адноўлена, то не дзякуючы ваенным, а наперакор ім».

Сталін застае ў горадзе «неймаверны хаос». У савецкіх, прафесіянальных і партыйных арганізацыях, у органах ваеннага камандвання—пануюць блытаніна і неразбярыха. На кожным кроку прыходзілася наталквацца на хутка растучую казачую контррэволюцыю, якая атрымлівала ў гэты час багатае падтрыманне ад нямецкіх акупантаў, заняўшых Украіну. Белыя банды захапляюць адзін за другім блізляжачыя ад Царыцына пункты і не толькі зрываюць магчымасць нарыхтоўкі хлеба для Масквы і Петраграда, але і ствараюць прамую пагрозу Царыцыну.

З першага-ж погляду Сталін зразумеў, што перш за ўсё ён павінен узяць ваеннае камандванне з рук хістаючыхся і бездапаможных. 11 ліпеня 1918 года ён тэлеграфуе Леніну: «Справа ўскладняецца тым, што штаб Паўночнакаўказскай акругі аказаўся зусім непрыстасаваным да ўмоў барацьбы з контррэволюцыяй. Справа не толькі ў тым, што нашы «спецыялісты» псіхалагічна няздольны да рашучай вайны з контррэволюцыяй, але таксама і ў тым, што яны як «штабныя» работнікі, якія ўмеюць толькі «чарціць чарцяжы» і даваць планы перафарміроўкі, абсалютна безуважны да аперацыйных дзеянняў... і наогул адчуваюць сябе як пабочныя людзі, госці».

Сталін не такі чалавек, каб абмежавацца канстатаваннем фактаў. Трэба дзейнічаць,—і ён дзейнічае. «Глядзець на гэта безуважна, калі фронт Кальніна (на Паўночным Каўказе) адарваны ад пункта снабжэння, а поўнач—ад хлебнага раёна, лічу сябе не ў праве. Я буду выпраўляць гэтыя і многія іншыя недачоты на месцах, я прымаю рад мер і буду прымаць аж да змяшчэння губячых справу чыноў і камандзіраў, не гледзячы на фармальныя затрудненні, якія пры неабходнасці буду ламаць. Пры гэтым зразумела, што бяру на сябе ўсю адказнасць перад усімі вышэйшымі ўстановамі».

Масква адказвае: Так, пастаўце на ногі ўсю арганізацыю... «навесці парадак, аб'яднаць атрады ў рэгулярныя часці, устанавіць правільнае камандванне, выгнаўшы ўсіх непавінуючыхся» (з тэлеграмы РВС Рэспублікі з надпісам: «Гэтая тэлеграма адпраўляецца па ўзгадненню з Леніным»).

У момант, калі гэта агульная дырэктыва,—тры радкі, ускладаючыя на яго каласальныя задачы,—дашла да Сталіна, становішча яшчэ больш ускладнілася: к Царыцыну падышлі рэшткі украінскіх рэволюцыйных армій, адступаючых пад націскам германскіх войск праз данскія стэпы.

Выправіць такое становішча—здавалася немагчымым. Вогненная воля Сталіна бярэцца за гэта. Нібы з-пад зямлі вырастае Рэволюцыйны ваенны совет, які безадкладна прыступае да арганізацыі рэгулярнай арміі. На працягу самага кароткага часу ствараюцца дывізіі, брыгады і палкі. Штаб, органы снабжэння, тылавыя ўстановы, а таксама совецкі і партыйны апарат—ачышчаюцца ад контррэволюцыйных элементаў.

У Царыцыне ўсё-ж знашлося даволі старых надзейных большэвікоў, каб асадзіць контррэволюцыянераў і расправіцца з імі. І вось справа пашла: усё наладзілася, на граніцы данской контррэволюцыйнай плямы стварыўся чоткі і моцны Чырвоны штаб, гатовы адбіць усіх бандытаў—айчынных і замежных.

Але гэта яшчэ не ўсё. Горад быў перапоўнены белагвардзейцамі. Эсэры, тэрарысты і махровыя манархісты адкрыта згаварваліся адзін з другім. (Сталае, нязменнае дзелавое супрацоўніцтва так званых «сапраўдных рэволюцыянераў» з горшымі ворагамі рэволюцыі,—яны спаборнічалі паміж сабою ў тым, хто нанясе рэволюцыі больш адчувальны ўдар,—каментарыяў не патрабуе).

Царыцын быў убежышчам, дзе знашла сабе прытулак збегшая буржуазія. Там яна, амаль не хаваючыся, знюхалася з белым афіцэрствам і адкрыта разгульвала па вуліцах і грамадскіх садах, дзе грымелі аркестры. Царыцын быў цэнтрам змоў на вачах ва ўсіх.

Ён перастаў быць такім цэнтрам. Рэвваенсовет на чале са Сталіным ствара́е спецыяльную Чэка, каб расквітацца з гэтай публікай. Паўсюды з падвоенай ярасцю лютавала грамадзянская вайна, з усіх бакоў ліхаманкава ўзмацнялі сваю дзейнасць замежныя душыцелі рэволюцыі, і дня не праходзіла, каб не раскрывалася якая-небудзь подлая змова.

Аб гэтым перыядзе расказвае ў белагвардзейскім журнале «Донская волна» ад 3 лютага 1919 года нехта Насовіч,—здраднік, які служыў у совецкім штабе начальнікам аперацыйнага кіраўніцтва і ўцёк у красноўскую армію. Ён вымушан аддаць належнае Сталіну: калі падзеі сарвалі ўсю работу па загатоўцы і адпраўцы харчавання,—аказалася, што «не ў правілах такога чалавека, як Сталін, адыходзіць ад раз пачатай ім справы». І Насовіч паказвае, як Сталін бярэ ў свае рукі ўсё ваеннае і грамадзянскае кіраўніцтва, як ён няўхільна, раз за разам, адбівае ўсе наскокі, усе прошукі заклятых ворагаў рэволюцыі.

Вось напрыклад: «К гэтаму часу,—гаворыць Насовіч,—мясцовая контррэволюцыйная арганізацыя, якая стаіць на платформе ўстаноўчага сходу, значна ўзмацнілася і, атрымаўшы з Масквы грошы, рых-

тавалася да актыўнага выступлення для дапамогі данскім казакам у справе вызвалення Царыцына. На вялікі жаль, прыбыўшы з Масквы глава гэтай арганізацыі інжынер Алексееў і яго два сыны былі мала знаёмы з сапраўднай абстаноўкаю і, дзякуючы няправільна складзенаму плану, заснаванаму на прыцягненні ў рады актыўна выступаючых сербскага батальёна, быўшага на службе ў большэвікоў пры чрэзвычайцы, арганізацыя аказалася раскрытай...»

Ленін надзвычай апасаўся выступлення левых эсэраў у Царыцыне. Ён тэлеграфаваў аб гэтым Сталіну і атрымаў такі адказ: «Што датычыць істэрычных, будзьце ўпэўнены, у нас рука не дрогне, з ворагамі будзем дзейнічаць па-варожаму».

Суровыя, але неабходныя меры супроць ворагаў, са зброяй у руках нападаўшых на рэволюцыю ў разгар яе заўзятай вайны з замежнымі інтэрвентамі,—супроць ворагаў, якія разлічвалі толькі на забойства,—узнялі маральны стан чырвоных палкоў на фронце. Ваенныя і палітычныя кіраўнікі, масы байцоў—адчулі, што іх вядзе цвёрды чалавек, які ўладае дакладнымі ведамі канцовай мэты, бязлітасны да ўсякага, хто хоча вярнуць былых рабоў к ранейшаму рабству, да ўсякага, хто хоча паставіць лавушку новаму, разбіўшаму ланцугі народу, хто хоча, хаваючыся пад белым, чорным, а іншы раз і чырвоным сцягам, уваткнуць вызваленым вызваліцелям нож у спіну.

Сталін браў на сябе адказнасць, але патрабаваў і ўлады, як патрабуе яе ўсякі, каму яна патрэбна для справы. Вось які факт паведамляе нам той-жа здраднік Насовіч: «Калі Троцкі, занепакоены разбурэннем з такой цяжкасцю наладжанага ім кіраўніцтва акруг, прыслаў тэлеграму аб неабходнасці пакінуць штаб і камісарыят на ранейшых умовах і даць ім магчымасць працаваць, то Сталін зрабіў катэгарычны і многазначны надпіс на тэлеграме: «Не прымаць пад увагу». Так гэту тэлеграму і не прынялі пад увагу, а ўсё артылерыйскае і частка штабнога кіраўніцтва працягвалі сядзець на баржы ў Царыцыне».

Каб прасачыць за выкананнем сваіх загадаў і навесці большэвіцкі парадак, Сталін асабіста адпраўляецца на фронт, які к таму часу расцягнуўся на 600 кілометраў. Гэты чалавек, які ніколі не быў на ваеннай службе, уладаў такім арганізатарскім геніем, што ён здолеў зразумець і вырашыць самыя складаныя і цяжкія спецыяльныя пытанні (хоць крытычнае становішча, якое пагаршалася з кожным днём, страшэнна ўскладняла іх).

«Памятаю як зараз,—піша Варашылаў,—пачатак жніўня 1918 г. Красноўскія казачыя часці вядуць наступленне на Царыцын, спрабуючы канцэнтрычным ударам скінуць чырвоныя палкі на Волгу. На працягу многіх дзён чырвоныя войскі на чале з комуністычнай дывізіяй, якая цалкам складалася з рабочых Донбаса, адбіваюць выключнай сілы націск дасканала арганізаваных казачых часцей. Гэта былі дні велізарнейшага напружання. Трэба было бачыць таварыша Ста-





ліна ў гэты час. Як заўсёды, спакойны, паглыблены ў свае думкі, ён літаральна цэлымі суткамі не спаў, размяркоўваючы сваю інтэнсіўнейшую работу паміж баявымі пазіцыямі і штабам арміі. Становішча на фронце рабілася амаль катастрафічным. Красноўскія часці пад камандваннем Фіцхалаурава, Мамантава і інш. добра прадуманым манеўрам пацяснілі нашы зматаныя, нёсшыя велізарныя страты войскі. Фронт праціўніка, пабудаваны падковай, якая ўпіралася сваімі флангамі ў Волгу, з кожным днём сціскаўся ўсё больш і больш. У нас не было шляхоў адыходу. Але Сталін аб іх і не клапаціўся. Ён быў пранікнуты адной свядомасцю, адной адзінаю думкай—перамагчы, разбіць ворага ва што-б там ні стала. І гэта несакрушальная воля Сталіна перадавалася ўсім яго бліжэйшым саратнікам і, не гледзячы на амаль бязвыхаднае становішча, ніхто не сумняваўся ў перамозе.

І мы перамаглі. Разгромлены вораг быў адкінуты далёка к Дону».

Тое-ж змрочнае становішча, тая-ж эпапея на ўсходнім фронце, у Пермі.

К канцу 1918 года гэты фронт быў у выключна небяспечным, амаль безнадзейным стане.

3-я армія паддавалася, ёй прышлося здаць Пермь. Пад жорсткімі ўдарамі праціўніка, наступаўшага поўкальцом, гэта армія к канцу лістапада была канчаткова дэмаралізавана. Вынік апошніх шасці месяцаў,—баі ішлі, не спыняючыся,—быў патрасаючым: адсутнасць рэзерваў, незабяспечанасць тылу, агідна наладжанае харчаванне (29-я дывізія пяць сутак адбівалася літаральна без кавалка хлеба); пры 35-градусным марозе, поўным бездарожжы, велізарнай расцягнутасці фронту (больш чатырохсот кіламетраў), пры слабым штабе «3-я армія аказалася не ў стане ўстаяць супроць націску выдатных сіл праціўніка».

К таму-ж былыя афіцэры, нядаўнія царскія слугі, масамі здраджвалі, і цэлыя палкі, змучаныя бяздарным або п'янствуючым камандваннем, здаваліся праціўніку.

Тады адбылася катастрофа: беспарадачнае адступленне—трыста кіламетраў за дваццаць дзён,—страта 18.000 байцоў, дзесяткаў гармат, соцень кулямётаў. Праціўнік набліжаўся, пагражаючы Вятцы і ўсяму ўсходняму фронту.

Ленін тэлеграфуе РВСР: «Ёсць рад партыйных паведамленняў з-пад Пермі аб катастрафічным стане арміі і аб п'янстве. Я думаў паслаць Сталіна...»

ЦК паслаў Сталіна і Дзержынскага. Сваю асноўную задачу—«расследванне прычын здачы Пермі»—Сталін адсунуў на другі план, а цэнтр цяжару сваёй работы перанёс на прынядце дзейсных мер па ўзнаўленню становішча. Становішча аказалася яшчэ горш, чым мер-

кавалі, і Сталін тэлеграфна паведаміў аб гэтым Старшыні Совета Абароны, Леніну, патрабуючы безадкладных падмацаванняў, якія дазволілі-б сустрэць небяспеку. Праз тыдзень ён пасылае справаздачу аб прычынах здачы Пермі і разам з Дзержынскім прапануе цэлы рад мерапрыемстваў па ўзняццю боездольнасці 3-й арміі. З уласцівай яму хуткасцю і рашучасцю ён правёў усе гэтыя шматлікія ваенныя і палітычныя меры, і ў тым-жа месяцы (студзень 1919 года) далейшае прасоўванне праціўніка было прыпынена, усходні фронт перайшоў у наступленне, і на правым флангу быў узяты Уральск.

У падобнай-жа трагічнай абстаноўцы знаходзілася ўвесну 1919 года і 7-я армія, біўшаяся супроць белых полчышчаў Юдзеніча, якому была пастаўлена Калчаком задача «аўладаць Петраградам» і адцягнуць рэволюцыйныя войскі з усходняга фронту.

Пры дапамозе белаэстонцаў, белафіннаў і англійскага флота Юдзеніч перашоў у нечаканае наступленне і стварыў рэальную пагрозу Петраграду.

Зверх таго ён меў саюзнікаў у самым Петраградзе: там была выяўлена змова, ніці якое знаходзіліся ў руках ваенных спецыялістаў, служыўшых у штабе заходняга фронту, у 7-й арміі і кранштацкай морскай базе.

Юдзеніч наступаў на Петраград, а ў гэты час Булак-Балаховіч дабіўся раду поспехаў на пскоўскім напрамку. Здрадніцтва і дэзерцірства ўсё памнажаліся. Гарнізон фартоў «Чырвоная горка» і «Шэры конь» адкрыта выступіў супроць совецкай улады. Адлегласць паміж белымі і Петраградам скарачалася, совецкія часці адступалі. За-граніцай рабочыя ліхаманкава чакалі звестак і ў трывозе, у ярасці, у роспачы сцякаліся на масавыя сходы (Вы памятаеце гэта, французскія таварышы!).

Цэнтральны камітэт паслаў Сталіна, і ён у тры тыдні поспяхова арганізаваў рэволюцыйнае супраціўленне: праз дваццаць дзён расхлябанасць і замяшанне часцей і штаба былі ліквідаваны. Мабілізуюцца піцерскія рабочыя і комуністы. Дэзерцірства прасечана ў корані. Вораг спынен і разбіт, здраднікі знішчаны.

Сталін асабіста кіруе ваеннымі дзеяннямі.

Вось, што ён тэлеграфуе Леніну: «Следам за «Чырвонаю горкай» ліквідаваны «Шэры конь»... ідзе хуткі рамонт усіх фартоў і крэпасцей. Морскія спецыялісты запэўніваюць, што ўзяцце «Чырвонай горкі» з мора апракідвае ўсю морскую навуку. Мне застаецца толькі аплакваць так званую навуку. Хуткае ўзяцце «Горкі» тлумачыцца самым грубым умяшаннем з боку майго і наогул штацкіх у аперацыйныя справы, даходзячым да адмены загадаў па мору і сушы

і навязвання сваіх уласных. Лічу сваім доўгам заявіць, што я і наперад буду дзейнічаць такім чынам, не гледзячы на ўсё маё благагавенне перад навукай».

І вось вынік гэтай маланкавай кампаніі—новая тэлеграма Сталіна, пасланая Леніну ўсяго шэсць дзён пазней:

«Пералом у нашых часцях пачаўся. За тыдзень не было ў нас ні аднаго выпадку частковых або групавых перабежак. Дэзерціры звачаюцца тысячамі. Перабежкі з лагеру праціўніка ў наш лагер пачасціліся. За тыдзень да нас перабегла чалавек 400, большасць са зброяй. Учора ўдзень пачалося наша наступленне. Хоць абяцанае падмацаванне яшчэ не атрымана, стаяць далей на той-жа лініі, на якой мы спыніліся, нельга было—занадта блізка да Піцера. Пакуль што наступленне ідзе паспяхова, белыя бягуць, намі сёння занята лінія Кернова—Варонiна—Слепіна—Каскова. Узяты намі палонныя, 2 або больш гармат, аўтаматы, патроны. Непрыяцельскія судны не з'яўляюцца, відавочна баяцца «Чырвонай горкі», якая цяпер зусім наша...»

А цяпер—паўднёвы фронт.

«Восень 1919 г.,—піша Варашылаў,—памятна ўсім. Наступаў рашаючы, пераломны момант усёй грамадзянскай вайны».

І Варашылаў ускрывае асноўныя рысы стварыўшагася становішча: агульнае наступленне Дзенікіна па ўсяму паўднёваму фронту. Снабжоныя «саюзнікамі», падтрыманыя іх штабамі, белагвардзейскія полчышчы Дзенікіна падыходзілі к Орлу. Увесь велізарны паўднёвы фронт павольнымі валамі адкатваўся назад. Унутры становішча было не менш цяжкое. Харчовыя затрудненні надзвычайна абвастрыліся. Прамысловасць спынялася ад недахопу паліва. Унутры краіны, і нават у самой Маскве, заварушыліся контррэвалюцыйныя элементы. Небяспека пагражала Туле, небяспека навісла над Масквой.

Што рабіць у момант такой катастрофы? І на паўднёвы фронт ЦК пасылае Сталіна ў якасці члена РВС.

«Цяпер,—піша Варашылаў,—ужо няма патрэбы скрываць, што перад сваім назначэннем таварыш Сталін паставіў перад ЦК тры галоўныя ўмовы: 1) Троцкі не павінен умешвацца ў справы паўднёвага фронту і не павінен пераходзіць за яго разгранічальныя лініі, 2) з паўднёвага фронту павінен быць безадкладна адклікан цэлы рад работнікаў, якіх таварыш Сталін лічыў непрыгоднымі аднавіць становішча ў войсках, і 3) на паўднёвы фронт павінны быць безадкладна камандзіраваны новыя работнікі па выбару Сталіна, якія гэту задачу здолелі-б выканаць. Гэтыя ўмовы былі прыняты цалкам.

Але для таго, каб ахапіць гэту велізарную махіну (ад Волгі да польска-украінскай граніцы), якая называлася паўднёвым фронтам, налічвала ў сваім складзе некалькі сот тысяч войск, патрэбны быў

дакладны аперацыйны план, патрэбна была ясна сфармуляваная задача фронту. Тады гэту мэту можна было-б паставіць перад войскамі і шляхам перагрупоўкі і сканцэнтравання лепшых сіл на галоўных напрамках нанесці ўдар ворагу».

Сталін застае на фронце абстаноўку замяшання і развалу. Атмасфера навіснуўшай грозы і безнадзейнасці. Чырвоная армія Рэспублікі разбіта на галоўным напрамку Курск—Орол—Тула. Усходні фланг бездапаможна топчацца на месцы.

Што-ж рабіць? Меўся аператыўны план, прыняты Галоўным камандваннем яшчэ ў верасні. Па гэтаму плану меркавалася нанесці праціўніку галоўны ўдар левым флангам, ад Царыцына на Новарасійск, праз данскія стэпы.

Перш за ўсё Сталін канстатуе, што з верасня месяца «асноўны план наступлення паўднёвага фронту застаецца без змены; іменна галоўнейшы ўдар наносіцца асобаю групай Шорына, якая мае задачай знішчэнне ворага на Дану і Кубані».

Сталін вывучае гэты план, прапрацоўвае яго, абдумвае—і рашае, што план не гадзіцца. Цяпер ужо не гадзіцца. Два месяцы назад ён быў нядрэнны, але з таго часу акалічнасці перамяніліся. Патрэбна нешта іншае. Сталін бачыць, што іменна трэба,—і пасылае Леніну новыя прапановы. Прачытаем яго пісьмо: гэты гістарычны дакумант пакажа нам адначасова і становішча на агромным паўднёвым фронце, і смелую праніцальнасць аўтара.

«Месяцы два назад Глаўком прынцыпова не супярэчыў супроць удару з захаду на ўсход праз Данецкі басейн, як асноўнага. Калі ён усё-ж не пашоў на такі ўдар, то таму, што спасылаўся на «спадчыну», атрыманую ў выніку адступлення паўднёвых войск летам, г. зн. на стыхійна стварыўшуюся групоўку войск паўднёва-ўсходняга фронту, перабудова якой (групоўкі) павяла-б да вялікай страты часу, к выгадзе Дзенікіна... Але цяпер абстаноўка і звязаная з ёю групоўка сіл змяніліся ў аснове: 8 армія (асноўная на былым паўднёвым фронце) перасунулася ў раён южфронту і глядзіць проста на Данецкі басейн, конкорпус Будзённага (другая асноўная сіла) перасунуўся таксама ў раён южфронту, прыбавілася новая сіла—латдывізія,—якая праз месяц, абнавіўшыся, зноў прадставіць грозную для Дзенікіна сілу... Што-ж прымушае Главкома (стаўку) адстойваць стары план? Відавочна адна толькі ўпартасць, калі хочаце—фракцыйнасць, самая тупая і самая небяспечная для Рэспублікі, культываемая ў Глаўкоме састаячым пры ім «стратэгічным» петушком... *) Гэтымі днямі Глаўком даў Шорыну дырэктыву аб наступленні на Новарасійск праз данскія стэпы па лініі, па якой можа быць і зручна лятаць нашым авіятарам, але ўжо зусім немагчыма будзе цягацца нашай пяхоце і артылерыі. Няма чаго і даказваць, што гэты дзівачны (мяркуемы) паход

*) Намёк на Троцкага.

у асяроддзі варожым нам, ва ўмовах абсалютнага бездарожжа, пагражае нам поўным крахам. Не цяжка зразумець, што гэты паход на казачыя станіцы, як гэта паказала нядаўняя практыка, можа толькі згуртаваць казакаў супроць нас вакол Дзенікіна для абароны сваіх станіц, можа толькі выставіць Дзенікіна збавіцелем Дона, можа толькі стварыць армію казакаў для Дзенікіна, г. зн. можа толькі ўзмацніць Дзенікіна. Іменна таму неабходна цяпер-жа, не трацячы часу, змяніць ужо адменены практыкай стары план, замяніўшы яго планам асноўнага ўдару праз Харкаў—Данецкі басейн на Растоў: па-першае, тут мы будзем мець асяроддзе не варожае, наадварот,—сімпатызуючае нам, што палегчыць наша прасоўванне; па-другое, мы атрымліваем важнейшую чыгуначную сетку (данецкую) і асноўную артэрыю, якая жывіць армію Дзенікіна,—лінію Варонеж—Растоў... па-трэцяе, гэтым прасоўваннем мы рассякаем армію Дзенікіна на дзве часткі, з якіх Добравольчаскую пакідаем на з'ядзенне Махно, а казачыя арміі ставім пад пагрозу заходу ім у тыл; па-чацвертае, мы атрымліваем магчымасць пасварыць казакаў з Дзенікіным, які (Дзенікін) у выпадку нашага паспяховага прасоўвання пастараецца перасунуць казачыя часці на захад, на што большасць казакаў не пойдзе... па-пятае, мы атрымліваем вугаль, а Дзенікін застаецца без вугалю. З прыняццем гэтага плана нельга марудзіць... Карацей: стары, ужо адменены жыццём план ні ў якім выпадку не належыць гальванізаваць,— гэта небяспечна для Рэспублікі, гэта напэўна палегчыць становішча Дзенікіна. Яго трэба замяніць іншым планам. Акалічнасці і ўмовы не толькі наспелі для гэтага, але і валадарна дыктуюць такую замену... Без гэтага мая работа на паўднёвым фронце становіцца бяссэнснай, злачыннай, непатрэбнай, што дае мне права або, вярней, абавязвае мяне пайсці куды хочаце, хоць да чорта, толькі не заставацца на паўднёвым фронце. **Ваш Сталін».**

Цэнтральны камітэт без хістанняў прыняў план Сталіна. Сам Ленін уласнай рукой напісаў распараджэнне палявому штабу аб безадкладнай змене зжыўшай сябе дырэктывы. Галоўны ўдар быў нанесены паўднёвым фронтам у напрамку на Харкаў—Донбас—Растоў. Вынікі вядомы: перелом у грамадзянскай вайне быў дасягнуты. Дзенікінскія полчышчы былі апракінуты ў Чорнае мора. Украіна і Паўночны Каўказ вызвалены ад белагвардзейцаў. Грамадзянская вайна заканчвалася перамогай рэволюцыі.

Быстрыня і паўната поспехаў Сталіна такія, што хочацца думаць аб нейкім магічным жазле. Самым выдатным, зусім выключным з'яўляецца тут тое, што ў адным чалавеку гарманічна спалучаліся ўсе творчыя элементы практычнага, дзейснага рэалізма. Сапраўдны рэаліст павінен абладаць праніцальнасцю, каб прадбачыць падзеі, павінен мець смеласць заяўляць, што іншы раз больш доўгі шлях аказваецца самым кароткім, павінен быць даволі сільным, каб адпаведна накіроўваць ход падзей.

Прыбыцце Сталіна на паўднёвы фронт мела сваім вынікам стварэнне Коннай арміі, якая адыграла такую агромную ролю ў канчатковым разгроме белых. Дзякуючы сваёй настойлівасці Сталін прымусіў прыняць план, які не раздзяляўся часткай Рэўваенсовета, перш за ўсё ў адносінах паўднёвага фронту. Сталіну-ж належыць заслуга вядомай змены ваеннай тактыкі— прымяненне ўдарных груп: выбіраючы галоўныя напрамкі, сканцэнтроўваць на іх лепшыя часці і біць ворага.

Распрацоўваючы гэту стратэгію прамога дзеяння, Сталін адначасова не спускаў з вока і ваенную арганізацыю ў яе цэлым, і неабходнасць гарманічнага падпарадквання гэтаму цэламу ўсіх яе частак. У студзені 1919 года Сталін піша разам з Дзержынскім: «Армія не можа дзейнічаць як самадаўлеючая зусім аўтаномная адзінка; у сваіх дзеяннях яна цалкам залежыць ад сумежных з ёю армій і перш за ўсё ад дырэктыў Рэўваенсовета Рэспублікі: самая боездольная армія пры іншых роўных умовах можа пацярпець крах пры няправільнасці дырэктыў цэнтра і адсутнасці дзейснага кантакту з сумежнымі арміямі. Неабходна ўстанавіць на фронтах, перш за ўсё на ўсходнім фронце, рэжым строгай цэнтралізацыі дзеянняў паасобных армій вакол ажыццяўлення пэўнай, сур'ёзна прадуманай стратэгічнай дырэктывы. Самавольства або неабдуманасць у справе вызначэння дырэктыў, без сур'ёзнага ўліку ўсіх даных, і выцякаючая адсюль быстрая змена дырэктыў, а таксама неакрэсленасць саміх дырэктыў, як гэта дапускае Рэўваенсовет Рэспублікі, выключае магчымасць кіраўніцтва арміямі...»

У гэтым раздзеле аб грамадзянскай вайне нельга не адзначыць, што на VIII з'ездзе партыі Сталін абараняў ідэю «новай арміі»,—арміі рэгулярнай, выхаванай у духу дысцыпліны і ахопленай сістэмай паліт-аддзелаў.

Тым часам грамадзянская вайна нечакана ўспыхнула з новаю сілай: з'явіўся Врангель—прагны авантурыст, які хварэў маніяй велічы. Грашмі, салдатамі і ўзбраеннем яго дасыта забяспечылі Францыя і Англія, якія імкнуліся ва што-б там ні стала давесці да канца сваю ролю супольнікаў белагвардзейшчыны, адбудавальнікаў рэжыму бізуна і рабства.

Врангель, заявіўшы urbi et orbi (усяму свету), што ён саюзнік Польшчы, вырваўся з межаў Крыма і стварыў страшную пагрозу толькі што вызваленаму Донбасу і ўсяму поўдню.

Першая думка Цэнтральнага камітэта—зноў заклікаць Сталіна. Пастанова ад 3 жніўня 1920 года:

«З прычыны поспеху Врангеля і трывогі на Кубані неабходна прызнаць врангелеўскі фронт маючым агромнае, зусім самастойнае значэнне, вылучыўшы яго як самастойны фронт. Даручыць таварышу Сталіну сфармаваць Рэўваенсовет, цалкам сканцэнтраваць свае сілы на врангелеўскім фронце, у якасці камандуючага фронтам—Егорава або Фрунзе, па ўзгадненню Глаўкома са Сталіным». Ленін піша

Сталіну: «Толькі што правялі Палітбюро раздзяленне фронтаў, каб вы выключна заняліся Врангелем»...

Сталін арганізоўвае новы фронт. Хвароба прымушае яго часова пакінуць работу, але як толькі пачынаецца польская кампанія, ён зноў на баявым пасту, у якасці члена Рэўваенсовета паўднёва-заходняга фронту. Разгром польскіх армій, вызваленне Кіева і Правабярэжнай Украіны, глыбокае пранікненне ў Галіцыю—у значнай ступені з'яўляюцца рэзультатам яго кіраўніцтва. Яму належыць ідэя знамянітага рэйду 1-й Коннай арміі.

Разгром усяго польскага фронту на Украіне і амаль поўнае знішчэнне 3-й польскай арміі пад Кіевам, удары па Бердзічэву і Жытоміру і рух 1-й Коннай арміі ў ровенскім напрамку стварылі абстаноўку, дазволіўшую Чырвонай арміі перайсці ў агульнае наступленне. Але няўдача чырвоных войск пад Варшавай у баях з польска-еўрапейскімі сіламі зрывае націск Коннай арміі, якая нарыхтавалася да атакі Львова (яна знаходзілася ў 10 кілометрах ад Львова).

Сталін, які многакратна ў корані выпраўляў становішча на самых напружаных і пагражаемых участках фронту грамадзянскай вайны, быў двойчы ўзнагароджан ордэнам Чырвонага сцягу і прызначан членам Рэўваенсовета Рэспублікі (ён працаваў на гэтым пасту з 1920 па 1923 год).

«Грамадзянская вайна»—тэрмін недакладны. Руская рэвалюцыя была атакована не толькі белагвардзейцамі, але і замежнымі дзяржавамі. Чырвонай арміі прышлося біцца не толькі з царскаю ваеншчынай і царскімі штабамі, але і з ваеншчынай французскай і англійскай, а таксама японскай, амерыканскай, румынскай, грэчаскай і т. д.

Імперыялістычныя дзяржавы не здаволіліся тым, што зусім адкрыта падтрымлівалі правадыроў белагвардзейскіх орд (усе гэтыя правадыры былі пачаргова афіцыяльна прызнаны французскім урадам),—падтрымлівалі і грашмі, і людзьмі, і кіраўніцтвам. Мала таго: сусветная вайна была ўжо скончана, мір быў ужо заключан, а французскія і англійскія войскі, наперакор усякаму міжнароднаму праву, пранікнуўшы ў Расію і з мора і з сушы, прыняліся следам за германскімі войскамі захапляць і грабіць совецкія землі, збіваць насельніцтва, расстрэльваць кіраўнікоў, разбураць да-тла прамысловыя раёны.

Германская армія адарвала ад Расіі Прыбалтыйскія краіны і Фінляндыю. Саюзнікі адторглі ад яе Польшчу і, папоўніўшы яе кавалкамі Аўстрыі і Германіі, стварылі незалежную дзяржаву. Яны зрабілі гэта не дзеля прыгожых вачэй палякаў, але для таго, каб адгарадзіцца плацінай ад Расіі. Яны ўкралі ў совецкай дзяржавы Бесарабію, каб, пагарджаючы жаданнямі бесарабцаў, заплаціць ёю Румыніі. І ўсе гэтыя махінацыі ажыццёўлены, паўтараю, у той момант, калі ні Францыя ні Англія ні ў якім разе не знаходзіліся ў стане вайны з Расіяй. Іх ваенныя захваты былі прадпрыемствам аб'яднанай контр-

рэволюцыі. Яны былі выкліканы не толькі жаданнем адпомсціць за сепаратны мір (не трэба забываць, што першымі падпісалі Брэсцкі дагавор не большэвікі, а украінскія нацыяналісты, апекунамі якіх адначасова з'яўляліся і Германія і Антанта; ці варта лішні раз падкрэсліваць, што пазіцыя Совецкай Расіі ў Брэсце была пазіцыяй справядлівасці і абароны праў чалавека, а супроць яе выступала крывадушная палітыка імперыялістычнага драпежніцтва, пагібельныя вынікі якой мы цяпер бачым увачавідкі). Але «свабодная» Англія і «рэволюцыйная» Францыя ніяк не маглі прымірыцца з антыкапіталістычнай рэволюцыяй і лічылі сябе абавязанымі зрабіць усё, каб любымі сродкамі перасячы гэты кашмар народнай улады, які ўзнік на вачах усёй Еўропы *)

Тое, што саюзніцкая інтэрвенцыя, спрабаваўшая адарваць ад Расіі області, якім рэволюцыя дала новае соцыяльнае ўстройства, была актам контррэволюцыі, бліскуча даказваецца ўжо хоць-бы адным супрацоўніцтвам войск Антанты з германскімі атрадамі ў Балтыцы (фон-дэр-Гольц, Розенберг).

... Але вось Совецкая Расія вызвалена ад войск контррэволюцыі.

Якасці, праяўленыя Сталіным у драматычных акалічнасцях грамадзянскай вайны, ніколькі не былі нечаканымі для тых, хто ведаў гэтага чалавека. Ён толькі прымяніў у новай сферы дзейнасці свае асабістыя даныя: дакладнасць погляду, уменне адразу ахапляць рашаючыя пункты кожнай канкрэтнай сітуацыі, разуменне сапраўдных прычын і немінучых вынікаў любога факту, разуменне сувязі гэтага факту з усім працэсам, агіду да непарадку і блытаніны, непахісную ўпартасць у справе падрыхтоўкі і стварэння ўсіх умоў, неабходных для дасягнення пастаўленай мэты, раз ужо гэта мэта абдумана і вызначана. Усё гэта—ні што іншае, як сапраўдны марксізм, перанесены на палі боек.

Правадыр, які ўмеў да такой ступені распрацаваць і ўдасканаліць справу практычнага ажыццяўлення, быў суровы і нават жорсткі з тымі, хто не ўмеў працаваць, ён быў неўмалімы да здраднікаў і сабатажнікаў,—але можна ўказаць цэлы рад выпадкаў, калі ён з усёй сваёй велізарнай энергіяй уступаўся за людзей, якія былі, па яго думцы, асуджаны без дастатковых падстаў. Так, напрыклад, іменна ён вызваліў прыгаворанага да смерці Пархоменка.

У нерыяды, калі вырашаюцца лёсы народаў, калі ўсе іграюць ва-банк, калі кожнаму, хоча ён таго ці не, прыходзіцца адказваць сваёй

*) Па пытанню аб чудовішчна скандальнай пасылцы французскай эскадры з пяхотнай дывізіяй у Чорнае мора (1919),—што было грубейшым узброеным умяшаннем ва ўнутраныя справы чужога народу, без аб'яўлення яму вайны,—па пытанню аб гэтым скандале літаратурным прадстаўніком французскага ўрада выступае правы пісьменнік Рэнэ Пінон. Пан Пінон сцвярджае, што „інтэрвенцыя, строга кажучы, не была ўмяшаннем ва ўнутраныя справы замежнай дзяржавы", што яна „не мела такога характару, паколькі справа ішла аб тым, каб вызваліць краіну і адначасова ўвесь свет ад велізарнейшай соцыяльнай небяспекі"... Цяжка ўявіць сабе горшае іезуіцтва.

галавой,—паўстае пытанне аб каштоўнасці чалавечага жыцця і аб праве распалагаць ім дзеля поспеху справы.

Гэта пытанне трэба ставіць у святле социялізма. Калі-б перад намі быў капіталістычны рэжым, імпэрыялістычная ўлада, то ніякіх пытанняў ставіць не прышлося-б. Занадта відавочна, што самы прынцып капіталістычнага імпэрыялізма заснаваны на пагардзе да жыцця чалавека: тавары навязваюцца сілком, гандаль ператвараецца ў таможанную вайну, сістэма пераваг, сістэма індывідуальнай і калектыўнай вайны ўзводзіцца ў правіла. Каланіяльны рэжым ёсць катаржны рэжым інтэнсіўнага выкачвання прыбытку. Краіны-каланізатары бяруць слабыя народнасці ў палон, прысвойваюць іх тэрыторыі і абыходзяцца з туземцамі адначасова як з ворагамі і як з хатняю жывёлай: з іх выціскаюць усе сокі, іх збіваюць, іх прыгаварваюць да прымусовых работ, а калі яны дабіваюцца свабоды, іх проста караюць смерцю. Бельгійскае Конго, Марокко, Французская Заходняя Афрыка, Індыя, Інда-Кітай, Ява. А потым—дзеля выгад нацыянальна-інтэрнацыянальнай фірмы, усе акцыі якой знаходзяцца ў руках некалькіх чалавек, распальваюцца войны, якія наносяць чалавецтву агромныя раны.

Соцыялістычная-ж сістэма—гэта сістэма, якая служыць інтарэсам чалавека. Разумнай і справядлівай арганізацыяй усіх людзей яна імкнецца максімальна палепшыць жыццё кожнага. Яе можна назваць сістэмай «гуманітарнай» па сваёй прыродзе.

Такім чынам, іменна для большэвікоў,—сапраўдных соцыялістаў нашага часу,—пытанне аб пашане да чалавечага жыцця з'яўляецца надзвычай сур'ёзным і важным. І яны ставяць яго самі.

Іменна з пашаны да чалавечага жыцця яны заяўляюць, што некаторых людзей трэба ўмець абясшкоджваць (слова «караць» будзе тут няправільным: звараначыся да містычнай ідэі збавення мы тым самым мяркуем існаванне і асабістае ўмяшанне пана бога).

І сапраўды, зусім відавочна, што ў пэўных выпадках бывае неабходна паразіць аднаго чалавека, каб выратаваць тысячу, каб выратаваць сто тысяч, каб выратаваць будучыню і стварыць лепшы свет, у якім чалавек ужо ніколі не будзе афярай чалавека.

У прастранным эпічным рамане «Адвержаныя» Віктар Гюго са звычайным сваім узвышаным красамоўствам, і ў той-жа час з велізарнай праніцальнасцю, сказаў аб французскай рэволюцыі: «З самых жорсткіх яе ўдараў нараджаецца ласка чалавецтву». Калі для абмежаванай вялікай рэволюцыі 1789 года, якая зрабіла буржуазію гаспадаром XIX века, гэта лірычнае сцверджанне і стала спрэчным, то для ўсеабдымнай рэволюцыі, з патрасаючай сумленнасцю ажыццёўленай людзьмі Окцябра, яно бясспрэчна.

Многія гавораць: «усякая рэволюцыя патрабуе крыві, а ў мяне мяккае сэрца,—і таму я не хачу рэволюцыі». Соцыяльныя кансерватары, якія гавораць так, жалка блізарукі, калі яны толькі не разы-

грываюць камедыю. Мы, якія жывем па-за краінаю Советаў, знаходзімся ва ўмовах крывавага рэжыму. Несправядлівасць і забойствы акружаюць нас з усіх бакоў. Каб пераканацца ў гэтым, даволі азірнуцца вакол. Але большасць не азіраецца. Яна няздольна заўважаць мучэнні другіх. І ў канчатковым выніку рэволюцыю абыватаць разглядае не з пункту погляду таго, што яна дае людзям, а з пункту погляду тых нявыгад і труднасцей, якія яна можа ўнесці ў яго асабістае жыццё.

Нядаўна памёршы кіраўнік ОГПУ Менжынскі, з якім я меў працяглую гутарку, гаварыў мне аб тым, да якой ступені прынцыпова недарэчна абвінавачваць у жорсткасці або неўшанаванні чалавечага жыцця кіруючую партыю Совецкага Саюза, канчатковаю мэтай якое з'яўляецца брацкая салідарнасць усіх людзей на зямлі і мірная праца. І сапраўды, ён паказаў мне, як беражна варта рэволюцыі, родная сястра працоўных мас, выкарыстоўвае кожны выпадак, калі можна «выправіць», «перарабіць» злачынца не толькі крымінальнага (у гэтай галіне карнай палітыкі большэвікі праяўляюць выключную чалавечнасць і амаль парадаксальную цярплівасць), але таксама і палітычнага. Комуністы выходзяць з таго прынцыпу, што крымінальныя злачынцы—гэта людзі, якія не ўсведамляюць уласных інтарэсаў і самі каверкаюць сабе жыццё, так што застаецца толькі даказаць ім гэта; ворагі-ж пролетарскай рэволюцыі, якая з'яўляецца пачаткам рэволюцыі ва ўсім свеце,—таксама людзі, якія заблуджаюцца (тыя, якія шчыры), і іх трэба ў гэтым пераканаць. Вось чаму турму усяляк імкнуцца ператварыць у школу.

Такім чынам праблема рэпрэсій зводзіцца к таму, каб знайсці мінімум, неабходны з пункту погляду агульнага руху наперад. Пераменшыць гэты мінімум—так сама злачынна, як і перапавялічыць. Той, хто шкадуе людзей, якія рыхтуюцца дзейнічаць на шкоду справе ўсяго чалавецтва,—злачынца. Выратавальнік забойцаў—сам забойца. Сапраўдная дабрата павінна прасціраца і на будучае.

Калі-б руская рэволюцыя, к вялікай радасці кучкі ідэалістычных ханжэй, прыняла сістэму механічнага ўсепрабачэння і не стала-б абараняцца той-жа зброяй, якую вораг зварачае супроць яе, то яна нядоўга-б пратрымалася. Яе задушылі-б Францыя, Англія, Польшча. Яны безадкладна ўвялі-б у Петраград цара і белагвардзейцаў, што, дарэчы, гэтыя дзяржавы і спрабавалі зрабіць усімі сродкамі. Калі справа рэволюцыі жыве, калі яна ўжо зараз упрыгожвае сабою будучыню, то гэта таму, што рэволюцыя заўсёды бязжаласна і бязлітасна знішчала агідлівую сетку здрадніцтваў і ўсе змовы, якія рыхтуюць удар нажом у спіну, змовы белагвардзейцаў, імперыялістычных шпіёнаў, дыпламатаў і палітыкаў, сабатажнікаў, эсэраў і анархістаў, нацыяналістаў-меншавікоў, перараджэнцаў-апазіцыянераў, якіх у той ці іншай ступені падтрымлівалі з-за граніцы,—словам, усёй азвярэлай зграі, якая гадуе шалёную нянавісць да краіны, што падала ўзру-

шальны прыклад пераможнай барацьбы за свабоду працы і чалавечую годнасць.

Некалькі год таму назад (у канцы 1931 года) Сталін, адказваючы ў адным інтэрв'ю на пытанне адносна «строгасці і бязлітаснасці савецкай улады ў барацьбе з яе ворагамі», сказаў:

«Калі большэвікі прышлі к уладзе, яны спачатку праяўлялі ў адносінах да сваіх ворагаў мяккасць. Меншавікі працягвалі існаваць легальна і выпускалі сваю газету. Нават кадэты працягвалі выдаваць сваю газету. Калі генерал Красноў арганізаваў контррэволюцыйны паход на Ленінград і трапіў у нашы рукі, то па ўмовах ваеннага часу мы маглі яго па меншай меры трымаць у палоне, больш таго, мы павінны былі-б яго расстраляць. А мы яго выпусцілі «на чэснае слова». І што-ж? Неўзабаве выяснілася, што падобная мяккасць толькі падрывае моц Совецкай улады. Мы зрабілі памылку, праяўляючы падобную мяккасць у адносінах да ворагаў рабочага класа. Калі-б мы паўтарылі і надалей гэту памылку, мы зрабілі-б злачынства ў адносінах да рабочага класа, мы здрадзілі-б яго інтарэсы. І гэта неўзабаве стала зусім ясна. Вельмі хутка выяснілася, што чым мякчэй мы адносімся да нашых ворагаў, тым больш супраціўлення гэтыя ворагі аказваюць. Неўзабаве правыя эс-эры—Гоц і інш. і правыя меншавікі арганізавалі ў Ленінградзе контррэволюцыйнае выступленне юнкероў, у выніку якога загінула многа нашых рэволюцыйных матросаў. Той-жа Красноў, якога мы выпусцілі «на чэснае слова», арганізаваў белагвардзейскіх казакаў. Ён аб'яднаўся з Мамантавым і на працягу двух год вёў узброеную барацьбу супроць Совецкай улады.. Мы пераканаліся ў тым, як мы памыліліся, праяўляючы мяккасць».

З гэтымі словамі Сталіна я параўнаю тое, што ён гаварыў сем год назад мне самому з повадў славутага «чырвонага тэрору». Ён гаварыў аб смертнай казні: «Мы, зразумела, староннікі адмены смертнай казні. Акрамя таго, мы думаем, што для нас няма ніякай неабходнасці захоўваць яе ва ўнутраным ладзе Саюза. І мы даўно ўжо адмянілі-б смертную казнь, калі-б не наша знешняе акружэнне, калі-б не імперыялістычныя дзяржавы. Яны вымушаюць нас захоўваць, для абароны нашага існавання, смертную казнь».

Тут Сталін мае на ўвазе мноства самых цынічных адкрытых замахаў і яшчэ большую колькасць самых каварных тайных замахаў на СССР з боку кіруючых палітычных колаў буржуазных дзяржаў, якія заўсёды і ўсюды знаходзяцца ў цесным саюзе, у хімічным саюзе са злейшымі ворагамі рускай рэволюцыі *). Хто б'е справядліва, той павінен біць моцна.

[1]) Цяпер, у канцы 1934 года французская дыпламатыя шырока адкрывае Совецкаму Саюзу свае абдымкі; па меркаваннях еўрапейскай роўнавагі, сімпатыі да Совестаў цяпер у нас у модзе. Але гэтыя колы на паверхні вялікай капіталістычнай палітыкі нікога не павінны ашукваць. Як-бы там ні было, такое становішча рэчаў дазваляе ў сучасны момант аб'ектыўна паказаць французскай грамадскасці значна больш праўды аб рускай рэволюцыі і яе выніках, чым гэта было магчыма раней. Гэта—ужо незгладзімы вынік.

**Н. Галадзед**

Старшыня Совета Народных Камісараў Беларускай ССР

# Аб праекце новай Канстытуцыі Беларускай ССР

Канстытуцыйная камісія ЦВК Беларускай ССР распрацавала праект Канстытуцыі Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі. Пасля разгляду праекта ў ЦВК БССР ён будзе ўнесен на зацвярджэнне Беларускага з'езда советаў.

Калі прыходзіцца гаварыць або пісаць аб Канстытуцыі БССР, то перш за ўсё ўспамінаецца гістарычнае мінулае беларускага народу, соцыяльнае і нацыянальнае прыгнечанне, поўнае бяспраўе, яго нужда і гора, якія неадступна суправаджалі яго на працягу вякоў.

Рускі царызм і руская імперыялістычная буржуазія «уладжвалі» свае канфлікты з польскімі князямі і памешчыкамі, рымска-каталіцкай царквой перш за ўсё за кошт беларускага народу. Царскія жандары, папы, ксяндзы, памешчыкі і капіталісты ўсіх масцей гандлявалі Беларуссю і яе працоўнымі оптам і ў розніцу.

Царызм бязлітасна душыў малейшае праяўленне нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Само слова «Беларусь» вытраўлялася царскім урадам. Так, напрыклад, у 1840 годзе камітэт міністраў дае ўказанне камітэту па заходніх губернях, што «гасудар імператар закрэсліў назву беларускіх і саізволіў загадаць перапісаць указ з перайменаваннем губерній кожнай асобна: Віцебскай, Магілеўскай, Віленскай і Гродненскай, прычым паследвала ўласноручнае высачайшае павяленне:—правіла гэтага трымацца і надалей».

Актыўная барацьба і рэволюцыйны рух беларускіх рабочых і сялян за сваё нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне маюць багатую гісторыю.

Даволі пералічыць сялянскія паўстанні супроць беларускіх прыгоннікаў, польскіх паноў, супроць рускіх баяр, супроць гандляроў і духавенства. Такія паўстанні былі ў 1648—1654 гг., калі паўстанцамі былі захвачаны не толькі маёнткі памешчыкаў, але і вялікая колькасць гарадоў: Пінск, Мазыр, Гомель, Лоеў, Бабруйск, Быхаў, Чачэрск, Прапойск, Магілеў; паўстанне ў 1700—1701 гг. у Слонімскім павеце, а ў 1840—1841 гг. у Крычаўскім старастве; у 1761 г. у Мазырскім павеце, паўстанне сялян на Віцебшчыне ў 1847 г., а таксама і ў час правядзення так званай «рэформы» 1861 г. у Магілеўскай, Віцебскай і Менскай губернях, дзе сялянства адмаўлялася падпісваць статутныя граматы і выконваць паншчыну і аброк, не гаворачы ўжо аб радзе паўстанняў і рэволюцыйных выбухаў у 1905 і іншых гадах.

Але ўсе гэтыя паўстанні бязлітасна падаўляліся аб'яднанымі сіламі беларускіх і польскіх прыгоннікаў і царскіх ваявод, войскамі «Рэчы паспалітай» і рускага царызма.

Працоўныя Беларусі добра таксама памятаюць зверскую расправу царызма і ў больш позні час. Напрыклад, у 1905 годзе царскія генералы і жандары расстрэльвалі беларускіх рабочых і сялян па загаду былога міністра ўнутраных спраў царскай Расіі Дурнова, які 21 снежня 1905 г. выдаў наступны загад віленскаму генерал-губернатару: «Прашу вас прапанаваць, згодна загаду яго вялікасці, генералу Орлову дзейнічаць пры падаўленні мяцежу самымі рашучымі мерамі, прымяняючы зброю, без усякай літасці. Такі спосаб дзеяння асабліва неабходзен у Гомелі».

Пры распрацоўцы праекта новай Канстытуцыі БССР успамінаюцца часы гераічнай барацьбы рабочых і сялян Беларусі за Окцябрскую соцыялістычную рэволюцыю, за вызваленне Беларусі ад нямецкіх і польскіх акупантаў, барацьбы працоўных з беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыяй, якая прадавала беларускі народ нямецкаму кайзеру, польскім князям і памешчыкам.

Толькі Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя, якая перамагла пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, прынесла беларускім рабочым і сялянам нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне. Ад Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі бярэ свой пачатак і беларуская дзяржаўнасць, а стваральнікам і творцом Беларускай Совецкай Соцыялістычнай дзяржавы з'яўляецца наш правадыр і настаўнік вялікі Сталін.

Таварыш Сталін кіраваў непасрэдна стварэннем БССР, падбіраў людзей у першы рабоча-сялянскі ўрад Беларускай ССР. Ён асабіста даваў указанні VI заходняй канферэнцыі большэвікоў (якая пераймянавала сябе ў І з'езд КП(б)Б), як арганізаваць Беларускую Совецкую Рэспубліку, вызначаў і дапамагаў вырашаць задачы, якія непасрэдна пасля стварэння рэспублікі стаялі перад КП(б)Б і ўрадам.

Такім чынам, Беларуская ССР—гэта дзецішча партыі Леніна—Сталіна.

Новая Канстытуцыя БССР з'яўляецца прамым рэзультатам поўнай ліквідацыі векавога прыгнечання і адсталасці, рэзультатам канчатковай перамогі соцыялізма ў СССР, рэзультатам разгрому беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі ва ўсіх яе праявах, а таксама разгрому трацкісцка-зіноўеўскай тэрарыстычнай банды забойц, гэтых фашысцкіх сабак.

Працоўныя БССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра народаў таварыша Сталіна, пры штодзеннай дапамозе працоўных РСФСР і іншых совецкіх рэспублік, дасягнулі велізарных поспехаў у справе індустрыялізацыі Беларусі, уздыму калгаснай гаспадаркі і развіцця соцыялістычнай культуры.

489 новых прамысловых прадпрыемстваў, 10.000 калгасаў, 22 вузы, 77 тэхнікумаў, 6.913 школ (беларускіх, рускіх, польскіх, яўрэйскіх; літоўскіх і інш.), Беларускі дзяржаўны універсітэт з яго шматлікімі інстытутамі, Акадэмія навук БССР, тэатры, клубы, кіно, трамваі і новыя дамы ў гарадах і ў калгасах, пабудаваныя совецкаю ўладай,—усё гэта ўзняло Беларусь і беларускі народ да ўзроўню перадавых рэспублік нашага магутнага Совецкага Саюза.

Беларуская ССР у цесным саюзе з іншымі совецкімі рэспублікамі і пры іх дапамозе, у першую чаргу пры дапамозе РСФСР, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і ўрада Саюза ССР пераможна прайшла шлях ад калоніі рускага царызма да рэспублікі ордэна Леніна.

На гэтай аснове і напісан праект новай Канстытуцыі, у якой ад-люстроўваюцца ўсе заваёвы беларускага народу.

Непарушнай асновай праекта Канстытуцыі БССР з'яўляецца яе поўная адпаведнасць з праектам сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР.

У праекце новай Канстытуцыі запісана, што Беларуская ССР разам з іншымі саюзнымі рэспублікамі на аснове волі беларускага народу, на аснове поўнай добраахвотнасці і роўнапраўя, стварылі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Канстытуцыя БССР таксама запісвае, што беларускі народ перадае Саюзу Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік усе правы, выкладзеныя ў артыкуле 14-м праекта Канстытуцыі СССР. Па-за гэтымі прадзеламі Беларуская ССР ажыццяўляе дзяржаўную ўладу самастойна, захоўваючы свой суверэнітэт, які ахоўваецца Саюзам Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Канстытуцыя БССР адначасова падкрэслівае, што Беларуская ССР з'яўляецца сустаўной і неадрыўнай часткай Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і ставіць сваёй задачай усямернае ўзмацненне абароназдольнасці Саюза ССР на яго заходніх граніцах. Беларуская ССР, з'яўляючыся фарпостам Саюза ССР, як і да гэтага часу будзе абараняць непарушнасць заходніх граніц нашай вялікай радзімы.

У адпаведных артыкулах праекта Канстытуцыі БССР знайшла сваё яркае адлюстраванне задача абароны інтарэсаў усіх нацыянальнасцей, якія насяляюць рэспубліку. У праекце гаворыцца, што беларускі народ з дапамогай рускага рабочага класа, назаўсёды пакончыўшы з соцыяльным і нацыянальным прыгнечаннем царызма і беларускай буржуазіі, разграміўшы нацыяналістычную контррэволюцыю, забяспечвае ўсім нацыянальным меншасцям эканамічнае і культурнае развіццё, ахоўвае правы нацыянальных меншасцей і прызнае за ўсімі грамадзянамі рэспублікі права і забяспечвае ім поўную магчымасць свабодна карыстацца роднай мовай ва ўсім дзяржаўным і грамадскім жыцці.

Як і да гэтага часу, усім нацыянальным меншасцям у БССР забяспечваюцца поўнае права і рэальная магчымасць навучання ў школе на роднай мове. Такім чынам, у Беларускай ССР мовы: беларуская, руская, яўрэйская, польская, літоўская, латышская, як і мовы іншых нацыянальных меншасцей, з'яўляюцца роўнапраўнымі.

Роўнапраўе моў усіх нацыянальнасцей, як і роўнапраўе ўсіх грамадзян БССР, незалежна ад расавага і нацыянальнага паходжання, забяспечанне нацыянальным меншасцям іх эканамічнага і культурнага развіцця з'яўляецца гістарычным фактам выключнай палітычнай важнасці і сведчыць аб поўнай ліквідацыі спадчыны царызма і цяжкага мінулага.

Праектам Канстытуцыі БССР прадугледжана стварэнне новых наркаматаў: лёгкай прамысловасці, харчовай прамысловасці, лясной прамысловасці і Наркамата соўгасаў. Стварэнне гэтых наркаматаў мае выключна вялікае значэнне для далейшага ўздыму соцыялістычнай эканомікі Совецкай Беларусі.

Працоўныя масы Беларусі, абмяркоўваючы праект сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР і выпрацоўваючы праект Канстытуцыі БССР, у той-жа час не забываюць, што значная частка беларускага насельніцтва па той бок граніцы знаходзіцца ў бяспраўным становішчы, падвяргаецца зверскаму прыгнечанню, жыве ў жабрацтве і голадзе. Бізун польскага фашызма з'яўляецца іх горкім лёсам. Там, у Польшчы, няма і ў паміне беларускіх школ. Беларуская мова там праследуецца з такой стараннасцю, што гэтаму мог-бы зайздросціць расійскі царызм. Заходняя Беларусь («Усходнія крэсы»)ператворана ў калонію поль-

скага фашызма. У такіх-жа ўмовах у Польшчы жыве насельніцтва і іншых нацыянальных меншасцей (яўрэйскае, літоўскае і інш.).

Не выпадкова ўся польская прэса скрывае ад свайго насельніцтва праект Канстытуцыі Саюза ССР. Замест апублікавання гэтага праекта або хоць-бы частковага яго выкладання фашысцкі польскі друк з уласцівай яму нагласцю развівае шалёную кампанію супроць СССР у сувязі з праектам Канстытуцыі СССР, бессумленна скажаючы асноўныя палажэнні Канстытуцыі. А прадажныя агенты польскай ахранкі—беларускія фашысты (Луцкевічы, Астроўскія, Станкевічы і інш.) у сваіх газетах нічога большага не прыдумалі, як выказаць сваё нездаволенне з повадў артыкула 124 праекта Канстытуцыі СССР, у якім захоўваецца за ўсімі грамадзянамі СССР свабода антырэлігійнай прапаганды, як і свабода адпраўлення рэлігійных культаў.

Дарэмна польскія газеты прабуюць захаваць ад працоўных сапраўдны сэнс сталінскай Канстытуцыі. Думкі вялікай Канстытуцыі народнай малвой пранікаюць, мінуючы перашкоды, у гушчы працоўных мас Заходняй Беларусі і Польшчы.

Вялікай гордасцю для працоўных Беларусі гучаць словы, запісаныя ў сталінскай Канстытуцыі аб тым, што беларускі народ з'яўляецца поўнапраўным членам вялікай сям'і народаў СССР.

Абмяркоўваючы праект сталінскай Канстытуцыі СССР, рабочыя, калгаснікі, совецкая інтэлігенцыя і ўсе працоўныя БССР аднадушна заяўляюць, што яны гатовы жыццё аддаць за сваю радзіму—Совецкі Саюз, за вялікага Сталіна, які прывёў краіну да шчаслівага, радаснага жыцця.

---

В. Харвацкі

# Міжнароднае становішча і знешняя палітыка СССР к XIX гадавіне Окцябра

У сувязі з XIX гадавінай Окцябрскай рэвалюцыі падводзяцца вынікі поспехаў і дасягненняў у галіне нашай народнай гаспадаркі, культуры, навукі, тэхнікі, мастацтва і т. д. Дарэчы падвесці вынікі і нашай знешняй палітыкі, прааналізаваць пройдзеныя намі этапы і падвергнуць разгляду міжнароднае становішча СССР у сучасны момант. Зразумела, аналіз нашай знешняй палітыкі павінен быць увязаны з аналізам міжнароднага становішча ў цэлым.

Непасрэдна пасля перамогі Окцябрскай рэвалюцыі былі дэклараваны і пачалі праводзіцца ў жыццё асноўныя прынцыпы ленінска-сталінскай знешняй палітыкі. 8 лістапада 1917 года ІІ Усерасійскім з'ездам Саветаў быў прыняты дэкрэт аб міры. З'езд звярнуўся да ўсіх ваюючых народаў і іх урадаў з прапановай аб спыненні ваенных дзеянняў. Адначасова было прапанавана пачаць перагаворы аб дэмакратычным міры без анексій і кантрыбуцый.

«Рабочы і сялянскі ўрад,—гаварылася ў дэкрэце,—створаны рэвалюцыяй 24-25 кастрычніка (6-7 лістапада), апіраючыся на Саветы рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, прапануе ўсім ваюючым народам і іх урадам пачаць зараз-жа перагаворы аб справядлівым дэмакратычным міры». У дэкрэце ўказвалася, што такім мірам совецкі ўрад лічыць хутка заключаны мір без анексій і контрыбуцый, прычым пад анексіяй разумелася ўсякае далучэнне да вялікай або сільнай дзяржавы малой або слабой народнасці без даклална, ясна і добраахвотна выражанай згоды і жадання гэтай народнасці, незалежна ад таго, адбываецца гэта ў Еўропе або ў далёкіх заакіянскіх краінах.

«Працягваць гэту вайну з-за таго, як падзяліць паміж сільнымі і багатымі нацыямі захопленыя імі слабыя народнасці,—гаварылася далей у дэкрэце,—урад лічыць велізарнейшым злачынствам супроць чалавецтва і ўрачыста заяўляе сваю рашымасць зараз-жа падпісаць умовы міру, спыняючага гэту вайну на адзначаных роўных, справядлівых для ўсіх без выключэння народнасцей, умовах».

У дэкрэце ад 8 лістапада 1917 года быў сфармуляваны таксама і прынцып адмаўлення ад тайнай дыпламатыі. Вось адпаведныя месцы дэкрэту: «Тайную дыпламатыю ўрад адмяняе, са свайго боку выражаючы цвёрды намер весці ўсе перагаворы зусім адкрыта перад усім народам, прыступаючы зараз-жа да поўнага апублікавання тайных дагавораў, пацверджаных або заключаных урадам памешчыкаў і капіталістаў з лютага па 25 кастрычніка 1917 года. Увесь змест гэтых тайных дагавораў, паколькі ён накіраваны, як гэта ў большасці выпадкаў бывала, да прадастаўлення выгад і прывілеяў рускім памеш-

чыкам і капіталістам, да ўтрымання або павелічэння анексій вялікаросаў, урад абвяшчае безумоўна і безадкладна адмененым» *).

Гэты прынцып, таксама як і іншыя дэклараваныя савецкім урадам прынцыпы знешняй палітыкі, быў безадкладна праведзен у жыццё. Савецкі ўрад апублікаваў тайныя дакументы імперыялістычнай дыпламатыі.

Следам за тым быў дэклараваны прынцып поўнага разрыву маладой савецкай дзяржавы з палітыкай імперыялістычнага прымусу. Важнейшае значэнне мае падпісаны Леніным і Сталіным зварот Савета Народных Камісараў РСФСР ад 17 снежня 1917 года да ўсіх працоўных мусульман Расіі і Ўсходу.

«Мы заяўляем,—гаварылася ў гэтым звароце,—што тайныя дагаворы звергнутага цара аб захопе Канстанцінопаля, пацверджаныя звергнутым Керэнскім, зараз парваны і знішчаны. Шматмільённыя масы і іх урад, Совет Народных Камісараў, супроць захопу чужых зямель: Канстанцінопаль павінен застацца ў руках мусульман.

Мы заяўляем, што дагавор аб раздзеле Персіі парваны і знішчаны. Як толькі спыняцца ваенныя дзеянні, войскі будуць выведзены з Персіі, і персам будзе забяспечана права свабоднага вызначэння свайго лёсу.

Мы заяўляем, што дагавор аб раздзеле Турцыі і адабранні ў яе Арменіі парваны і знішчаны. Як толькі спыняцца ваенныя дзеянні, армянам будзе забяспечана права свабодна вызначыць свой палітычны лёс» **).

Асабліва гэта неабходна падкрэсліць таму, што заявы, якія змяшчала адозва да працоўных мусульман Расіі і Ўсходу, таксама ў найкарацейшы тэрмін былі пераатвораны ў жыццё, у прыватнасці шляхам вываду рускіх войск з Персіі і Арменіі. Былі анулёваны ўсе знешнія пазыкі царскага і Часовага ўрадаў (дэкрэт ад 8 лютага 1918 года).

Такімі былі асноўныя прынцыпы савецкай знешняй палітыкі з першых дзён савецкай улады. Ленінска-сталінская тактыка заключалася ў тым, каб забяспечыць перадышку, каб на кожным даным этапе здолець абаперціся на тыя сілы, якія не маюць намеру нападаць на Совецкую дзяржаву, каб нейтралізаваць, з другога боку, сілы, рыхтуючыя вайну.

Паглядзім цяпер, як наша дыпламатыя праводзіла ў жыццё гэтыя прынцыпы, як яна, у адпаведнасці з геніяльнымі ўказаннямі Леніна і Сталіна, забяспечвала перадышку і якавы вынікі нашай знешне-палітычнай работы к XIX гадавіне Окцябрскай рэволюцыі.

Наперакор здрадніцкай палітыцы Троцкага, наперакор супраціўленню «левых», быў заключан 3 сакавіка 1918 г. Брэсцкі мір. Ленінска-сталінская тактыка забяспечання перадышкі перамагла. Брэсцкі дагавор праіснаваў толькі 7 месяцаў. У лістападзе 1918 года Германія была ахоплена рэволюцыяй. 11 лістапада 1918 года Усерасійскі ЦВК асобай пастановай ануляваў Брэсцкі дагавор.

На Захадзе ў гэты перыяд заканчваецца ваенны разгром Германіі. 1 кастрычніка 1918 года германскае міністэрства замежных спраў ад Гіндэнбурга і Людэндорфа атрымала паведамленне, якое змяшчала адкрытае прызнанне ваеннага паражэння—фронт не можа пратрымацца больш 48 гадзін—пісалі тагочасныя фактычныя дыктатары

*) Гл. „Совецкі саюз у барацьбе за мір". Дзяржвыдавецтва Масква—Ленінград 1929 г., стар. 28.

** Там-жа, стар. 32. Гл. таксама „Дэкрэты Окцябрскай рэволюцыі", том I, 1933 г. стар 35—136.

Германіі. Гэты драматычны з пункту погляду германскай буржуазіі эпізод адкрывае перыяд складаных і працяжных перагавораў паміж Германіяй і яе працаўнікамі. Раніцай хмурага лістападаўскага дня ў вагоне маршала Фоша (у тым самым вагоне, які зараз служыць прыманкай для турыстаў) быў падпісан дагавор аб перамір'і 11/XI-18 г. Праз месяц «Георг Вашынгтон» даставіў прэзідэнта ЗША Вільсона ва Францыю. Яшчэ месяц патрабаваўся для завяршэння папярэдніх закулісных перагавораў. 18 студзеня 1919 г. пачаліся паседжанні мірнай канферэнцыі, якія закончыліся праз 6 месяцаў і 12 дзён падпісаннем Версальскага дагавора. Гэты дагавор прадстаўляў сабою запіс тых змен у рэальнай сіле, якія былі дасягнуты ў ходзе імперыялістычнай вайны. Асноўная мэта пераможцаў заключалася ў тым, каб выцесніць Германію з кола вялікіх дзяржаў, абясшкодзіць Германію ў якасці канкурэнта на сусветных рынках і пазбавіць яе неабходных сродкаў для новай барацьбы за перадзел свету ў сваю карысць. Кожная з краін-пераможцаў імкнулася пры гэтым здабыць для сябе найбольшыя выгады з разгрому Германіі. Другая мэта Версальскага міру заключалася ў тым, каб стварыць жалезную сцяну супроць пранікнення большэвізма ў Еўропу. Ролю такой заслоны павінны былі адыгрываць дзяржавы, распаложаныя на заходняй граніцы Совецкай Расіі ад Ледавітага акіяна да Чорнага мора.

Пераможцы заклалі асновы новай версальскай сістэмы міжнародных адносін. Разам з тым, яны прыступілі да правядзення ў жыццё сваіх варожых планаў супроць маладой совецкай дзяржавы. Ужо ўвесну 1918 года быў пакладзен пачатак узброенай інтэрвенцыі. Румынія акупіруе Бесарабію. Японія высаджвае свае войскі ў Владзівастоку. У Мурманску і Архангельску з'яўляюцца англійскія атрады. Чэхаславацкі корпус, які знаходзіўся раней у Расіі, апераруе на Волзе і ў Сібіры. Антанта кідае свае войскі і на поўдзень Расіі. Саюзніцкі корпус высаджваецца ў Одэсе. Аказваецца дзейснае падтрыманне ўнутранай контррэволюцыі. Дзенікін, Юдзеніч, Калчак і Врангель атрымліваюць грошы, узбраенне і ўсякае іншае падтрыманне ад Антанты. Апошняя нацкоўвае на совецкую краіну таксама новаўзнікшыя дзяржавы, што ўваходзілі раней у склад царскай Расіі, а іменна Латвію, Фінляндыю, Эстонію і Польшчу.

Антанце, аднак, не ўдалося задушыць Совецкую рэспубліку, не ўдалося аднавіць уладу памешчыкаў і капіталістаў, не ўдалося ператварыць у калонію нашу вялікую краіну. Совецкая рэспубліка, апіраючыся на падтрыманне працоўных усяго свету, разбіла ў адкрытым баі войскі контррэволюцыйных генералаў і інтэрвентаў, выкінула іх па той бок граніцы. 25 кастрычніка 1922 года японцы прымушаны былі эвакуіравацца з Владзівастока. Гэта быў апошні атрад інтэрвентаў. Другія павінны былі адыйсці яшчэ раней. На неабсяжных прасторах нашай радзімы не засталося ніводнага замежнага салдата. Крах унутранай контррэволюцыі і інтэрвенцыі, крах спроб задушыць нас пры дапамозе блакады (яна была адменена 16 студзеня 1920 г.) кладзе пачатак новага перыяду нашай знешняй палітыкі.

Цэлы рад урадаў ідзе на аднаўленне ў той ці іншай форме дыпламатычных адносін з совецкай дзяржавай. Першы крок у гэтым напрамку зрабілі Эстонія, Латвія, Фінляндыя і Літва, якія апасаліся страты сваёй самастойнасці ў выпадку аднаўлення капіталістычнага ладу ў Расіі. 2 лютага 1920 г. быў заключан мірны дагавор з Эстоніяй, 11 жніўня 1920 г.—з Латвіяй, 14 кастрычніка 1920 года—з Фінляндыяй і 12 ліпеня 1920 года—з Літвой. 18 сакавіка 1921 года Поль-

шча, знясіленая вайною з Совецкай рэспублікай, таксама заключае мірны дагавор. Следам за тым па шляху аднаўлення адносін з нашай краінай павінны былі пайсці і некаторыя буйныя дзяржавы Еўропы. 16 сакавіка 1921 г. было падпісана пагадненне з Англіяй, а 6 мая 1921 года часовае пагадненне з Германіяй. Па шляху Англіі і Германіі пашоў яшчэ цэлы рад краін. 25 ліпеня 1921 года быў падпісан дагавор з Італіяй, 2 верасня 1921 г.—з Нарвегіяй, 7 снежня 1921 г.—з Аўстрыяй, 5 чэрвеня 1922 г.—з Чэхаславакіяй і т. д. Адначасова былі канкрэтызаваны і нашы адносіны з дзяржавамі Ўсходу. 26 лютага 1921 года быў заключан дагавор з Іранам, 28 лютага 1921 года—з Афганістанам і 16 сакавіка 1921 года—з Турцыяй. Гэтыя дагаворы былі заключаны на аснове прынцыпаў, дэклараваных намі ў 1918 годзе. 5 лістапада 1921 года заключаецца дагавор з Мангольскай Народнай Рэспублікай, які замацаваў цесныя прыяцельскія адносіны з гэтай краінай.

Што было найбольш характэрным у гэты перыяд для тактыкі буржуазіі ў адносінах Совецкай дзяржавы? Міжнародная буржуазія пераканалася ў краху інтэрвенцыі, хоць, зразумела, інтэрвенцыянісцкія планы не былі канчаткова пакінуты. Міжнародная буржуазія разлічвала на перараджэнне совецкай улады, разлічвала на тое, што ў нас паступова будзе аднаўляцца капіталістычны лад. Лойд-Джордж 10 лютага 1920 года прама заявіў, што паколькі не ўдалося ўзброенае ўмяшанне, трэба паспрабаваць звярнуць Расію на шлях капіталізма, праз аднаўленне эканамічных адносін з ёю.

1922 год адзначан склікannем двух буйнейшых міжнародных канферэнцый, у якіх прынялі ўдзел совецкія рэспублікі. З 10 красавіка па 19 мая ў Генуі працавала Міжнародная эканамічная канферэнцыя. З 15 сакавіка па 18 ліпеня працавала канферэнцыя экспертаў у Гаазе. Кіруючыя буржуазныя краіны Еўропы, прадстаўленыя на Генуэзскай канферэнцыі, паспрабавалі стварыць адзіны фронт супроць совецкай дэлегацыі, для таго каб прымусіць яе прыняць надзвычайна цяжкія ўмовы (зварот іншаземцам нацыяналізаванай маемасці, уплата царскіх даўгоў, непадпарадкаванне іншаземцаў на совецкай тэрыторыі совецкай юрысдыкцыі). Спроба навязаць гэтыя цяжкія ўмовы совецкай краіне была біта. Мы гэтыя ўмовы адверглі. Разам з тым совецкай дыпламатыі ўдалося прабіць значную прабоіну ў адзіным фронце буржуазных краін.

6 красавіка 1922 года ў Рапалло, каля Генуі, быў заключан дагавор з Германіяй. Дыпламатычныя адносіны паміж СССР і Германіяй былі адноўлены, прычым абодва бакі ўзаемна адмовіліся ад эканамічных прэтэнзій. Германія пашла на гэты дагавор, імкнучыся шляхам умацавання сваіх адносін з СССР палепшыць свае пазіцыі ў адносінах да заходніх дзяржаў. Аднак і ў гэты перыяд разгорнутых адносін паміж Германіяй і нашай краінай Германія не адмовілася-б прадаць гэтыя адносіны, калі-б заходнія дзяржавы запрапанавалі ёй адпаведную кампенсацыю пры будучым перадзеле свету.

Мы сказалі, што крах інтэрвенцыі адкрывае новы перыяд узаемаадносін паміж совецкай дзяржавай і капіталістычнымі краінамі. Гэты перыяд супадае з трыма апошнімі гадамі першага перыяду ў развіцці агульнага крызісу капіталізма, які канчаткова завяршыўся перамогай германскай буржуазіі ў 1923 годзе. У далейшым наступае перыяд часовай і адноснай капіталістычнай стабілізацыі, наклаўшай, зразумела, свой адбітак і на адносіны паміж совецкай дзяржавай і буржуазнымі краінамі.

Пасля працяглага пасляваеннага крызісу, пасля перыяду ўздыму рэвалюцыйнага руху (у гады пасляваеннага крызісу), буржуазіі ўдаецца некалькі ўзняць сваю вытворчасць і гандаль, а таксама больш ці менш умацаваць палітычную ўладу. Частковая або часовая стабілізацыя капіталізма азначала, што капіталізм, крэхчучы і залізваючы свае раны, сяк-так выкарабкаўся з пасляваеннага хаосу і развалу. У гэты перыяд мае месца спад рэвалюцыйнай хвалі ў Еўропе. Пралетарыят збірае сілы для будучых рэвалюцыйных выступленняў. Часовая стабілізацыя капіталізма ў Еўропе была дасягнута пераважна з дапамогай амерыканскага капітала.

Якім быў уплыў часовай стабілізацыі капіталізма на міжнародныя адносіны?

Вычарпальнае азначэнне вынікаў часовай стабілізацыі ў галіне адносін паміж капіталістычнымі дзяржавамі было дана таварышом Сталіным *).

У гэтай галіне часовая стабілізацыя выразілася ў зговары паміж Амерыкай, Англіяй і Францыяй аб спосабах аграблення Германіі, у зговары паміж амерыканскім і японскім капіталам аб спосабах аграблення Кітая, у зговары імперыялістаў аб узаемным неўмяшанні ў справу аграблення і прыгнечання сваіх «калоній».

Зговар паміж усімі адзначанымі краінамі меў часовы характар. Наяўнасць гэтага зговару не знішчыла супярэчнасцей і барацьбы інтарэсаў паміж імперыялістамі і, у прыватнасці, паміж пераможцамі ў вайне 1914-1918 гг. Яны шалёна калаціліся з-за долі ў грабяжы — кожны хацеў урваць сабе пабольш. Стабілізацыя часова ўзмацніла капітал. Але яна, разам з тым, вяла да абвастрэння супярэчнасцей паміж імперыялістамі розных краін. Каб пераканацца ў гэтым, давалі азнаёміцца з развіццём міжнародных адносін.

Што адбываецца ў гэтай галіне ў 1924-26 гг.?

Амерыка і Англія вядуць барацьбу за рынкі збыту, за вываз капіталаў і крыніцы сыравіны. Асабліва напружаная барацьба ідзе за аўладанне крыніцамі нафты. Амерыка адначасова вядзе напружаную барацьбу з Японіяй за панаванне на Ціхім акіяне і долю грабяжу ў Кітаі. У Еўропе разгортваецца суперніцтва паміж Францыяй, якая імкнецца замацаваць сваё панаванне ў гэтай частцы свету, і Англіяй, якая не жадае дапусціць занадта прыметнага ўзмацнення ролі Францыі. Англійская буржуазія не хоча гэтага, бо яна ўжо на працягу многіх дзесяцігоддзяў прытрымліваецца той думкі, што аднабаковае ўзмацненне якой-небудзь краіны ў Еўропе можа прывесці да стварэння, пад кіраўніцтвам гэтай краіны, варожага Англіі ваеннага блоку еўрапейскіх дзяржаў. Суперніцтва паміж Англіяй і Францыяй не абмяжоўваецца геаграфічнымі рамкамі Еўропы. Інтарэсы гэтых двух краін сутыкаюцца ў Афрыцы і на Блізкім Усходзе. Такім чынам, і ў перыяд частковай або часовай стабілізацыі капіталізма, барацьба інтарэсаў паміж краінамі-пераможцамі не аслаблялася.

Ужо ў 1927 годзе надзвычай ярка праявілася гніласць і няўстойлівасць стабілізацыі капіталізма. Яму ўдалося зжыць часовы пасляваенны крызіс 1920-1921 гг. Усеагульны-ж асноўны крызіс капіталізма, пачатак якому паклала сусветная вайна, працягваў паглыбляцца.

У лагеры пераможцаў у гэты перыяд растуць супярэчнасці.

У прыватнасці, Злучаныя Штаты, якія імкнуліся да панавання на

*) . В. Сталін „Да вынікаў работ XIV Канферэнцыі РКП(б)". Даклад актыву Маскоўскай арганізацыі РКП(б) 9 мая 1925 г. „Пытанні ленінізма", стар. 139.

азіяцкіх рынках, сутыкаючца з больш старэйшымі капіталістычнымі краінамі, у асобе Англіі, сутыкаючца разам з тым з Японіяй.

Злучаныя Штаты па Версальскаму міру не атрымалі якіх-небудзь каланіяльных уладанняў. У далейшым амерыканскі сенат зусім адмаўляецца зацвердзіць Версальскі дагавор. Злучаныя Штаты не згаджаюцца ўступіць у Лігу нацый, статут якой з'яўляецца часткаю Версальскага дагавора.

Прычына адмаўлення Амерыкі ад уступлення ў Лігу нацый яшчэ мала асветлена ў нашай гістарычнай літаратуры. На першы погляд пазіцыя Амерыкі здаецца супярэчлівай. Бо-ж Амерыка, у асобе свайго прэзідэнта Вільсона, адыгрывала вельмі відную ролю на парыжскай мірнай канферэнцыі і прымала чынны ўдзел у выпрацоўцы Версальскага дагавора і стварэнні Лігі нацый. Больш таго, Вільсон бясспрэчна імкнуўся зрабіць Лігу нацый паслухмяным выканаўцаю волі амерыканскага капіталу. Тут, аднак, ёсць толькі ўяўныя супярэчнасці. Вільсон сапраўды імкнуўся стварыць такую Лігу нацый, якая была-б магутнаю зброяй у руках амерыканскага капіталу. Але, як паказала пазнейшае адмаўленне сената зацвердзіць Версальскі дагавор, Вільсон выражаў імкненні толькі часткі амерыканскай буйнейшай буржуазіі, іменна той яе часткі, якая выступала ў якасці крэдытора Еўропы ў час імперыялістычнай вайны і лічыла ўжо своечасовым памерацца сіламі ў Еўропе і калоніях са старэйшымі капіталістычнымі краінамі. Разам з тым, палітыка Вільсона сустрэла супраціўленне з боку тых груповак амерыканскай буржуазіі, якія імкнуліся ў першую чаргу выкарыстаць магчымасць захопу рынкаў і крыніц сыравіны ў рэспубліках цэнтральнай і паўднёвай Амерыкі, тых груповак, якія лічылі неабходным надаць яшчэ больш размаху амерыканскаму наступленню ў суседнія лацінскія краіны. Пры ўсім тым, трэба мець на ўвазе, што і ў Амерыцы масы адчувалі стомленасць ад вайны. З гэтымі настроямі таксама прыходзілася ў пэўнай меры лічыцца. Амерыканская буржуазія ўрачыста заяўляе, што яна «выходзіць» з Еўропы, дзе наспяваюць канфлікты, якія могуць прывесці да новых ваенных сутычак.

Але «выхад» Амерыкі з Еўропы ні мала не садзейнічаў згуртаванню лагера пераможцаў. Наогул «выхад» Амерыкі насіў фармальны характар. Злучаныя Штаты Амерыкі ніколі не былі адгароджаны кітайскай сцяною ад еўрапейскіх спраў. Амерыка пасля свайго «выхаду» змяшчае велізарныя капіталы заграніцай, вядзе заядлую барацьбу з еўрапейскімі краінамі за рынкі збыту, за крыніцы сыравіны, за вываз капіталу.

У апісваемы намі перыяд—1927 год—амерыканская буржуазія заяўляе прэтэнзіі на панаванне над усім астатнім светам.

Даволі вострыя характар у гэты перыяд носяць і супярэчнасці паміж капіталістычнымі краінамі ў Еўропе.

Так, напрыклад, Італія заяўляе, што яна незадаволена Версальскім раздзелам свету, бо не атрымала абяцаных ёй зямель у Еўропе, Афрыцы і Азіі. Італьянская буржуазія імкнулася к таму, каб Адрыятычнае мора стала «Марэ нострум»—«Нашым морам», інакш кажучы, Італія хацела заўладаць усходнім узбярэжжам Адрыятычнага мора і потым пашырыць свой уплыў на паўднёвым усходзе Еўропы, дзе распалажаны надзвычай прывабныя з пункту погляду італьянскай буржуазіі рынкі і крыніцы сыравіны. Аднак, усе абяцаныя Італіі (як узнагарода за ўдзел у вайне на баку Англіі, Францыі і царскай Расіі) у гэтай частцы Еўропы землі дасталіся новаўзнікшай дзяржаве Юга-

славіі, якая з'яўляецца саюзніцай Францыі. Італія на гэтай глебе варожа ставілася да Францыі і нічога не мела супроць таго, каб абаперціся на Германію ў сваёй барацьбе супроць перавагі Францыі ў Еўропе.

А гэта не магло, вядома, не расхістваць версальскай сістэмы.

Італія вышла на арэну міжнароднай палітыкі ў той перыяд, калі калоніі ўжо былі падзелены паміж старэйшымі і больш сільнымі капіталістычнымі краінамі. Удзел у вайне быў для Італіі спосабам атрымання калоній у Афрыцы і Азіі. Але і гэтых зямель Італія не атрымала, што яшчэ больш павялічыла нездаволенасць Італіі версальскім раздзелам свету.

* * *

Калі звярнуцца цяпер да адносін паміж краінамі Антанты і Германіяй у перыяд адноснай стабілізацыі, то мы атрымаем наступны малюнак.

Пераможцы імкнуліся ўшчаміць эканамічную магутнасць Германіі, але яны не знішчылі, зразумела, прамыслова-тэхнічнай базы германскага капіталізма. Больш таго, краіны-пераможцы пры пераходзе к перыяду адноснай стабілізацыі пазычалі германскай буржуазіі грошы, апасаючыся, што ў Германіі можа перамагчы пролетарская рэволюцыя, якая ўдарыла-б па ўсяму будынку капіталізма. На гэтыя грошы Германія ў перыяд адноснай стабілізацыі рэканструявала сваю прамысловасць. Усё гэта ўзмацніла пагоню германскай буржуазіі за знешнімі рынкамі і крыніцамі таннай сыравіны. Адначасова ўсё настойлівей і настойлівей ставілася пытанне спачатку аб пераглядзе, а ў апошні перыяд і аб поўнай адмене тых артыкулаў Версальскага дагавора, якія абмяжоўвалі ўзбраенні Германіі. Ва ўзбраеннях германская буржуазія бачыць рашаючы сродак для захопу новых рынкаў, калоній, крыніц сыравіны і т. д.

Да 1924 года ў справе атрымання з Германіі рэпарацыйных плацяжоў пераважалі способы прымянення прамога непрыкрытага прымусу, старонніцай якога ў той час была Францыя. Вышэйшае выражэнне гэтыя способы знайшлі ў заняцці французскімі войскамі Рурскага вугальнага басейна ў студзені 1923 года.

У перыяд адноснай стабілізацыі такога роду палітыка церпіць крах. Францыя сустрэла супраціўленне з боку іншых капіталістычных краін і ў першую чаргу з боку Англіі. Апошняя ў час сусветнай вайны імкнулася разам з Францыяй знішчыць Германію ў якасці магутнага канкурэнта на сусветных рынках. Але Англія не была зацікаўлена ў поўным знясільванні Германіі, бо ў гэтым выпадку адзінай рашаючай сілай у Заходняй Еўропе заставалася Францыя. А Англія заўсёды змагалася супроць аднабаковага ўзмацнення і перавагі якой-небудзь краіны ў Еўропе. Такая краіна, па думцы англійскай буржуазіі, магла-б згуртаваць асноўныя еўрапейскія краіны і пачаць барацьбу супроць Англіі. Усё гэта не значыць, аднак, што Англія прама і адкрыта выступала супроць захопу Францыяй Рурскага вугальнага басейна. Праматой і адкрытасцю буржуазная дыпламатыя (і асабліва англійская) наогул не блішчыць, а ў даным выпадку англійскія дыпламаты дзейнічалі так, што збілі з панталыку многіх, нават вельмі праніклівых і ведаючых, даследчаў міжнароднай палітыкі.

У снежні 1922 года—студзені 1923 года ў англійскіх газетах спагадліва (аднак, не надта акрэслена) адзываліся аб палітыцы Францыі

і, у прыватнасці, аб захопе Рурскага басейна. Германская дыпламатыя лічыла, што Англія супраціўляецца ўводу французскіх войск у Рур. Аднак, нямецкія палітыкі, відавочна, памыляліся. Параўнанне раду апублікаваных успамінаў англійскіх палітычных дзеячоў і дакументаў дае падставу меркаваць, што англійская дыпламатыя за кулісамі штурхала Францыю на захоп Рура. Англія спадзявалася, што адпраўка Францыяй войск у Рур выкліча надта вялікае ўзрушэнне ў Еўропе і што Францыя, у выніку гэтага, прымушана будзе адмовіцца ад спосабаў прымянення непрыкрытага прымусу да Германіі. Так яно і вышла ў сапраўднасці.

У 1924 годзе французская сістэма замяняецца больш гібкай англа-амерыканскай сістэмай выкалачвання рэпарацыйнай даніны з Германіі. Гэта сістэма знашла сваё выражэнне ў планах Дауэса (1924 год) і Юнга (1929 год), устанавіўшых новыя спосабы ўплаты Германіяй рэпарацый і новы размер апошніх. Германія атрымала ад амерыканскіх банкіраў, шукаўшых прымянення для сваіх капіталаў, буйнейшыя пазыкі.

* * *

Як развіваліся ўзаемаадносіны паміж СССР і буржуазнымі краінамі ў перыяд адноснай стабілізацыі?

Спачатку мае месца цэлы рад правакацый, варожых выступленняў і т. д. У маі 1923 года ў Лазанне быў забіты паўпрэд СССР у Італіі тав. Вароўскі. У той-жа перыяд Англія прад'яўляе СССР ультыматум (ультыматум Керзона), патрабуючы вырашэння ў духу англійскіх дамаганняў раду пытанняў, звязаных з рыбнаю лоўляй у совецкіх тэрытарыяльных водах, патрабуючы спынення прапаганды, якая нібыта мае месца ў Індыі, Персіі і Афганістане, патрабуючы ўплаты кампенсацый некаторым англійскім грамадзянам, якія займаліся ў СССР шпіёнскай дзейнасцю і пацярпелі ў сувязі з гэтым.

Совецкі ўрад не паддаўся гэтым правакацыям і, дзякуючы нашай умелай палітыцы, тактыка нашых праціўнікаў аказалася бітай. Пытанні, звязаныя з рыбнаю лоўляй пакінуты адкрытымі да вырашэння іх міжнароднай канферэнцыяй. Пытанне аб прапагандзе было вырашана шляхам пашырэння ўзаемных абавязацельстваў.

Пасля гэтага перыяду пагроз і правакацый ва ўзаемаадносінах СССР з замежнымі дзяржавамі наступае пэўны зрух. Расце сіла нашай краіны. Цэлы рад краін улічвае гэту акалічнасць. У 1924 годзе СССР устанаўляе нармальныя дыпламатычныя адносіны з Англіяй, Італіяй, Нарвегіяй, Грэцыяй, Даніяй, Швецыяй, Данцыгам, Мексікай і Францыяй, а ў 1925 годзе—з Японіяй.

Германія ў апісваемы намі перыяд працягвае падтрымліваць разгорнутыя адносіны з СССР. У 1925 годзе былі заключаны лакарнскія пагадненні, а ў 1926 годзе Германія ўступіла ў Лігу нацый. Умацаванне адносін з заходнімі дзяржавамі Германія, аднак, ураўнаважыла двума дагаворамі з Совецкім Саюзам—гандлёвым дагаворам ад 12 кастрычніка 1925 года і палітычным дагаворам ад 26 красавіка 1926 года. Аднак, паўтараем, у сучасны момант можна з бясспрэчнасцю сцвярджаць, што Германія і ў той перыяд не адмовілася-б прадаць за адпаведную кампенсацыю свае адносіны з Совецкім Саюзам.

Не трэба, аднак, думаць, што перыяд адноснай стабілізацыі быў перыядам безупыннага палепшання адносін СССР з капіталістычнымі краінамі. У канцы гэтага перыяду мае месца новая хваля правакацый

супроць СССР. 6 красавіка 1927 года мае месца налёт на совецкае паўпрэдства ў Пекіне. 10 мая 1927 года робіцца налёт на гандлёвае прадстаўніцтва ў Англіі. 7 чэрвеня 1927 г. быў забіты совецкі пасол у Варшаве тав. Войкаў.

* *

У 1929 годзе на капіталістычныя краіны абрушваюцца першыя ўдары сусветнага эканамічнага крызісу. Прамысловы крызіс пачынаецца раней за ўсё ў Польшчы, Румыніі і на Балканах. У другой палове 1929 года прыпыняецца ўздым прамысловай вытворчасці ў Амерыцы, пасля чаго пачынаецца нястрымнае развіццё прамысловага крызісу. У далейшым крызіс наймацней паражае іменна Злучаныя Штаты Амерыкі, якія з'яўляюцца галоўнай краінай капіталізма. Сусветны эканамічны крызіс развіўся на аснове агульнага крызісу капіталізма. (Пачатак агульнаму крызісу паклала сусветная вайна. Гэта вайна і яе вынікі,—як сказаў таварыш Сталін на XVII партыйным з'ездзе,—узмацнілі загніванне капіталізма і падарвалі яго роўнавагу. Капіталізм перастаў быць адзінай і ўсеахапляючай сістэмай сусветнай гаспадаркі. Загніваючай капіталістычнай сістэме процістаіць растучая і прэўспяваючая соцыялістычная сістэма). Ахапіўшы галоўныя капіталістычныя краіны, прамысловы крызіс пераплёўся з аграрным крызісам сельскагаспадарчых краін. Усё гэта садзейнічала паглыбленню крызісу ў цэлым.

Які ўплыў меў крызіс на міжнародныя адносіны?

Важнейшым вынікам сусветнага эканамічнага крызісу з'яўлялася абвостранне супярэчнасцей паміж буйнейшымі імперыялістычнымі краінамі, паміж пераможцамі і пераможанымі, паміж імперыялістычнымі дзяржавамі і калоніямі, паміж пролетарыятам і буржуазіяй. У прыватнасці, краіны-пераможцы ўзмацняюць барацьбу паміж сабой за рынкі збыту, сыравіну і вываз капіталу. А гэта акалічнасць у агромнай меры садзейнічала паглыбленню крызісу версальскай сістэмы, паколькі ўмовай яе недатыкальнасці было захаванне саюза краін, перамогшых Германію ў час сусветнай вайны.

Сусветны эканамічны крызіс узняў супярэчнасці версальскай сістэмы на новую ступень. Часовай стабілізацыі капіталізма прышоў канец. Суадносіны сіл паміж капіталістычнымі дзяржавамі змяніліся. Іх не задавальняе ўжо перадзел свету, праведзены ў выніку вайны 1914—1918 гг. Многія капіталістычныя дзяржавы ставяць пытанне аб неабходнасці новага перадзелу свету ў адпаведнасці са змяніўшыміся суадносінамі сіл. Імперыялісты рыхтуюць новую вайну за перадзел рынкаў, крыніц сыравіны і т. д. Амерыка нездаволена тым, што версальскі мір не даў ёй зямель, на якіх можна было-б распалажыць базы для ваеннага флота. У канкурэнтаў Амерыкі—Англіі і Японіі—становішча ў гэтых адносінах значна больш выгоднае (англійскія ваенна-морскія базы раскіданы па ўсяму свету, японскі флот, у выпадку вайны, можа дзейнічаць паблізу сваіх асноўных баз). Супернікі Англіі нездаволены тым, што, у выніку версальскага міру, львіная доля каланіяльнай здабычы дасталася Англіі. Італія, якая лічыць сябе абдзеленай пры версальскім раздзеле свету, дамагаецца перакройкі граніц у сваю карысць. У 1935—1936 гг. яна вядзе вайну ў Афрыцы. Японія ўжо ў 1931 г. пачала ўзброеную барацьбу на Далёкім Усходзе за новы перадзел свету. Германія ўзмоцнена падрыхтоўвае вайну ў Еўропе.

Капіталістычны свет зноў, як і 22 гады назад, стаіць на парозе вайны, вайны больш крывавай, больш зруйнавальнай, чым папярэднія войны. Асабліва трэба спыніцца на палітыцы Германіі ў апісваемы перыяд. Пад уплывам крызісу рухнула сістэма рэпарацый, якія з'яўляліся адным з істотнейшых элементаў версальскай сістэмы. Рэпарацыі або плацяжы ў рахунак страт, прычыненых Германіяй у час вайны грамадзянскаму насельніцтву краін-пераможцаў, прадстаўлялі сабой у руках пераможцаў магутны сродак даўлення на Германію. У выпадку няўплаты Германіяй рэпарацыйных плацяжоў пераможцы мелі права прымяняць у адносінах да Германіі меры прымусу. Згодна § 18, дадатку 2-га да 8 артыкулу (прысвечанаму рэпарацыям) Версальскага дагавора, Германія абавязалася «не разглядаць як варожыя дзеянні гэтыя меры». Апошнія «могуць заключацца ў актах эканамічнай і фінансавай забарон і рэпрэсалій і наогул у такіх іншых мерах, якія адпаведныя ўрады палічаць як вымушаныя акалічнасцямі».

Больш гібкая англа-амерыканская сістэма выплачвання рэпарацый, устаноўленая ў 1929 г., была змецена крызісам. Спачатку краіны-пераможцы, пад націскам амерыканскіх банкіраў, павінны былі даць Германіі адтэрміноўку плацяжоў. Прымусовае спагнанне іх ва ўмовах крызісу немінуча прывяло-б да банкроцтва Германіі, а гэта было-б роўнасільна страце грошай, пазычаных амерыканскай буржуазіяй Германіі. На канферэнцыі ў Лазанне (1932 год) было прынята рашэнне прадаставіць Германіі адтэрміноўку, пры ўмове, калі будуць прыпынены плацяжы па міжсаюзніцкім даўгам (у першую чаргу па даўгам Францыі і Англіі Амерыцы). У далейшым краінам-пераможцам прышлося зусім адмовіцца ад атрымання рэпарацыйных плацяжоў.

Уплыў крызісу на лёс версальскай сістэмы і палітыку Германіі сказаўся, зразумела, не толькі ў фактычнай адмене рэпарацый. У абстаноўцы безупыннага росту абурэння мас супроць панавання капіталу, у абстаноўцы нарастання рэвалюцыйнага крызісу, германская буржуазія ўстанавіла адкрытую фашысцкую дыктатуру. Прыход к уладзе фашызма ў Германіі азначаў, што расце рэвалюцыйны крызіс, што пры дапамозе старых спосабаў кіраўніцтва германская буржуазія ўжо не ў сілах утрымаць сваё панаванне.

Неабходна падкрэсліць, што паміж унутранай і знешняй палітыкай германскага фашызма ёсць цяснейшая сувязь і ўзаемная залежнасць. І для ўнутранай палітыкі, асноўнай задачай якое з'яўляецца барацьба супроць пролетарыята, і для знешняй палітыкі, асноўнай задачай якое з'яўляецца падрыхтоўка да вайны за новы перадзел свету ў карысць Германіі, старыя спосабы кіраўніцтва сталі перашкодай.

Германская буржуазія і да прыходу к уладзе ўрада Гітлера, які ажыццяўляе фашысцкую дыктатуру, жорстка прыгнятала германскі рабочы клас і працоўных. Але пасля прыходу к уладзе ўрада Гітлера германская буржуазія ў нязмерна большай ступені стала прымяняць голы, непрыкрыты прымус.

Да ўстанаўлення адкрытай фашысцкай дыктатуры, Германія імкнулася не даць краінам-пераможцам магчымасці пагоршыць умовы Версальскага дагавора і паступова падрыхтоўвала выступленне супроць паасобных звенняў версальскай сістэмы. Пасля прыходу к уладзе ўрада Гітлера германская буржуазія адкрыта ставіць у парадак дня злом версальскай сістэмы ў цэлым, прычым гвалтоўныя метады, зразумела, высоўваюцца на першы план.

Германская буржуазія заяўляе, што яна змагаецца супроць вер-

сальскай сістэмы. Неабходна, аднак, даць сабе адказ у тым, што азначае лозунг барацьбы супроць Версаля ў вуснах германскіх фашыстаў.

а) «Мірны» перагляд версальскай сістэмы немагчым. Немагчым хоць-бы па той простай прычыне, што выйграўшыя ў выніку версальскага міру дзяржавы са зброяй у руках будуць абараняць свае заваёвы. Гэта вельмі добра разумее і германская буржуазія. На працягу апошніх год патрабаванне перагляду Версальскага дагавора выстаўляецца адначасова з патрабаваннем «роўнапраўя ва ўзбраеннях». Патрабуючы, каб ёй дазволілі дагнаць у адносінах узбраенняў іншыя капіталістычныя краіны, Германія тым самым пацвярджала, што яна лічыць узбраенне тою рэальнаю сілай, ад якой будзе залежаць вырашэнне міжнародных пытанняў і, у прыватнасці, пытанне аб лёсе версальскай сістэмы. Не атрымаўшы ад краін-пераможцаў згоды на павелічэнне ўзбраенняў, Германія выходзіць з Лігі нацый і ў явачным парадку прыступае да ўзмоцненай падрыхтоўкі вайны за новы перадзел свету. Гэта імкненне да новага, выгаднага для Германіі, перадзелу і скрываецца за лозунгам перагляду Версальскага дагавора. Увесну 1935 г. Германія адкрыта разрывае ўсе часткі Версальскага дагавора, якія абмяжоўвалі германскае ўзбраенне. Урад Гітлера стварае двухмільённую армію, будуе буйныя паветраны, морскі і падводны флоты, яўна прызначаныя для вялікай знешняй вайны.

б) Барацьба Германіі супроць Версаля мае сваёй мэтай не толькі звярнуць адабраныя ў Германіі землі (Эльзас-Латарынгію, Эйпен, Мальмеды, Марэнэ, Паўночны Шлезвіг, часткі Ўсходняй і Заходняй Прусіі, Данцыг, Мемель, Верхнюю Сілезію, калоніі ў Афрыцы і на Далёкім усходзе). Германская буржуазія будзе спрабаваць ажыццявіць як на Захадзе, так і на Ўсходзе, тую захватніцкую праграму, якая пацярпела крушэнне ў ходзе сусветнай вайны.

в) Германскі фашызм надзвычай актыўна рыхтуецца вырашыць супярэчнасці версальскай сістэмы за кошт СССР. Мэтай германскага фашызма з'яўляецца захоп Украіны, Данецкага басейна, Каўказа, Закаўказзя, а некаторыя найбольш заўзятыя фашысцкія палітыкі гавораць нават аб неабходнасці захопу совецкіх сярэдне-азіяцкіх рэспублік. Палітыка Германіі ў Еўропе пераклікаецца з захватніцкай палітыкай імперыялістаў на Далёкім Усходзе. Германія і Японія ўстанаўляюць вельмі цесныя адносіны. Замежны друк не раз сцвярджаў нават, што ёсць афармлены германа-японскі саюз. Што агульнага ў гэтых двух краін? І Германія і Японія не ў сілах расправіцца з рэвалюцыйным рухам унутры краіны, як і не ў сілах вырашыць эканамічныя пытанні. Няўдачы ва ўнутранай палітыцы ўсё больш і больш штурхаюць як Германію, так і Японію, да пошукаў выхаду з тупіка шляхам знешняй вайны. (Вашынгтонскае пагадненне фактычна не дзейнічае. Японія пачала ўжо вайну за новы перадзел свету, уторгнуўшыся ў верасні 1931 года ў Кітай). Абодва ўрады выкарыстоўваюць аднолькавыя сродкі. Яны распальваюць шавіністычныя і нацыяналістычныя настроі, спрабуюць пасеяць у масах нянавісць да іншых народаў. Абодва ўрады распрацоўваюць план новага перадзелу свету за кошт Совецкага Саюза.

Ітак, той перадзел свету, які быў завершан 16 год таму назад, не здавальняе ўжо цэлы рад капіталістычных краін. Справа яўна ідзе да вайны за новы перадзел свету.

У апісваемы намі перыяд меў месца цэлы рад антысовецкіх права-

кацый. Міжнародная буржуазія пераконваецца ў тым, што надзеі на перараджэнне нашай дзяржавы дарэмны. Міжнародная буржуазія спрабуе падтрымаць зацятае супраціўленне гінучых капіталістычных элементаў унутры нашай краіны. У 1929 годзе арганізуецца цэлы рад антысовецкіх кампаній («крыжовы паход», «прымусовая праца», «дэмпінг»). У тым-жа 1929 годзе кітайскія імперыялісты захватваюць Кітайска-усходнюю чыгунку. Гэта правакацыя не ўдаецца, дзякуючы магутнаму адпору, які атрымалі ад нас мілітарысты. Цэлы рад правакацый меў месца з боку Японіі. Частка японскай ваеншчыны адкрыта выступае за развязванне антысовецкай вайны. Шматлікія варожыя выступленні мелі месца і з боку германскага друку і паасобных прадстаўнікоў германскага ўрада. Совецкі Саюз не даў сябе справакаваць. Совецкі ўрад, даючы дастойны адказ на ўсе гэтыя правакацыі, працягваў няўхільна праводзіць палітыку міру.

На працягу апісваемага часу партыя дала рашучы адпор тым, хто спрабаваў спіхнуць нас з правільнага шляху ў галіне ўнутранай і знешняй палітыкі. Для апошняй мела велізарнае значэнне тое, што партыя разбіла правых, якія хацелі абяззброіць нас перад тварам імперыялізма. Партыя разбіла контррэволюцыйны трацкізм, які спрабаваў уцягнуць нас у знешне-палітычныя авантуры, а зараз выступае, як прамая агентура фашызма.

Асабліва неабходна падкрэсліць надзвычайны рост міжнародных сіл і значэння Совецкага Саюза. У выніку перамогі генеральнай лініі Партыі і разгрому яе ворагаў, у выніку пераможнага выканання пяцігодкі, росту добрабыту, перамог у прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, міжнародная магутнасць нашай краіны надзвычай узрасла. Гэта акалічнасць сказваецца ў тым, што, побач з усімі апісанымі правакацыямі, цэлы рад капіталістычных краін развівае свае адносіны з СССР, улічваючы магутнасць нашай краіны, улічваючы тыя выгады, якія можна атрымаць пры развіцці эканамічных адносін з намі.

Неабходна аднačасова адзначыць грандыёзны рост сімпатый пролетарыята і працоўных усяго свету да краіны Советаў. Некаторыя краіны Еўропы, якім пагражае агрэсія германскага імперыялізма, устанаўляюць з СССР нармальныя дыпламатычныя адносіны, улічваючы яго магутнасць і яго палітыку міру (Чэхаславакія, Румынія).

Пачынаючы з 1917 года, совецкі ўрад нязменна і паслядоўна праводзіць палітыку міру. У абстаноўцы росту ваеннай небяспекі, совецкі ўрад высунуў цэлы рад новых сродкаў забяспечання міру ў дадатак да таго, што ўжо рабілася раней (совецкія прапановы аб раззбраенні, совецкія пакты аб ненападзе і т. п.).

Совецкая дыпламатыя ўлічвае, што ў сучасны момант не ўсе без выключэння капіталістычныя краіны імкнуцца да вайны і непасрэдна яе падрыхтоўваюць у бліжэйшым будучым. Совецкая дыпламатыя, кіруючыся той думкаю, што зараз «побач з краінамі, якія ўжо замянілі дыпламатыю ваеннымі аперацыямі, або яшчэ, будучы да гэтага непадрыхтаванымі, збіраюцца гэта зрабіць у недалёкім будучым, ёсць такія, якія пакуль яшчэ падобных задач сабе не ставяць» *).

Совецкая дыпламатыя паставіла сабе задачай згуртаванне краін, незацікаўленых у парушэнні міру. У гэтай галіне дасягнуты значныя поспехі. Заключаны пакты аб узаемадапамозе з Францыяй і Чэхаславакіяй. Гэтыя дзве краіны пашлі на збліжэнне з Совецкім Саюзам,

*) **М. М. Літвінаў**—Прамова на 4 сесіі ЦВК СССР 6 склікання. Апублікавана ў „Известиях" ЦВК 30 снежня 1933 г. № 316.

улічваючы новую абстаноўку ў Еўропе, улічваючы магутнасць совецкай краіны і яе палітыку міру.

Каштоўнейшымі ўкладамі СССР у справу барацьбы за мір з'яўляюцца тэзісы аб недзялімасці міру і совецкае вызначэнне агрэсара, прынятае ўжо цэлым радам краін (Турцыя, Афганістан, Іран, Польшча, Румынія, Эстонія, Латвія, Чэхаславакія, Югаславія і Літва). Совецкі ўрад, далей, падтрымаў Лігу нацый, паколькі яна адыгрывае ў сучасны момант пэўную тармозячую ролю для сіл, якія рвуцца да вайны. Факт запрашэння Совецкага Саюза ў Лігу нацый 34-ма дзяржавамі сведчыў адначасова аб велізарным росце нашай міжнароднай сілы.

Пад кіраўніцтвам правадыра народаў таварыша Сталіна мы дасягнулі значнейшых поспехаў у галіне ўмацавання міжнародных пазіцый СССР. Гэты вынік павінен быць адзначаны ў сувязі з 19 гадавінай Окцябрскай рэволюцыі. Нашы знешне-палітычныя поспехі, аднак, ні ў якай ступені не павінны прывесці да самасупакоенасці, да аслаблення пільнасці. Сілы, якія рыхтуюць вайну, безупынна працягваюць сваю работу. Гэтым сілам Совецкая дзяржава процістаўляе палітыку згуртавання мірных краін.

Совецкая палітыка міру няўхільна будзе праводзіцца і наперад. Калі-ж імперыялісты адважацца зацеяць вайну, то ім прыдзецца мецьсправу не толькі з уладаючай усімі сродкамі абароны Чырвонай арміяй, але і з усёй магутнасцю вялікай 170-мільённай краіны.

---

В. Александровіч

# Адзін з многіх*)

Слаўныя бойкі за перамогу вялікай Окцябрскай рэволюцыі, бітвы на фронтах грамадзянскай вайны нараджалі герояў. Лепшыя сыны партыі і рабочага класа з беззаветнай адданасцю, любоўю і нязломнаю верай у перамогу, галодныя і абарваныя, зняважліва пазіраючы ў твар смерці, ішлі абараняць совецкую ўладу ад полчышчаў белагвардзейцаў і інтэрвентаў.

На подступах да Зімняга і Царыцына, у бойках з нямецкімі захватнікамі і «усевялікім войскам данскім», пад Валачаеўкай і каля Перакопа, пад Кахоўкаю і Менскам, ля Кіева і пад Варшавай, ля Чырвонай Горкі і пад Кранштатам—усюды перамагала геройства храбрых.

Аб адным з такіх беззаветных герояў, які аддаў сваю моладасць і жыццё за справу перамогі Окцябра, за справу рабочага класа, аб Александру Раманавічу Салаўю—члене комуністычнай партыі большэвікоў—мы і хочам расказаць.

* * *

У 1891 г. у сяле Гаць, Рудабельскай воласці, Бабруйскага павету, у сям'і беднага селяніна Рамана Салаўя, паспытаўшага ўвесь цяжар памешчыцкай і кулацкай кабалы, нарадзіўся сын Александр. Галеча і голад былі неадлучнымі спадарожнікамі сям'і Рамана Салаўя. Уласнай зямлі Раман ніколі не меў. Ледзь золак выходзіў ён на заработкі то да пана Іваненка, то ў Рудабелку—да барона Врангеля, ведучы за ручку нізкарослага кволага хлопчыка свайго старшага сына Александра. Змалку марыў Александр вывучыцца «на агранома». Але дзіцячыя мары не збыліся. У школе правучыўся ён толькі тры гады. «У майго мужа было шмат даўгоў пану,—расказвае другая жонка Рамана, замяніўшая Александру маці, якую ён згубіў яшчэ ў раннім дзяцінстве.—Александру часта прыходзілася хадзіць з бацькам батрачыць да кулакоў, пасвіць кароў, араць зямлю. Александр вельмі любіў вучыцца. Бывала, сам сабе задае ўрокі і адказвае».

З 1912 па 1917 год Александр Салавей служыць у царскай арміі. Грозная здань муштры, зверскія адносіны да салдата, провады ў армію, як на смерць—усё гэта выклікала ў Александра агіду да «царскай службы». Дый каго ён павінен быў абараняць, за што змагацца? За сваю струхнелую поўраскіданую хатку?

*) Па матэрыялах Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б.

У вільготных акопах пад ураганным агнём праціўніка, змерзлыя і галодныя, без патрона і знарадаў, узначаленыя труслівым і прадажным камандваннем царскай арміі, многія салдаты задумаліся над мэтай вайны і сталі шукаць выхаду. У арміі Александр упершыню спаткаўся з большэвікамі, прадстаўнікамі адзінай рэволюцыйнай партыі. Толькі большэвікі ўказвалі сапраўдны выхад з жахаў вайны. Александр, які прагнуў адшукаць гэты выхад, знайшоў яго ў большэвікоў. З дому да Александра ішлі кепскія чуткі: паведамлялі, што бацьку ледзь не забілі панскія гайдукі за тое, што ён клікаў сялян дзяліць панскую зямлю; паведамлялі, што пан Іваненка за даўгі выганяе старых з хаткі... Гэтыя весткі далі толькі лішні штуршок фармаванню большэвіцкага светапогляду Александра. У лютым—сакавіку 1917 года Салавей уступае ў партыю большэвікоў і хутка становіцца на чале адной з партыйных арганізацый сваёй часці.

У Рудабелку Салавей вярнуўся большэвіком і адразу стаў у цэнтры барацьбы з эсэрамі і іх групай, якую складалі: Сакалоўскі, Мухаль, Шыкаловіч, Данілевіч, Меркало, Ермалінскі і інш. У барацьбе з эсэрамі Салавей скалаціў групу з найбольш энергічных і адданых совецкай уладзе таварышоў: Леўкова, Одзінцова, Уса Максіма *), матроса Зіновія Раговіча **) і інш. Гэтыя людзі склалі асноўнае ядро партыйнай арганізацыі і баявых атрадаў Рудабелкі.

Стаўшы на чале сялян-паўстанцаў, група пачала першыя сутычкі з легіянерамі польскага корпуса Даўбор-Мусніцкага, распаложанага ў трыкутніку Бабруйск—Рагачоў—Магілеў.

Пасля вялікай пролетарскай рэволюцыі корпус Даўбор-Мусніцкага не падначаліўся загаду совецкай улады і заняўся аховай маемасці польскіх паноў, з нечуванай лютасцю распраўляючыся з сялянамі, якія спрабавалі ўзяць памешчыцкую зямлю. Корпус знаходзіўся на ўтрыманні польскіх паноў Патоцкіх, Чапскіх, Ваньковічаў, Радзівілаў. Варожа настроены супроць совецкай улады корпус Даўбор-Мусніцкага прадстаўляў адкрытую пагрозу існаванню совецкай улады ў занятым ім раёне. Улічваючы гэта, бабруйскі камітэт партыі большэвікоў рыхтаваўся даць адпор контррэволюцыйнаму выступленню польскіх легіёнаў. Але ў ноч з 20 на 21 студзеня 1918 года легіянеры акружылі памяшканне Совета, раззброілі ахову і, арыштаваўшы ўсіх членаў Совета, адправілі іх у турму.

Атрымаўшы першыя весткі аб контррэволюцыйным паўстанні польскіх легіёнаў у Бабруйску, ваенна-рэволюцыйныя камітэты сталі арганізоўваць па валасцях баявыя атрады з батракоў, беднейшых сялян і салдат, якія вярнуліся са старой арміі. Перад пагрозай захвату воласці Даўбор-Мусніцкім, які нёс з сабою ўладу паноў, беднейшае сялянства бралася за зброю. Рудабельская воласць рыхтавала дастойную сустрэчу няпрошаным гасцям. Арганізоўваліся чырвонагвардзейскія атрады, расстаўляліся пасты і заставы, з патайных куткоў выцягвалася прывезеная з фронту рознастайная зброя, у ход пашлі як навейшыя вінтоўкі, так і навостраныя косы.

Арганізатарам гэтай справы быў Александр Салавей. Рудабельскі ваенна-рэволюцыйны камітэт прызначыў яго начальнікам атрада, які павінен быў прыкрываць ад легіёнаў Ратміравіцкую чыгуначную ветку—важнейшы шлях да Рудабелкі. Салавей сам жыў у Озем-

*) Забіты ў 1920 годзе белапалякамі.
**) Забіты ў 1920 годзе белапалякамі.

лі, а ў Ратміравічах у яго заўсёды стаяў пост з узброеных чырвонагвардзейцаў. Аднойчы сяляне паведамілі, што па Ратміравіцкай ветцы едуць легіянеры. Салавей на чале атрада ў 8—10 чырвонагвардзейцаў устроіў засаду на ст. Ратміравічы. Калі цягнік з легіянерамі прыбыў на станцыю, чырвонагвардзейцы выскачылі з засады і, страляючы залпамі, з крыкамі «ура» кінуліся на іх. Палякі, у колькасці 40 чалавек, ахопленыя панікай ад нечаканага нападу, здаліся ў палон атраду Салаўя. Гэта перамога ўзняла настрой байцоў, умацавала ўпэўненасць у сваіх сілах, надзею на перамогу. Захопленыя трафеі былі якраз дарэчы, бо зброі нехапала. Рэўком, які адначасова з'яўляўся штабам па фармаванню чырвонай гвардыі, не мог забяспечыць аружжам усіх жадаючых уступіць у атрад. У яго распараджэнні было ўсяго каля 100 вінтовак, і кожны завербаваны ў атрад са зброяй цаніўся на вагу золата. Ведаючы вострую патрэбнасць у зброі, бедныкі даставалі старыя заржавелыя вінтоўкі, рэвальверы, патроны і здавалі іх ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту. Канфіскоўвалі зброю ў мясцовых кулакоў і папоў. Так, напрыклад, адабрана была зброя ў папа Перагуда, у кулака Ермалінскага і іншых. Спроба атрымаць зброю з Менска не ўдалася, бо ён ужо быў заняты нямецкімі акупантамі.

Цяга працоўных сялян у баявыя атрады была велізарнай. Страх расправы за адабраную ў пана маемасць, прагнасць вольнага жыцця накіроўвалі сялян на адзіны шлях—у чырвонагвардзейскія атрады. Кожны ўступіўшы ў атрад жыў у сябе дома, выходзячы па запатрабаванню рэўкома або яго ўпаўнаважанага для выканання абавязкаў байца. Калі ў вёсцы налічвалася 50 чырвонагвардзейцаў, то яны падзяляліся на 3 аддзяленні, складаўшыя ўзвод з камандзірам на чале. Узводы некалькіх вёсак злучаліся ў роты, а роты ў батальёны. Адным з такіх батальёнаў камандваў Салавей. Гэты батальён быў найбольш арганізаваным, падначальваўся непасрэдна штабу і з'яўляўся яго апорай.

Не гледзячы на ўпартае супраціўленне чырвонагвардзейцаў, рэгулярныя часці легіянераў захапілі Рудабельскую воласць. Корпус Даўбор-Мусніцкага пачаў карныя экспедыцыі. Арыштамі і расстрэламі ён стараўся аднавіць былыя панскія правы. У загадзе гаварылася: «Усе жыхары павінны безадкладна звярнуць уласнікам усю забраную самавольна маемасць, лес, жывёлу і іншае. Асобы, якія добраахвотна не звернуць пакрадзенага, будуць арыштаваны і адасланы ў Бабруйскую крэпасць для аддання ваенна-палявому суду». У Горкаўскай воласці камендант раёна Лавандоўскі прапанаваў безадкладна ўнесці ўсе нядоімкі казённых і грамадскіх збораў за мінулыя гады, пагражаючы неплацельшчыкам карнымі экспедыцыямі. Выступаючы ў Бабруйску на земскім сходзе, Даўбор-Мусніцкі заявіў, што за кожнага забітага легіянера будзе забіта 10 сялян, за кожны папсаваны тэлефонны кабель будзе спалена вёска.

У кожную воласць былі прызначаны каменданты, якія бескантрольна тварылі суд і расправу над працоўнымі сялянамі. Людзей расстрэльвалі без суда. Яркай ілюстрацыяй гэтаму служыць загад ад 9 сакавіка 1918 года польскага каменданта м. Урэчча: «З прычыны перапаўнення крэпасці рознымі злачыннымі элементамі, атрыман загад распраўляцца з падобнымі тыпамі на месцы. У сувязі з гэтым папярэджваю, што за ўсякія самавольныя захваты чужой маемасці, рабункі, парубку чужога лесу і невыкананне маіх распараджэнняў

вінаватыя будуць расстраляны на месцы злачынства *). Да тла спалілі легіянеры вёску Бортнікі. У мястэчку Парычах расстралялі гр. Дуброўскага, абвінавачанага ў спачуванні савецкай уладзе. А ротмістр Гоц, сагнаўшы ў пажарнае дэпо ўсю яўрэйскую моладзь, загадаў ёй скакаць усю ноч, абяцаючы раніцой усіх павесіць. Здзекам легіянераў над працоўным насельніцтвам не было канца.

Ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту і чырвонагвардзейцам прышлося ісці ў падполле. Партыйная арганізацыя Рудабелкі складалася тады з чатырох чалавек. Але польскае камандванне, загнаўшы гэту маленькую групу людзей у падполле, не змагло пахіснуць яе рашымасці змагацца з захватчыкамі, рабаўнікамі, забойцамі, не здолела знішчыць яе. Наадварот, за час падполля партарганізацыя Рудабелкі вырасла і ўмацавалася, ахапляючы сваім уплывам усё большыя і большыя масы працоўных сялян, што ў значнай меры з'яўлялася заслугай Салаўя—самага актыўнага і падрыхтаванага работніка.

У Салаўя таварышы Рудабельскай партыйнай арганізацыі і партызанскіх атрадаў вучыліся дысцыпліне і рэвалюцыйнай вытрымцы. Салавей быў палкім прамоўцай. Усе з захапленнем слухалі яго выступленні і вучыліся ў яго, як трэба гаварыць з масамі сялян.

Сяляне слухалі выступленні Салаўя з вялікім давер'ем, бо бачылі ў ім свайго чалавека з Гаці, які не абмане.

Салавей да кожнай справы падыходзіў партыйна. У падполлі ён прапанаваў узяцца за афармленне ў члены партыі найбольш актыўных і адданых таварышоў з кіраўнікоў партызанскага руху.

Падабраўшы групу надзейных таварышоў, Салавей азнаёміў іх са статутам, праграмай і арганізацыйнымі прынцыпамі будовы партыі большэвікоў. Даручаючы маладому партыйцу якое-небудзь заданне, Салавей заўсёды сам правяраў, як яно выконваецца. Трымаючы цесную сувязь з сялянствам суседніх валасцей, партыйная арганізацыя Рудабелкі хутка вырасла да 30—40 чалавек, галоўным чынам за лік лепшых людзей з баявых атрадаў.

Польскія легіянеры пратрымаліся нядоўга і былі дэмабілізаваны германскім камандваннем. Большасць распрадалася ў раздроб панам для аховы маёнткаў.

Але там, дзе нядаўна лютавалі польскія легіянеры, устанавілася не менш зверская ўлада германскіх акупантаў. Нямецкае камандванне парашыла адразу расправіцца з бунтаўшчыкамі і навесці строгі парадак, неабходны для бесперабойнага снабжэння галадаючай Германіі дармовым хлебам, мясам, маслам і іншымі прадуктамі з беларускіх вёсак. Велізарныя кантрыбуцыі і падаткі канчаткова знясілілі сялянскія гаспадаркі. Цэны на прадукты харчавання з кожным днём павышаліся, а заработная плата рабочых увесь час зніжалася.

У цяжкіх умовах акупацыі выбухаюць забастоўкі рабочых, з якімі нямецкае камандванне бязлітасна распраўляецца. Турмы перапаўняюцца арыштаванымі большэвікамі і партызанамі.

Абурэнне шырокіх народных мас, выкліканае рабаўнічай палітыкай нямецкіх акупантаў, расстройвала планы нямецкага камандвання. Працоўнае насельніцтва акупаваных абласцей Беларусі пасылала

*) АОР БССР, справа Горкаўскай земскай управы з распараджэннямі і загадам польскай ваеннай улады.

ў Маскву цэнтральным органам савецкай улады заявы з просьбай выгнаць нямецкае войска з занятай ім тэрыторыі. Яркім таму прыкладам служыць наступны дакумент:

## ПРАТАКОЛ

агульнага сходу 26 чэрвеня 1918 года

Мы, што ніжэй падпісаліся, грамадзяне Клясціцкай воласці, Дрысенскага павета, Віцебскай губерніі, вёсак: Сідаронкі, Полічы, Дзмітраўка, Марачкова і Вавоніца, сабраліся сёння ў колькасці 260 чалавек, каб абмеркаваць пытанне аб нежаданні заставацца далей пад нямецкаю ўладай. Пасля абмеркавання гэтага мы аднагалосна пастанавілі: звярнуцца з належным хадайніцтвам да ваенных улад Расійскай Савецкай Федэрацыйнай Рэспублікі аб вызваленні нас ад дэспатычнага нямецкага ярма, бо мы не маем мажлівасці і не жадаем быць пад іхняй уладай і падначальвацца іх законам.

З гэтай прычыны просім накіраваць наш пратакол вышэйшым ваенным уладам для належнага распараджэння ў самы кароткі час. У чым і падпісваемся» *).

Большэвіцкім арганізацыям прыходзілася весці ўпартую барацьбу супроць стыхійнасці і неарганізаванасці, супроць эсэраўскіх атрадаў, якія імкнуліся правакацыйнымі выступленнямі сарваць заключаны савецкай уладай Брэсцкі дагавор.

Упартую работу вёў Салавей у перыяд нямецкай акупацыі. Скалачваў у Рудабелцы партыйную арганізацыю, з кожным новым яе членам гутарыў па некалькі раз, узважваючы яго каштоўнасць і адданасць.

К жніўню 1918 года Рудабельская большэвіцкая арганізацыя значна павялічылася. У партызанскім атрадзе было больш 400 чалавек. Атрадам гэтым кіравала партыйная арганізацыя Рудабелкі. Партыйны камітэт часта збіраў падпольныя сходы ў гайку каля Гацьскай дачы, дзе кожны месяц у маладзік папы наладжвалі малебны.

Аднойчы раніцою ў гайку сабралася 15—20 найбольш надзейных людзей. Згаварыліся так: перад тым, як адкрыць агульны сход, спачатку для канспірацыі арганізаваць гулянку.

Было гэта ў разгар лета. Дзень выдаўся ясны, сонечны. Зацягнулі песні, пагулялі з дзяўчатамі, а потым сталі разыходзіцца. Адышоўшы з кілометр у бок, залеглі ў хмызняку і пачалі сход. Салавей расказваў аб тым, што савецкая ўлада дала загад арганізаваць рэгулярнае савецкае войска—Чырвоную армію, і што наша задача дапамагаць ёй усімі сіламі.

«Я ведаю,—гаварыў Салавей,—што ўсім вам абрыдла ваяваць. Але, калі ворагі нас абкружылі,—наша справа змагацца з імі і перамагчы. Калі хто-небудзь з вас трапіць у рукі ворага, трымайцеся моцна, не выдавайце таварышоў! Вам прыдзецца паспытаць нагаек і шампалоў, але вы павінны быць стойкімі большэвікамі і не пакідаць змагання, пакуль не прагонім ворагаў са сваёй зямлі».

Прыкладна, у чэрвені 1918 года рудабельская арганізацыя наладжвае сувязь з бабруйскім падпольным камітэтам. У Бабруйск па-

*) Цэнтр. архіў Окцябрскай рэволюцыі, с. № 451, л. 81.

ехалі Салавей і Драпеза. Там яны расказалі аб рабоце сваёй арганізацыі, атрымалі нелегальную літаратуру, указанні аб далейшай рабоце.

Завязаўшы сувязь з Бабруйскам, рудабельская партыйная арганізацыя атрымала магчымасць шырэй разгарнуць работу па забяспечанню сялян большэвіцкай нелегальнай літаратурай, а таксама і зброяй. Была створана цэлая сетка кааператыўных арганізацый, якія служылі поўлегальным каналам для дастаўкі літаратуры і зброі. Сярод солі, цвікоў, цукру і розных іншых падобных рэчаў былі захаваны большэвіцкія пракламацыі, газеты для нямецкіх салдат, патроны, рэвальверы, гранаты. Пры дапамозе сваіх людзей, якія працавалі ў кааператывах, гэты транспарт разыходзіўся па валасцях і вёсках, а адтуль накіроўваўся у партыйныя ячэйкі і партызанскія атрады. Харчовая ўправа і не здагадвалася аб тым, якую вялікую паслугу яна аказвае рудабельскай партыйнай арганізацыі.

Вельмі часта пад выглядам праўлення кааперацыі збіраўся партыйны камітэт. Аднойчы на такі сход наскочылі немцы. А сабралася тады ўся галоўка арганізацыі. У выпадку вобыску немцы маглі-б знайсці пратаколы камітэта, нелегальную літаратуру, і, вядома, арышт усім быў-бы забяспечан. Аднак Салавей не замяшаўся і працягнуў немцам дазвол на паседжанне праўлення кааператыва. Салдат прачытаў, заківаў галавой—«гут, гут», прысеў і разгаварыўся. «За што вы ваюеце?»—запытаў Салавей, які крыху гаварыў па-нямецку.

Немцы засядзеліся доўга і рассталіся прыяцелямі, абяцаўшы Салаўю даставіць зброю. Сваё абяцанне яны хутка выканалі. Праз гэтых салдат партыйная арганізацыя Рудабелкі пачала завязваць сувязі з іншымі нямецкімі салдатамі, купляла ў іх зброю, рыхтуючыся да сакрушальнага ўдару. Бывалі выпадкі, калі распрапагандаваныя салдаты прыносілі зброю і аддавалі яе задарма.

Партыйная арганізацыя Рудабелкі пашырала сярод салдат нямецкія газеты «Ротэ фанэ» і «Ротэ зольдат», пракламацыі і лістоўкі з заклікам канчаць вайну і скінуць панаванне капіталістаў у Германіі. Гэта літаратура карысталася сярод нямецкіх салдат вялікай папулярнасцю. Нярэдкі былі выпадкі адкрытага братання партызан з нямецкімі салдатамі.

Нелегальную літаратуру ў Рудабелку дастаўляў бабруйскі падпольны камітэт. Выдзеленая для гэтага група таварышоў наладзіла рэгулярны транспарт літаратуры са Смаленска праз Оршу.

Пасажырская станцыя і горад Орша былі совецкімі. Таварная станцыя знаходзілася ў руках акупантаў. Аднойчы т. Катловіча, які адпраўляў вялікія кошыкі з нелегальнай літаратурай і бомбамі з Оршы нямецкай праз Жлобін у Бабруйск, арыштавалі, калі ён стаў у чаргу за білетам. Нямецкая камендатура зрабіла ў яго вобыск, але нічога не знашла, бо тав. Катловіч, каб не выдаць партыйную арганізацыю, з'еў багажную квітанцыю. Довадаў не аказалася, і багаж быў адпраўлен у Жлобін. Тав. Серабракоў, чакаючы гэты багаж, паслаў у Жлобін спецыяльнага чалавека з даручэннем прывезці літаратуру ў Бабруйск. Прашло з поўмесяца. Аднойчы ўвечары пасланы таварыш з'явіўся: «Давайце падводу. Багаж прыбыў». На пытанне, як яму ўдалося атрымаць багаж, ён адказаў, што даў начальніку пакгауза ўзятку. Гэты факт яскрава гаворыць аб прадажнасці нямецкіх чыноўнікаў. Прыкладна такім-жа чынам былі выратаваны і скрынкі, напоўненыя гранатамі.

Тт. Серабракоў і Пільман праз чайную, якая служыла ў Бабруйску месцам партыйнай яўкі, размеркавалі літаратуру і гранаты па валасных арганізацыях.

* * *

Непасрэдным кіраўніком рудабельскай арганізацыі большэвікоў быў бабруйскі камітэт партыі. Пачаўшы сваю работу ў глыбокім падполлі ў сакавіку 1918 года, ён арганізаваў у 22 валасцях партыйныя ячэйкі, цесна звязаўся з партыйнымі арганізацыямі Менска, Рагачова, Глуска, Жлобіна і камітэтам РКП(б) паўночна-заходняй вобласці. Бабруйскі камітэт меў у сваім распараджэнні кнігарню, чайную, склад падпольнай літаратуры і зброю.

Асаблівую ўвагу ўдзяляў камітэт рабоце ў валасцях. Гэта відаць з яго наступнай пастановы: «Неабходна больш дзейсная работа па непасрэднаму кіраўніцтву найбольш дробнымі арганізацыямі, для чаго накіраваць на месцы таварышоў Раеўскага і Грышына ў арганізацыі: Рагачоў, Жлобін, Цялуша, Анімовічы, Віктароўка, Рудабелка, Гарадок, Ясень, Крэнін». Заслухоўваючы 4 кастрычніка на сваім паседжанні справаздачу таварышоў аб паездцы па павету, камітэт адзначае добрую работу «ў Анімовічах, Віктараўцы і асабліва ў Рудабелцы, дзе арганізацыя развіта вельмі моцна і патрабуе падтрымання ўсемагчымымі сродкамі» *).

Бабруйскі камітэт вёў напружаную барацьбу з эсэрамі і іх падгалоскамі, якія наладжвалі правакатарскія ўзброеныя сутычкі. У выніку такой сутычкі ў Парычах было забіта 30 нямецкіх салдат і захоплена 4 кулямёты. Эсэры спадзяваліся сарваць гэтым Брэсцкі мір, але справа не ўдалася, бо масы ўсё больш заваёўваліся большэвікамі.

Лістападаўская рэвалюцыя ў Германіі, з энтузіязмам падхопленая нямецкімі салдатамі, вырвала ўладу з рук нямецкага камандвання, давяршыла разлажэнне арміі, ліквідавала Брэсцкі дагавор.

Рудабельскі партыйны камітэт рашыў пры дапамозе партызанскіх атрадаў паскорыць адыход немцаў. З гэтаю мэтай ён выпусціў адозву, у якой, вітаючы нямецкіх салдат з рэвалюцыяй у Германіі, прасіў камандванне вывесці войска з Рудабельскай воласці. Паколькі немцы з адыходам не спяшаліся, падпольны камітэт напісаў паўторнае патрабаванне аб безадкладным аслабаненні Рудабельскай воласці, пагражаючы ў праціўным выпадку пачаць ваенныя дзеянні.

Сабраўшыся ноччу ў вёску Кавалі, партыйны камітэт на чале з Салаўём стаў абмяркоўваць план захопу ўлады. Усе сілы былі размеркаваны на 4 атрады. Першаму атраду пад кіраўніцтвам тав. Леўкова было даручана заняць раён Карпілаўкі, другому, на чале з тав. Адзінцовым, даручана было ўзяць раён Ляскі, а трэцюю групу ўзначальваў тав. Званковіч, раён яго дзейнасці быў Дуброва. Сам Салавей з атрадам Драпезы павінен быў узяць маёнткі «Рудабелку» і «Парэчча».

Загадаўшы атраду сабрацца а 2 гадзіне ўночы на хутары Шэйка, Салавей з Драпезам накіраваліся ў вёску Ламовічы, каб забраць вінтоўкі, бо зброі было недастаткова. З Ламовічаў, аб'яднаўшыся з атрадам, увашлі ў Рудабелку. Па дарозе раззброілі прыстава Маніча, забраўшы ў яго вінтоўку, рэвальвер і шашку. У Ру-

---

*) АОР БССР ф. 82, с. 2. Пратаколы паседжанняў Бабруйскага камітэта (большэвікоў) за 1918 г.

дабелках немцы пачулі небяспеку і рыхтаваліся да паспешнага адыходу: кулямёты былі пагружаны на двуколкі, спяшаючыся выводзілі жывёлу. Убачыўшы партызан, немцы (а іх было дзве добра ўзброеныя пяхотныя роты) кінуліся да кулямётаў і падрыхтаваліся адкрыць агонь. У атрадзе Салаўя налічвалася каля 40 абыяк узброеных партызан. Уступаць у бой з немцамі было неразумна. Таму Салавей сказаў —«Страляць у вас мы не будзем, калі вы безадкладна выедзеце адгэтуль. Усю маемасць пакіньце тут». Немцы падпарадкаваліся.

Маёнтак «Парэчча» быў узят без бою.

У гэтую-ж ноч быў створан ваенна-рэволюцыйны камітэт пад старшынствам Александра Раманавіча Салаўя, абвешчана «Рудабельская Федэрацыйная Рэспубліка», забраны ўсе справы земскай управы. На невялікім астраўку ўстанавілася совецкая ўлада. Пасля цяжкіх дзён польскай і нямецкай акупацый сяляне нарэшце маглі вольна ўздыхнуць у гэтым невялікім пакуль совецкім раёне.

* * *

За некалькі дзён да адыходу нямецкіх войск з Бабруйска, падпольны камітэт парашыў стварыць спецыяльны ўзброены атрад з 400 байцоў, які, пад выглядам самаабароны і падтрымання парадку ў горадзе, процідзейнічаў-бы вывазу немцамі маемасці.

З валасцей і вёсак Віктараўкі, Бортнік, Гарадка былі сцягнуты ў горад узброеныя партызанскія атрады. Буйны атрад быў прыведзен з Рудабелкі пад камандай Салаўя. Разам у Бабруйск было сцягнута каля чатырох тысяч узброеных людзей.

28 лістапада Рэўваенсаюззап паведамляў Цэнтральнаму выканаўчаму камітэту:

> «Сёння немцы павінны ачысціць Бабруйск. Наша камісія прад'явіла патрабаванні: першае, каб у горадзе не раскрадалася маемасць, зброя і харчовыя склады, бо там у рэчаіснасці адбываецца раскрадванне вышэйадзначанага; другое—безадкладна аслабаніць палітычных арыштаваных; трэцяе—не разбіраць шляхоў зносін; чацвертае—не вывозіць тэлеграфаў і тэлефонаў. На ўсе патрабаванні атрымана згода. Грамадзянская ўлада ў горадзе перадана гарадскому самакіраўніцтву, якое арганізавала часовую ахову горада і маемасці. Туды ўвашлі 250 комуністаў».

29 лістапада совецкія войскі ўвайшлі ў Бабруйск. Іх з захапленнем віталі працоўныя масы горада. Прызначаны камітэтам рэўком цвёрда ўзяў уладу ў свае рукі. Вялікую дапамогу ў рабоце аказалі яму тт. Менжынскі і Мануільскі, якія ў гэты час знаходзіліся ў Гомелі. 22 снежня была склікана павятовая партыйная канферэнцыя, на якой прысутнічала 83 дэлегаты ад 400 членаў партыі. Ва ўсіх валасцях Бабруйскага павета былі абраны рэўкомы.

Па рашэнню бабруйскага партыйнага камітэта тав. Салавей быў адклікан з Рудабелкі і стаў фармаваць другі бабруйскі караульны батальён. Шмат сілы паклаў Салавей на гэту справу. Прывёў у парадак і абсталяваў зусім развaленыя казармы, падрыхтаваў камандны склад. Атрад Салаўя складаўся выключна з добраахвотнікаў Бабруйскага, Ігуменскага і іншых паветаў. У батальён увашлі розныя дробныя вайсковыя спалучэнні, што засталіся ў Бабруйску. Батальён з поўным правам называлі інтэрнацыянальным, бо там былі

беларусы, украінцы, немцы, мад'яры, латышы, кітайцы. Аснову і гонар батальёна складала рота беларусаў-комуністаў, створаная спецыяльным рашэннем рэўкома. Батальён налічваў 700 чалавек і з'яўляўся галоўнаю сілай рэўкома ў барацьбе з контррэволюцыяй і бандытызмам.

Сфармаваўшы батальён, Салавей застаўся яго камандзірам. Выхоўваючы з чырвонаармейцаў стойкіх салдат рэволюцыі, ён устанавіў цвёрдую ваенную дысцыпліну і ў цяжкія мінуты асабістым прыкладам узнімаў дух байцоў. Ён быў не толькі камандзірам, але лепшым другам і настаўнікам. Дні і ночы праводзіў ён з байцамі, чытаў ім газеты, хадзіў на кухню правяраць, чым іх кормяць. Калі даводзілася яму спаткаць засмучонага чырвонаармейца, ён дапытваўся, што з ім, можа чым нездаволены, што пішуць з дому? Каб быць бліжэй да байцоў, Салавей перабраўся жыць у казармы, тут-жа і абедаў. Для асабістага жыцця ў яго не заставалася часу. Калі таварышы клікалі пагуляць, ён заўсёды адказваў: «Не дарэчы ты гаворыш. Вось каля Глушы бандыты з'явіліся, ды шляхта з кулачком хлеб не здае. Цяпер няма калі займацца глупствам. Прыдзе час—сваё возьмем». Сярэдняга росту, з мяккім адкрытым ветлым тварам, надзвычайна жыццерадасны, заўсёды падцягнуты, з добрай ваеннай выпраўкай Салавей карыстаўся шырокай папулярнасцю і любоўю сярод чырвонаармейцаў.

Контррэволюцыя ў гэты цяжкі год, натхнёная наступленнем Калчака, усюды ўзнімала галаву. 24 сакавіка 1919 года афіцэр царскай арміі Стрэкапытаў з двума здрадніцкімі палкамі ўзначаліў мяцеж у Гомелі. Вестка аб контррэволюцыйным паўстанні Стрэкапытава была атрымана ў Бабруйску 25 сакавіка а 4 гадзіне раніцы. На экстраным паседжанні павятовага камітэта рашылі стварыць узброены атрад у 400—500 чалавек з часцей каравульных батальёнаў, ЧК і мабілізаваных комуністаў і безадкладна выступіць супроць мяцежнікаў. Камандзіру 2 бабруйскага каравульнага батальёна тав. Салаўю было даручана выбраць 200—250 найбольш моцных і надзейных байцоў. Дзве роты былі ўзяты з 1 каравульнага батальёна. Газета «Бабруйскі комуніст» змясціла заклік да ўсіх працоўных Бабруйска аб уступленні ў атрад, які ішоў на дапамогу гомельскаму пролетарыяту. На працягу цэлага дня прыходзілі ў камітэт добраахвотнікі. Сярод іх былі нават старыкі і дзеці. За некалькі мінут да адыходу эшалона прыбег малады хлопец і настойліва прасіў узяць яго з сабой. На пытанне: «Ці страляў ты калі-небудзь з вінтоўкі»—ён адказаў: «Па дарозе ў Гомель мяне навучаць, і я буду змагацца не горш іншых».

25 сакавіка а 8 гадзіне ўвечары наспех скалочаны і ўзброены атрад накіраваўся эшалонам у Гомель. 26 раніцою ён прыбыў на станцыю Уза. Злучыўшыся тут са школай магілеўскіх курсантаў і інжынерным батальёнам, бабруйскі атрад выслаў разведку ў кірунку Касцюкоўкі.

У адной з бліжэйшых вёсак разведчыкі зашлі да настаўніка, каб даведацца ці не было тут стрэкапытаўцаў. У гэты час за вуглом раздаліся стрэлы. Выбегшы са школы, разведчыкі ўбачылі трох стрэкапытаўцаў, якія пусціліся наўцекі. Па дарозе каля паркану ляжалі трупы двух разведчыкаў. Чырвонаармейцы забілі тут-жа дваіх стрэкапытаўцаў, а трэцяга захапілі ў палон і павялі на станцыю. Целы забітых разведчыкаў—першыя ахвяры барацьбы са стрэкапытаўцамі—былі ўрачыста пахаваны на станцыі Уза. Ад палон-

нага ўдалося даведацца аб колькасці сіл непрыяцеля і аб тым, што на ўчастак Уза—Касцюкоўка рыхтуецца напад з удзелам бронепоезда, які прычыняў бабруйскаму атраду не мала непрыемнасцей. Ва што-б там ні стала трэба было захапіць бронепоезд. Выкананне гэтай задачы патрабавала ад байцоў вялікай адвагі, асцярожнасці і дакладнага разліку сіл. Хто-ж мог лепш выканаць гэту задачу, як не Салавей. Узяўшы дзве роты байцоў, Салавей пад прыкрыццём ночы рушыў уцяж чыгункі ў тыл ворагу. Выбраўшы лагчынку каля лініі, ён загадаў сваім байцам падрыхтавацца да разборкі пуці. У напружанай цішыні чакаў атрад прыходу бронепоезда. Нарэшце пачуўся цяжкі грукат. Ашчэрыўшыся дуламі гармат і кулямётаў, не ведаючы аб небяспецы, павольна праплыла грозная злавесная машына. Ледзь толькі скрыліся яе агні, бясшумна ўскочыў Салавей з-за пакрыцця, а за ім і ўсе байцы. Ключамі вывінчвалі гайкі, вырывалі кастылі, расцягвалі рэйкі і праз гадзіну шлях быў адрэзан. Схаваўшыся зноў абапал пуці, байцы злорадасна чакалі, калі бронепоезд пойдзе назад. Зноў бліснулі агні і нібы ў недаўменні спыніліся каля разбуранага ўчастка. Але зараз-жа, як-бы старающыся сарваць злосць, затрашчалі кулямёты. У адказ раздаліся ружэйныя стрэлы, выбухі гранат. Калі рассеяўся дым, Салавей убачыў, што паравоз асеў на адзін бок. З крыкам—«Хлопцы, наперад!»—ён кінуўся да поезда, а за ім падняліся і байцы. Бронепоезд быў узяты без адзінай страты. Ачысціўшы раён Касцюкоўка—Уза ад стрэкапытаўцаў, бабруйскі атрад атрымаў магчымасць параўнаўча свабоднага руху да Гомеля і зачыніў непрыяцелю выхад на Жлобін. К гэтаму часу вярнулася дэлегацыя, пасланая да Стрэкапытава з прапановаю здацца. Стрэкапытаў адказаў пісьмова: «Пашлі вы к... мацеры, сукіны дзеці. Я сам знаю, што мне рабіць».

28 сакавіка па загаду камандвання пачалося агульнае наступленне на Гомель. Магілёўская школа курсантаў наступала па праваму боку чыгуначнага палатна, бабруйскі атрад на чале з Салаўём—па леваму. Асабліва цяжка прыходзілася магілеўскай школе курсантаў, бо асноўны агонь непрыяцель накіраваў на правы ўчастак.

Салавей са сваім атрадам заняў маёнтак «Прудок», які знаходзіўся недалёка ад горада, і выслаў наперад разведку. Разведка вярнулася з трафеямі: палоннымі, зброяй, коньмі, што надзвычайна ўзрадвала Салаўя. Даведаўшыся ад палоннага, што стрэкапытаўцы збіраюцца раніцою адступаць па лініі Гомель—Рэчыца і падрыхтавалі для гэтага эшалоны, Салавей рашыў паскорыць падзеі. А бой усё яшчэ працягваўся. Ужо 4 гадзіны паліваў непрыяцель кулямётным агнём наступаючых чырвонаармейцаў, абараняючы ўваход у горад, каб забяспечыць адступленне асноўным сваім сілам. Салавей азнаёміў камандзіра Жлобінскага баявога ўчастка са сваім планам дзеяння і адабраў сабе 10—12 байцоў-добраахвотнікаў. Узброіўшы іх гранатамі і пераапрануўшы, наколькі было магчыма, у сялянскую адзежу, Салавей накіраваўся ў горад на вакзал, у тыл стрэкапытаўцам. Такія-ж гурткі людзей накіраваліся ў горад па іншых шляхах. Задача заключалася ў тым, каб, пранікнуўшы ў тыл непрыяцеля, падняць там паніку і палегчыць наступленне і захват горада. Прабраўшыся ў горад і на вакзал, Салавей расставіў сваіх людзей у розных месцах і падаў знак. Адначасова раздаліся аглушальныя выбухі гранат. Стрэкапытаўцы страшэнна замяшаліся, думаючы, што яны абкружаны з усіх бакоў і што ў горад увашлі ўжо чырвоныя войскі.

З эшалона, які стаяў напагатове, павыскаквалі напалоханыя п'яныя салдаты «1-й рускай арміі» і, хаваючыся пад вагонамі, кідалі награбленыя рэчы.

Праз некалькі мінут машыніст, чуючы, што ў вісок яму наведзена дула рэвальвера, павёў эшалон са стрэкапытаўцамі ў Рэчыцу. Кулямётныя каманды рассыпаліся хто куды, пакідаючы кулямёты ўваходзячым у горад чырвонаармейцам, для якіх выбухі гранат былі сігналам да атакі.

«Кінуўшыся на станцыю,—расказвае адзін з удзельнікаў падаўлення стрэкапытаўскага паўстання,—атрад Салаўя з дапамогаю астатніх разведчыкаў захапіў тэлеграф, станцыйнае памяшканне, і, выставіўшы там пасты, накіраваўся да гарадской турмы, бо атрымаў паведамленне, што ў турме рыхтуюцца расстрэльваць комуністаў. Па дарозе каля гасцініцы «Савой» атрад Салаўя злучыўся з асноўнымі сіламі, уступіўшымі ў Гомель.

Усе часці і атрады, што сабраліся ў Гомелі, загадам па арміі былі падначалены камандванню дывізіі, прыбыўшаму ў горад а 2 гадзіне дня 29 сакавіка.

Гасцініца «Савой»—гэта цытадэль гомельскіх комуністаў, ва ўпор абстраляная ў цяжкія дні разгулу бандытаў,—яшчэ дымілася. У калідорах і нумарах ляжалі трупы яе гераічных абаронцаў. Падпалены знарадамі непрыяцеля, палаў былы палац князя Паскевіча.

* * *

З аслабаненнем Гомеля барацьба са Стрэкапытавым яшчэ не скончылася. Трэба было разбіць банды Стрэкапытава да канца. З Буды-Кашалёвай прыгналі ў Гомель эшалоны, з Масквы прышоў бронепоезд, і а 5 гадзіне ўвечары бабруйскі атрад разам з іншымі атрадамі, якім камандванне дывізіі даручыла праследванне Стрэкапытава, выехаў у кірунку Рэчыцы.

Стрэкапытаўцы адступалі ў паніцы. Асноўныя сілы іх былі разгромлены, узяты ў палон, многія самі перашлі на бок чырвоных, многія разбегліся. Увесь шлях да Рэчыцы быў усеян зверскі пакалечанымі трупамі. Жахлівыя сляды звярынай расправы стрэкапытаўцаў над совецкім працоўным народам гарачай нянавісцю запальвалі вочы чырвонаармейцаў. Салавей, які не мала перанёс на сваім вяку, не змог стрымаць слёз. Пад'язджаючы да Рэчыцы, бронепоезд адкрыў агонь, але стрэкапытаўцы паспелі ўцячы. Пакінуўшы на станцыі ахову, бронепоезд рушыў з эшалонамі на Васілевічы. Каб спыніць пагоню, стрэкапытаўцы ўзарвалі за сабою мост, але ўзрыў быў няўдалы і пашкодзіў толькі адну лінію. Бабруйскі атрад шчасліва мінаваў мост і на станцыі Васілевічы нагнаў ворага. Бронепоезд адкрыў агонь, пад прыкрыццём якога атрад Салаўя пашоў у наступленне. Стрэкапытаўцы не вытрымалі і пачалі адступаць на Хойнікі, кінуўшы ўсю сваю маемасць. Стрэкапытаву з усёй світай удалося скрыцца ў лесе і перайсці граніцу.

Так бясслаўна закончылася белагвардзейская авантура, вырваўшая з радоў гомельскай арганізацыі яе лепшых сыноў. Бабруйскі атрад, не гледзячы на паасобныя промахі, кепскае ўзбраенне і нявопытнасць большасці байцоў, не гледзячы на разлагаючую работу падасланых шпіёнаў, адыграў значную ролю ў справе падаўлення стрэкапытаўскага паўстання. Салавей, як ваенны кіраўнік і камандзір атрада, праявіў асабістую адвагу, уменне кіраваць і з гонарам выканаў ускладзеную на яго задачу.

Стракапытаўскае паўстанне не было ізаляваным. Яно было звязана з выступленнем петлюраўцаў. Кулацка-эсэраўскія паўстанні пачаліся і ў Баразнянскім павеце Чарнігаўскай губерніі, і Салавей атрымаў заданне падавіць іх. Хоць людзі былі стомлены, але выехалі на наступны дзень. У Макошыне атрымалі весткі, што занята станцыя Доч, а другога шляху на Баразну няма. Рашылі разведаць, якімі сіламі ўладае непрыяцель. Пераапрануўшыся чыгуначнікам, Салавей разам з камандзірам сеў на тормаз поезда і прыехаў на станцыю Доч. Разведаўшы, што бандытаў тут яшчэ не было, Салавей вярнуўся ў Макошына і з атрадам рушыў на ст. Доч, а адтуль—на Шапавалаўку, дзе быў цэнтр паўстання.

Ноччу ўзялі Шапавалаўку і пашлі на Баразну,—расказваюць удзельнікі атрада. Ледзь развідняла, калі атрад пачаў падступаць к Баразне. Ішлі ланцугом. Падпусціўшы атрад на блізкую адлегласць, кулакі адкрылі кулямётны агонь. У адказ ахнула граната, затрашчалі кулямёты. У баразнянскіх цэрквах заліліся званы. Гэта папы склікалі на абарону. Так і ўступілі чырвоныя ў Баразну пад гул званоў. Пад агульны смех сцягвалі байцы шчырых слуг бога са званіц. У паспешным адступленні бандыты кінулі прыгатаваны абед, якому шчыра ўзрадаваліся згаладаўшыяся байцы бабруйскага атрада.

У Баразне вызвалілі арыштаваных комуністаў і ўстанавілі совецкую ўладу.

Так сама ліквідавана было паўстанне і ў сяле Высокім.

* * *

Пакончыўшы з кулацкімі паўстаннямі, атрад Салаўя вярнуўся ў Бабруйск. Байцы навучаліся тут ваеннай справе, неслі караулы, разгарнулі партыйна-выхаваўчую работу. Але стаяць прышлося нядоўга.

Вясной 1919 года Антанта пачала свой першы паход на Совецкую рэспубліку.

> «Паход гэты быў камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумесны напад Калчака, Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча і змешаных англа-рускіх атрадаў у Туркестане і ў Архангельску, прычым цэнтр цяжару паходу ляжаў у раёне Калчака.
>
> ...У гэты перыяд Расія пераджывала крытычную мінуту, бо яна, адрэзаная ад хлебных раёнаў (Сібір, Украіна, Паўночны Каўказ) і ад палу (Данецкі басейн, Грозны, Баку), вымушана была змагацца на шасці фронтах» *).

Асноўныя сілы Чырвонай арміі ў гэты час былі сканцэнтраваны на ўсходнім фронце супроць Калчака. Партыя дала жорсткі адпор намерам трацкістаў аслабіць усходні фронт.

Скарыстаўшы з малалікасці войск Чырвонай арміі на заходнім фронце, легіёны польскага імперыялізма, паслухмяныя волі сусветнай буржуазіі, у красавіку 1919 г. пачынаюць наступленне на Украіну і Беларусь. 19—21 красавіка, падавіўшы гераічнае супраціўленне невялікіх комуністычных атрадаў, яны захапілі горад Вільню і пачалі прасоўвацца ўглыб Беларусі, пагражаючы Менску.

Перад совецкай уладай паўстала задача ва што-б там ні стала затрымаць наступленне белапалякаў, стабілізаваць лінію заходняга

*) І. В. Сталін. Новы паход Антанты на Расію.

фронту, каб сканцэнтраваць свае сілы і прывесці ў выкананне распрацаваны таварышом Сталіным план разгрому Дзенікіна.

Выкананне гэтай цяжкай задачы партыя даручыла геніяльнаму пролетарскаму стратэгу таварышу Сталіну, які пасля разгрому Юдзеніча пераехаў разам са штабам заходняга фронту ў канцы чэрвеня 1919 года ў Смаленск.

У якасці члена Рэўваенсовета заходняга фронту таварыш Сталін узяў на сябе аперацыйную работу штаба, асабіста выязджаў на фронт, распрацоўваў планы абароны, унікаў ва ўсе дэталі і правёў велізарную работу па аднаўленню боездольнасці войск на заходнім фронце. Хутка ствараецца пералом. На абарону Менска былі мабілізаваны ўсе сілы.

Менская гарадская арганізацыя комуністычнай партыі Літвы і Беларусі ў гэты перыяд мабілізавала на фронт 400 комуністаў. Слуцкая павятовая арганізацыя дала 130 комуністаў, Бабруйская, Барысаўская, Ігуменская арганізацыі мабілізавалі па 50 проц. свайго складу. Совет Абароны Рэспублікі, заслухаўшы на сваім паседжанні ад 19 мая даклад аб абароне Менска, пастанавіў мабілізаваць членаў ЦВК і Менскага совета для работы на фронце. На фронт накіраваўся «1 менскі рабочы полк», арганізаваны партыяй з менскіх рабочых. Партыя рашыла да апошняй магчымасці абараняць сталіцу Беларусі.

У Менск быў накірован і батальён Салаўя. Байцы сур'ёзна рыхтаваліся да сустрэчы з ворагам. Тав. Салавей спецыяльна сабраў камандзіраў рот і ўзводаў і растлумачыў ім розніцу паміж бандытамі Стрэкапытава і рэгулярнымі белапольскімі часцямі. Перад адпраўкай на фронт Салавей выступіў на мітынгу чырвонаармейцаў, заклікаючы іх чэсна выканаць доўг перад радзімай, абараніць сваю ўладу, сваю зямлю, сваіх дзяцей ад наступаючых польскіх паноў. У сярэдзіне ліпеня батальён выехаў у Менск і паступіў у распараджэнне Штаба абароны.

Некалькі дзён батальён Салаўя нёс каравульную службу ў горадзе, а потым заняў пазіцыю паміж мястэчкамі Ракаў і Койданава. Салавей сам ездзіў правяраць каравулы, паказваў, дзе трэба рыць акопы, як рабіць умацаванні. Ён сам ездзіў у разведку і аднойчы захапіў 5 белапольскіх коннікаў. Падбадзёрваў байцоў, большасць якіх яшчэ ніколі не бывала ў баях. Белапалякі наступалі, да іх падыходзілі ўсё новыя часці. Пахіснуўся фронт у раёне Астрашыцкага гарадка, і Салавей з двума ротамі быў перакінуты туды. Хоць палякі моцна насядалі, але ён некалькі дзён утрымліваў фронт. 8 жніўня а 8 гадзіне раніцы Салавей выклікаў да сябе камандзіраў рот і сказаў: «Рыхтуецца рашаючае наступленне палякаў. Усімі сіламі абараняйце Менск». Батальён, замаскаваўшыся на подступах к гораду з боку ракі Свіслачы падрыхтаваўся к бою. Чакаць белапалякаў прышлося нядоўга. Хутка яны адкрылі сільны артылерыйскі агонь, а пяхота наступала густымі калонамі. Гадзіны чатыры адважна біліся чырвоныя байцы, але, панёсшы вялікія страты, пачалі знясільвацца, тым часам як сілы палякаў усё павялічваліся і ў некаторых месцах ужо завязваліся рукапашныя бойкі. У гэтых баях батальён Салаўя панёс многа страт.

У гэты час разведка данесла, што станцыя ўжо занята белапалякамі. 3-я рота, што трымала левы фланг, згубіла ўсякую сувязь з батальёнам і аказалася ў тыле белапалякаў, якія ўжо занялі Менск. Адступаць разам з часцю яна не магла, і ёй прышлося пра-

біраццa лясамі наперарэз, каб паспець злучыцца са сваім батальёнам. Следам за абозамі адступалі і абедзве роты батальёна. Ішлі лютыя баі за кожны квартал, за кожную складку мясцовасці. З гераічнай самаахвярнасцю біліся часці Чырвонай арміі, рабочыя дружыны, атрады комуністаў. Многа адвагі праявілі чырвоныя курсанты польскай школы каманднага складу. З баямі адыходзіла 52-я стралковая дывізія, адстойваючы кожную пядзю совецкай зямлі. К 6 гадзіне ўвечары 8 жніўня часці Чырвонай арміі пакінулі Менск. Апошнія эшалоны чырвоных адыходзілі пад абстрэлам белапалякаў.

Упартая гераічная абарона Менска і ўсяго заходняга фронту нязначнымі часцямі Чырвонай арміі, атрадамі комуністаў і рабочых дала магчымасць совецкай уладзе накіраваць свае асноўныя сілы супроць Дзенікіна.

Дзве трэці байцоў з батальёна Салаўя былі забіты, паранены, узяты ў палон. Не верачы яшчэ ў тое, што пачалося адступленне, Салавей прыкладаў усе намаганні, каб сабраць свой батальён і акапацца, але пад вялікім націскам ворага яму прышлося адступаць да мястэчка Лошыцы. А восьмай гадзіне ўвечары прыбылі ў Лошыцу, дзе да батальёна далучылася часць 3-й роты. Даручыўшы аднаму з камандзіраў весці батальён да Бабруйска, Салавей паехаў арганізоўваць новыя часці. Але спроба гэта не ўдалася, і Салавей адправіўся ў Бабруйск. Там рыхтаваліся да эвакуацыі. На паседжанні партыйнага камітэта абмяркоўвалася пытанне аб падрыхтоўцы да пераходу ў падполле. Абралі падпольны камітэт, вызначылі яўкі, размеркавалі сілы. Падпольны камітэт прапанаваў Салаўю застацца ў падполлі, але ён заявіў: «Я лепш пайду ў рэгулярныя часці Чырвонай арміі, і я там больш прынясу карысці». Добра ведаючы Салаўя і яго даўнія мары аб службе ў Чырвонай арміі, яго ўменне кіраваць чырвонаармейцамі і разбірацца ў складанай баявой абстаноўцы, яго смеласць і адвагу, партыйны камітэт рашыў задаволіць жаданне Александра Рамановіча і накіраваў яго ў Смаленск, у распараджэнне Штаба заходняга фронту.

* * *

У кастрычніку 1919 года ў Смаленску фармаваўся полк чырвоных комунараў з 200 комуністаў і комсамольцаў. Салавей быў прызначан камандзірам 1-га батальёна гэтага палка.

Полк чырвоных комунараў быў інтэрнацыянальным. У батальёне Салаўя была рота латышоў, рота кітайцаў, немцы, мадзяры, велікарусы і беларусы. Рота латышоў падабралася ў большасці з комуністаў і комсамольцаў, пабываўшых у розных перапалках, бясстрашных і спаяных моцным таварыствам.

У сярэдзіне снежня 1919 года полк чырвоных комунараў, яшчэ не закончыўшы фармавання, выступіў на латвійскі фронт пад г. Рэжыцу і адразу трапіў у варожае кальцо, абойдзены часцямі белай латышскай арміі.

Чырвонаармейцы парашылі ва што-б там ні стала прарвацца і выбіць белых, якія заселі ў вёсцы. Гэта заданне даручана было батальёну Салаўя. Распалажыўшы дзве роты абапал дарогі, Салавей з трэцяй ротай, карыстаючыся цеменню ночы і страшэннай завірухай, зняў белых часавых і ўдарыў непрыяцеля ў лоб. Абстраляны кулямётным агнём і гранатамі, вораг у паніцы кінуўся наўцёкі. Вырваўшыся з кальца, полк адыходзіў з упартымі баямі. Дрэнна апранутыя байцы пакутвалі ад сільных марозаў, якія дасягалі 30 гра-

дусаў. Параненыя і абмарожаныя таварышы не давалі палку магчымасці хутка манеўраваць. У марозныя ночы, калі снегам замятала часавых, полк гераічна адбіваў наступленне белай арміі. Адрэзанаму ад сваіх часцей батальёну Салаўя ўдалося вывесці з акружэння чырвоны бронепоезд, у якога адна платформа зышла з рэек, не даючы поезду магчымасці крануцца з месца. На выручку пашоў 1-ы батальён. Адбіваючы наступленне непрыяцеля, платформу скінулі пад адкос, і бронепоезд здолеў адыйсці. Трое сутак з боем вырываўся полк з акружэння белых, пакуль не далучыўся да часцей Чырвонай арміі на ст. Рэзінаўскай. Адных толькі абмарожаных полк здаў 360 чалавек, не лічачы параненых і хворых тыфам.

Панёсшы вялікія страты, полк чырвоных комунараў быў зліты з 476 палком 53 дывізіі.

* * *

У 1920 годзе, расправіўшыся з Калчаком і Дзенікіным, советская ўлада атрымала магчымасць перакінуць на Заходні фронт супроць белапалякаў значныя сілы. 5 чэрвеня, зрабіўшы 100-вёрстны пераход, 1-я конная прарвала фронт белапалякаў на паўднёва-заходнім фронце. Гэта быў рашаючы прарыў. Пад ударамі Чырвонай арміі белапалякі хутка адкатваліся з акупаванай мясцовасці. 4—6 ліпеня чырвоныя войскі на заходнім фронце пад кіраўніцтвам глаўкома тав. Тухачэўскага перашлі ў наступленне, фарсіраваўшы раку Бярэзіну. 11 ліпеня часці 27 і 17 стралковых дывізій з баямі ўзялі Менск. Праследуемыя Чырвонай арміяй белапалякі адступалі па ўсяму фронту.

Думаючы ўтрымацца, белапалякі заляглі ў старых нямецкіх акопах. Але ні бетанаваныя акопы, ні 20 радоў калючага дроту не змаглі стрымаць пераможны наступ Чырвонай арміі. Усе планы польскага камандвання былі развеяны ў пыл яе імпэтным націскам.

Пераправіўшыся праз раку Буг, Чырвоная армія з цяжкімі баямі заняла Слонім, Брэст-Літоўск і падышла да Варшавы. Неймаверная радасць ахапляла Салаўя ў дні пераможнага шэсця Чырвонай арміі. Ён увесь час жартаваў, падбадзёрваў змучаных цяжкімі пераходамі байцоў, абяцаючы ім заслужаны адпачынак пасля перамогі. Гледзячы на любімага камандзіра, чырвонаармейцы забывалі пра стомленасць, пра дзіравыя боты, пра недахоп знарадаў, якіх своечасова немагчыма было даставіць на знясіленых конях.

Атрымаўшы падмацаванне ад імперыялістаў Захада, польскае камандванне ліхаманкава збірала рэшткі сваіх сіл на абарону Варшавы. Нарэшце яму ўдалося прарваць фронт у раёне распалажэння эскадрона кавалерыі мазырскай групы і адцясніць нашыя войскі да нямецкай граніцы. 476 полк атрымаў загад адступаць да г. Млава і далей. Пазбаўлены знарадаў і патронаў полк цярпеў цяжкія паражэнні. Батальён Салаўя не мог рухацца хутка, бо атрымаў загад абараняць абозы, каб яны не дасталіся ворагу. Калі сіл у байцоў не стала, Салавей прыняў на сябе найбольш трудную частку задачы. З дзесяткам чырвонаармейцаў ён застаўся ў тылавой заставе і прыкрыў адступленне асноўных сіл батальёна. Адважна білася гэта жменька герояў з нападаўшымі белапалякамі. Ні адзін стрэл не прападаў дарма.

Да апошняй мінуты не здаваўся Александр Раманавіч Салавей. Да апошняй мінуты падаваў ён прыклад адвагі і стойкасці. Апошнімі патронамі зарадзілі байцы вінтоўкі, адцягнулі ў бок параненых і падрыхтаваліся да бою, не маючы нават магчымасці сесці на коней,

бо ўсе коні былі заняты ў абозе. Адзін толькі Салавей меў каня, але ён хутчэй даў-бы сябе разрэзаць на кавалкі, чым у цяжкую мінуту кінуць сваіх таварышоў, з якімі дзяліўся апошнім, перажываў разам цяжар адступлення і радасць перамогі. Акружаныя з усіх бакоў белапольскай кавалерыяй, усе чырвонаармейцы былі перабіты, а Салаўя і яго каня белапалякі парубілі на кавалкі. Так загінуў камандзір 1-га батальёна 476 стралковага палка—Александр Раманавіч Салавей.

Яго памяць будуць шанаваць працоўныя Беларусі, у барацьбе за радаснае і свабоднае жыццё якой ён загінуў.

Пры брацкай дапамозе ўсіх народаў СССР, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і яе правадыра таварыша Сталіна, працоўныя Беларусі прагналі са сваёй зямлі полчышчы акупантаў і дабіліся вялікіх поспехаў у барацьбе за перамогу соцыялізма. Мінула 16 год. Беларусь ператварылася ў квітнеючую ордэнаносную рэспубліку, у магутны фарпост Совецкага Саюза на яго заходнім рубяжы.

Няўхільна і паслядоўна вядзе совецкая ўлада барацьбу за мір. Але калі фашысцкія падпальшчыкі вайны пасмеюць на нас напасці, мільёны працоўных устануць на абарону сваёй радзімы і здолеюць адстаяць свяшчэнныя граніцы соцыялістычнай дзяржавы.

**Ф. Вайновіч**

Сакратар Полацкага акругкома КП(б)Б

# Полацкая акруговая партарганізацыя пасля абмену партдакументаў

Большасць комуністаў полацкай акруговай партарганізацыі працуе непасрэдна ў калгасах, соўгасах і сельскіх установах.

Праверка партыйных дакументаў паказала, што ў радзе райкомаў і пярвічных арганізацый была запушчана партыйная гаспадарка, паасобныя звенні былі засмечаны чуждымі і варожымі элементамі. У Асвейскім і Расонскім раёнах выяўлены выпадкі арганізацыйнай распушчанасці і недысцыплінаванасці паасобных членаў і кандыдатаў партыі. Сярод комуністаў-адзіночак, якія складалі каля 25 % партарганізацыі, не праводзілася амаль ніякай работы. На вельмі нізкім узроўні знаходзілася партработа і палітвучоба. Да праверкі партдакументаў зусім не было прыёму ў спачуваючыя.

Новаствораному акруговаму камітэту партыі разам з райкомамі і пярвічнымі арганізацыямі прышлося прарабіць вялікую арганізацыйную работу: прывесці ў парадак партыйную гаспадарку, ачысціць партарганізацыі ад ворагаў і выпадкова трапіўшых у рады партыі людзей, ажывіць усю ўнутрыпартыйную, арганізацыйную і выхаваўчую работу.

У аснову былі паложаны ўказанні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, а таксама асабіста тав. Гікало аб тым, што праверка і абмен партдакументаў у пагранічных раёнах набываюць асаблівае значэнне, бо класавы вораг імкнецца ў рады пагранічнай арганізацыі для сваёй контррэвалюцыйнай і шпіёнскай работы.

Разгортваючы большэвіцкую крытыку і самакрытыку, павышаючы рэволюцыйную пільнасць, партарганізацыя ўскрыла і выгнала са сваіх радоў даволі вялікую групу людзей, якія не мелі нічога агульнага з партыяй. Гэта—адкрытыя або скрытыя ворагі партыі, трацкісцка-зіноўеўскія паследышы, шпіёны, белагвардзейцы і інш., якія стараліся пранікнуць на адказныя ўчасткі—у зямельныя органы, школы, друк і нават у партыйны апарат для здрадніцкай, контррэволюцыйнай работы.

У працэсе праверкі і абмену партдакументаў павысіўся ідэйна-палітычны ўзровень, узнялася актыўнасць комуністаў у палітычным жыцці. Партарганізацыя стала больш боездольнай, палепшылася кіраўніцтва і сувязь з масамі, ажывілася палітвыхаваўчая работа сярод комуністаў. Наладжан учот членаў і кандыдатаў партыі, прыведзена ў парадак партыйная гаспадарка.

Праверка і абмен партдакументаў паказалі, што галоўнай прычынай недахопаў з'яўляецца нізкі палітычны ўзровень парторгаў, іх частая змяняемасць, неразуменне імі сваёй кіруючай ролі, няўменне арганізаваць работу пярвічнай арганізацыі так, каб у цэнтры ўвагі стаў комуніст.

Раённыя камітэты партыі ўлічылі гэтыя недахопы і сталі канкрэтна дапамагаць парторгу. 1—2 разы ў месяц склікаюцца спецыяльныя семінары і нарады парторгаў па пытаннях: як скласці план работы, як арганізаваць і правесці партыйны сход, як працаваць са спачуваючымі і беспартыйным актывам, як наладзіць палітмасавую работу сярод працоўных і т. п. На семінарах прапрацоўваюць і важнейшыя пытанні бягучай міжнароднай і ўнутранай палітыкі: праект новай Канстытуцыі, падзеі ў Іспаніі, апошнія рашэнні партыі і ўрада. Семінарам і нарадамі парторгаў кіруюць асабіста сакратары райкомаў.

Акруговы камітэт выпісаў кожнаму парторгу бібліятэчку, у якую ўваходзіць аднатомнік «Ленін—Сталін», падручнік Кнорына па гісторыі партыі, статут і праграма ВКП(б) і Комінтэрна, «Пытанні ленінізма» Сталіна, журналы «Партстроительство» і «Спутник агитатора». Пры полацкім партгабінеце для парторгаў падабрана кіруючая палітычная літаратура, мастацкія творы, наглядныя дапаможнікі—карты, дыяграмы, ёсць энцыклапедыі, слоўнікі і інш. Габінет стаў прыцягваць парторгаў да самастойнай работы, арганізаваў консультацыі і падбор патрэбнай літаратуры.

Рэгулярна праводзяцца партыйныя сходы, у падрыхтоўку якіх уцягваюцца ўсе комуністы. На агульным сходзе ставяцца самасправаздачы членаў партыі. У выніку палепшылася работа партарганізацый, вырасла даволі значная група новага партактыва. За час праверкі і абмену партдакументаў вылучана па акрузе на кіруючую работу 78 членаў і кандыдатаў партыі, 91 чалавек знаходзіцца ў рэзерве.

Тав. **Шаваленка** раней працавала старшынёю сельпо, а зараз вылучана інструктарам расонскага райкома і паказала сябе здольным работнікам.

Тав. **Картэль** Фёкла—кандыдат партыі расонскай арганізацыі, працавала ў калгасе імя Карла Маркса радавой калгасніцай, а зараз вылучана старшынёю калгаса. У калгасе яна добра арганізавала работу і вывела яго з адстаючых у рады перадавых.

Тав. **Шыманская** Соф'я—кандыдат партыі дрысенскай арганізацыі, з радовой калгасніцы вылучана ў загадчыцы МТФ калгаса «Новы быт». Дабілася высокіх удояў. Кожная карова фермы дае ў сярэднім па 3000 літраў малака ў год.

Вырасла авангардная роля многіх членаў і кандыдатаў партыі як у палітычным жыцці, так і на вытворчасці. Раней пасіўныя члены партыі ветрынскай арганізацыі тт. Локшына і Васюк пры канкрэтнай дапамозе партарганізацыі сталі актыўнымі, выступаюць на сходах, з'яўляюцца стаханаўцамі на вытворчасці.

Тав. **Ехілеўскі**—рабочы арцелі «15 гадавіна Окцябра», Полацкага раёна, лічыўся пасіўным комуністам. Пасля таго, як пярвічная арганізацыя заслухала яго самасправаздачу і ўказала на недахопы, тав. Ехілеўскі пачаў наведваць палітшколу і стаў актыўным у партыйным жыцці.

Тэрытарыяльная пярвічная партарганізацыя Клясціцкага сельсовета Расонскага раёна паўтара года таму назад працавала дрэнна. Парторгі часта зніmaліся з работы. Цяпер парторгам працуе старшыня сельсовета тав. Нікалаёнак. Партарганізацыя налічвае 4 члены і 4 кандыдаты

партыі, працуе па плану, усе комуністы маюць партыйную нагрузку і адчытваюцца на агульным сходзе, які праводзіцца два разы ў месяц. Бесперабойна працуе партыйная школа. Створан беспартыйны актыў з 30 чалавек. Сямёра лепшых калгаснікаў-стаханаўцаў прыняты ў групу спачуваючых. Беспартыйны актыў і спачуваючыя ўцягнуты ў школы палітграматы. Прымацаваныя комуністы праводзяць сходы і гутаркі ў калгасах, выпускаюць насценгазеты. У выніку добрай работы пярвічнай партарганізацыі сельсовет з адстаючага стаў перадавым, датэрмінова выканаў план сельскагаспадарчых работ. Тав. Нікалаёнак, як лепшы парторг, абрана на райпартсходзе членам райкома.

Ажыўленню і актывізацыі работы многа дапамагаюць раённыя партсходы. За апошні год такія сходы адбываюцца, як правіла, кожныя два-тры месяцы.

У чэрвені адбыўся райпартсход у Асвеі па пытанню аб падрыхтоўцы да прыёму ў партыю. Сходам выяўлена, што паасобныя партарганізацыі, як сухарукаўская, соўгаса «Асвея», пры прыёме ў групу спачуваючых дапусцілі грубыя палітычныя памылкі: у пратаколе агульнага сходу запісвалі толькі прозвішча і імя прымаемага, а хто ён такі, хто за яго паручаўся—гэтага ў пратаколе не ўказвалася. Пры такім падыходзе да справы стваралася магчымасць пранікнення ў рады спачуваючых класава-варожых людзей. На гэтым сходзе партарганізацыя зразумела, чаму асвейскі райком з 47 чалавек, прынятых пярвічнымі партарганізацыямі ў групу спачуваючых, зацвердзіў толькі 37.

Акруговая партарганізацыя дабілася значных поспехаў у галіне партыйнай вучобы. Зараз усе комуністы ахоплены той ці іншай формай вучобы, партыйныя школы працуюць рэгулярна круглы год. 90 чалавек з 260 завочнікаў БІМЗО здалі залікі за поўны курс гісторыі ВКП(б) і перашлі на вывучэнне курсу ленінізма.

Акруговы камітэт і райкомы партыі многа папрацавалі над падборам і выхаваннем прапагандысцкіх кадраў. Кожны прапагандыст быў праверан спецыяльнай камісіяй і зацверджан бюро раённага і акруговага камітэтаў. Праз трохмесячныя курсы ў пачатку года прапушчана 20 прапагандыстаў, к 10-му кастрычніка выпускаецца яшчэ 16 чалавек. Большасць падрыхтаваных на курсах прапагандыстаў-нядрэнна кіруе партыйнымі школамі і гурткамі. Выпускнікам і ўсім астатнім прапагандыстам акруговы камітэт выдаў партыйныя бібліятэчкі агульным коштам 5 тыс. рублёў. Раней адказныя работнікі раёна не кіравалі школамі, а цяпер увесь кіруючы склад прыцягнут да прапагандысцкай работы. У прыватнасці сакратары райкомаў кіруюць семінарам прапагандыстаў.

Кожны райком мае свой партгабінет. Узорна абсталёван і прыкладна працуе партгабінет у Полацку. Полацкі і дрысенскі партгабінеты маюць поўныя зборы твораў Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна; філасофскую, гістарычную і эканамічную літаратуру, карты, дыяграмы, плакаты, выстаўкі рознай палітычнай і мастацкай літаратуры, радыёаўдыторыю на 30 чал.

Акруговая партарганізацыя перабудавала і агітацыйную работу ў масах. Раней у гэтай рабоце не было сістэмы, ніхто за яе не нёс адказнасці, для дакладаў у калгасы і на рабочыя сходы пасылаліся людзі непадрыхтаваныя. Цяпер агітатар райкома, выязджаючы рабіць даклад, атрымлівае пуцёўку і адчытваецца перад культпропам аб праведзенай рабоце.

У кожным раёне створаны калектывы нізавых агітатараў, куды ўваходзяць старшыні калгасаў, парторгі, комсоргі і інш. У план работы агітатара уваходзяць такія пытанні, як прапрацоўка праекта новай сталінскай Канстытуцыі, іспанскія падзеі і інш. Полацкі райком пачаў практыкаваць па пытанню новай совецкай Канстытуцыі спецыяльныя семінары, на якіх заслухоўвае справаздачы агітатараў аб праведзеных імі ў калгасах і на прадпрыемствах дакладах і гутарках.

Некаторае палепшанне дасягнута і ў рабоце са спачуваючымі. За час праверкі і абмену партдакументаў у групы спачуваючых прынята 235 чалавек: па полацкай арганізацыі—50, па дрысенскай—32, па асвейскай—37, па расонскай—43 і па ветрынскай—73 чал. Аднак гэта колькасць нас не здавальняе. Наша задача—узмацніць уцягненне перадавых, праверанных людзей у групы спачуваючых.

Пярвічныя партарганізацыі ўсё яшчэ не вядуць глыбокай сістэматычнай работы з прынятымі ў спачуваючыя, прымацоўваюць да школ не заўсёды ў адпаведнасці з узроўнем развіцця, што не дае належнага эфекту ў вучобе. Не ўсе спачуваючыя ўцягнуты ў практычную работу партарганізацыі. Горш за ўсё работа са спачуваючымі пастаўлена ў дрысенскай арганізацыі.

Па акрузе налічваецца звыш 3 тысяч чалавек беспартыйнага актыва з рабочых і калгаснікаў, у большасці падрыхтаваных да ўступлення ў групы спачуваючых. Тым часам у 85 пярвічных арганізацыях акругі зусім няма груп спачуваючых. Некаторыя члены партыі не ведаюць, як працаваць і вывучаць беспартыйны актыў, за каго можна паручыцца. Ветрынскі райком склікаў спецыяльную нараду для растлумачэння членам партыі, якія працуюць на вёсцы, як і каго трэба прымаць у групы спачуваючых, пры якіх умовах і каму можна даць паручыцельства. Гэтая нарада зрабіла вялікі зрух. Па ветрынскай арганізацыі прынята ў спачуваючыя больш чым па іншых, прычым не дапушчана такіх памылак, як у асвейскай арганізацыі, якая да справы падышла шаблонна.

Значна дапамог райкомам і пярвічным арганізацыям інструктарскі апарат акруговага камітэта партыі. Інструктары працавалі ў пярвічных арганізацыях па паўтара тыдні. Яны вучылі парторгаў як трэба паставіць партыйную работу, дапамаглі скласці план работы, арганізаваць партдзень, працаваць з кожным комуністам, праводзіць палітмасавую работу сярод калгаснікаў. Інструктары дапамаглі ўлічыць беспартыйны актыў, арганізаваць для яго палітшколы, школы па ліквідацыі няграматнасці; расставіць партыйныя сілы, праверыць выкананне рашэнняў пярвічнай арганізацыі. Члены акруговага камітэта асабістым прыкладам паказалі інструктарам райкомаў, як трэба дапамагаць парторгу і пярвічнай арганізацыі.

На сямідзённых курсах-семінарах, якімі кіравалі сакратары акругкома, з інструктарамі райкомаў прапрацаваны рашэнні XVII партз'езда, пастановы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб партыйна-арганізацыйнай і прапагандысцкай рабоце, пытанні практычнай работы інструктароў, аб арганізацыі партыйнага дня, правядзенні палітагітацыі ў масах, выпуску насценгазет і інш.

У працэсе праверкі і абмену партыйных дакументаў значна ажывілася ўнутрыпартыйная работа, павысілася рэвалюцыйная пільнасць комуністаў. Аднак яшчэ не ва ўсіх партыйных арганізацыях яны стаяць на патрэбнай вышыні. Найбольш слабое звяно—дрысенская арганізацыя. Сакратары райкома, тав. Кацельнікаў і Фрыдзон не ўзя-

ліся сур'ёзна за партыйную работу, дапусцілі многа неарганізаванасці і бессістэмнасці. Акруговы камітэт павінен канкрэтна дапамагчы ім паставіць работу на ўзровень запатрабаванняў партыі.

Вузкім месцам з'яўляецца ў нас абаронная работа. На слабасць абароннай работы ўказаў нам і Цэнтральны камітэт партыі, калі заслухоўваў вынікі абмену партдакументаў. Партарганізацыя зрабіла неабходныя вывады з гэтага ўказання і адной з важнейшых сваіх задач зрабіла абаронную работу.

Найбольш важным нашым недахопам з'яўляецца тое, што партыйная работа яшчэ недастаткова ўвязана з вытворча-гаспадарчай. Некаторае палепшанне дасягнута ў рабоце сельскай гаспадаркі. Аднак ёсць раёны (Расонскі, Асвейскі і інш.), якія яшчэ адстаюць па раду важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній.

Задача партыйнай арганізацыі—на аснове разгортвання партыйна-масавай работы ліквідаваць гаспадарчае адставанне акругі, вывесці яе ў лік перадавых, як сапраўды моцны фарпост на рубяжы з капіталістычным светам. За вырашэнне гэтай задачы змагаецца ўся акруговая партыйная арганізацыя, і вырашыць яе ў бліжэйшы час.

---

**П. Бруднер**

**Сакратар парткома фабрыкі імя Куйбышэва**

# Наш вопыт работы

За час праверкі і абмену партыйных дакументаў наша партарганізацыя лепш вывучыла кадры, а лепшых таварышоў вылучыла на кіруючую партыйную, гаспадарчую, прафесіянальную, комсамольскую работу і ў партыйны рэзерв.

За апошні час на фабрыцы выраслі:

Тав. **Гамер**—вытрыманы, дысцыплінаваны комуніст. На фабрыцы працуе з 1924 года. Нястомны бяседчык-агітатар, адзін з ініцыятараў стаханаўскага руху на фабрыцы. У парадку рэалізацыі рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) тав. Гамер унёс прапанову аб рацыяналізацыі працэсу вытворчасці чамаданных рам. З рэалізацыяй гэтай прапановы прадукцыйнасць працы павысілася на 350 процантаў. Рыхтуючыся да праверкі і абмену партыйных дакументаў, тав. Гамер настойліва ўзяўся за аўладанне марксісцка-ленінскай тэорыяй, сістэматычна чытае газету «Правда» і журналы «Большевик» і «Партийное строительство».

Тав. **Персіц**—член партыі, працуе на фабрыцы з 1931 года. Пры штодзенным кіраўніцтве партарганізацыі Персіц вышла ў рады лепшых слухачоў соўпартшколы. Як парторг футлярнага цэха, яна многа дапамагае членам сваёй партгрупы. Дзякуючы яе намаганням, значна ўзняўся палітычны ўзровень комуністаў Чэрніна і Будняцкага.

Тав. **Матусевіч**—член партыі з 1925 г., работніца, прафорг і агітатар закройнага цэха, добра займаецца ў школе павышанага тыпу. Сістэматычна перавыконваючы свой промфінплан, яна дапамагла работніцам Мураўскай і Асадоўскай дабіцца выканання іх планаў больш як на 200 проц.

Гэтыя таварышы з рэзерву будуць вылучаны на самастойную кіруючую партыйную работу. Партыйны камітэт арганізаваў асобы кантроль за іх вучобай. У гэтым годзе тт. Гамер, Персіц і Матусевіч прашлі месячныя курсы партыйных работнікаў з адрывам ад вытворчасці, дзе значна ўзнялі свой ідэйна-палітычны і агульна-адукацыйны ўзровень.

У ходзе праверкі і абмену партыйных дакументаў на кіруючую работу вылучана не мала здольных і праверaных людзей.

**Ануфрыюк** О. М.—кандыдат партыі з 1931 года, працуе на фабрыцы 12 год, вылучана інструктарам райкома комсамола.

**Бляхер** З. І.—член партыі з 1932 г., вылучан на самастойную партыйную работу.

**Крачкоўская** Ц. Л.—член партыі з 1929 года, вылучана парторгам трыкатажнай арцелі.

Унутры фабрыкі на адказныя ўчасткі партыйнай работы вылучаны:

**Цырлін Я. Е.**—член партыі з 1926 г.—намеснікам тэхнарука фабрыкі.

**Гарэлік** М. І.—член партыі з 1930 г.—загадчыкам эксперыментальнага бюро, і інш.

Кожны член і кандыдат партыі з рэзерву ўцягваецца ў практычную партыйную работу ў адпаведнасці з яго асабістымі здольнасцямі. Партком уважліва правярае, як яны спраўляюцца з даручэннямі, як перамагаць труднасці ў рабоце. Такі метад дае добрыя вынікі.

Так, тав. Цырлін быў мала актыўным у партыйным жыцці. Спачатку ён атрымаў невялікае партыйнае даручэнне, праз некаторы час больш сур'ёзнае. У абодвух выпадках праверылі, як ён справіўся з задачай, і зрабілі практычныя заўвагі. Пастунова тав. Цырлін уцягнуўся ў работу. За апошні час ён самастойна абследваў работу партгрупы чамаданнага цэха са спачуваючымі, партыйнае кіраўніцтва комсамолам і інш. і прадставіў у райком свае вывады і заўвагі.

У сучасны момант партарганізацыя асаблівую ўвагу ўдзяляе падрыхтоўцы прапагандыстаў для фабрычнай партыйнай сеткі з ліку лепшых, правераных людзей.

* * *

Абмеркаваўшы рашэнне ЦК ВКП(б) аб становішчы палітагітацыі на Балахнінскім камбінаце, партыйны камітэт вылучыў 24 агітатары і чытчыкі з тэарэтычна найбольш падкаваных комуністаў. Гэты калектыў праводзіць сістэматычна чыткі і гутаркі ў цэхах па плану, які складаецца на дэкаду і аператыўна змяняецца ў залежнасці ад абстаноўкі. Матар'ялам служаць не толькі пытанні вытворчасці, а і важнейшыя падзеі ў нашай краіне і за рубяжом. За апошнія 2 месяцы агіткалектыў правёў наступныя гутаркі: аб большэвіцкай пільнасці, аб працэсе над трацкісцка-зіноўеўскай бандай, аб іспанскіх падзеях, Сталін і Чырвоная армія, аб сталінскай Канстытуцыі, аб дастойнай сустрэчы Надзвычайнага з'езда Советаў, аб аднаўленні прыёму ў партыю. Абмеркавалі перадавы артыкул «Праўды» ад 19 верасня «За якасць прадукцыі, супроць бракаробаў» і іншыя пытанні.

Агітатары і чытчыкі ў сваёй рабоце выкарыстоўваюць геаграфічныя карты, фотогазеты і іншы дапаможны матар'ял. Партыйны габінет дапамагае ім кансультацыяй па ўсіх пытаннях гутарак.

Для павышэння агульна-культурнага і ідэйна-палітычнага ўзроўню агітатараў партыйны камітэт праводзіць рознастайныя даклады. У жніўні і верасні прафесар інстытута права тав. Гофман зрабіў даклад аб сталінскай Канстытуцыі, прафесар Левін—на тэму «Ад Лютага да Окцябра», выкладчык геаграфіі тав. Ліберман прачытаў лекцыю аб паўночным морскім шляху.

Агітатары тт. Гамер, Ліўшыц, Матусевіч, Гарохаў, Капілевіч, Васілеўская і інш. прашлі дэкадны семінар пры райкоме партыі.

Партыйны камітэт сістэматычна заслухоўвае самасправаздачы агітатараў і чытчыкаў. За апошні час зрабілі справаздачы тт. Гарохаў, Капілевіч і Чэрняк. З папярэдняй праверкі іх работы і з самых справаздач выяснілася, што тав. Капілевіч слаба рыхтаваўся да гутарак, не складаў планаў, не хадзіў у партыйны габінет на кансультацыі, і таму яго гутаркі праходзілі вяла, палітычна незавострана. Пасля ўказанняў

парткома тав. Капілевіч мае разгорнуты канспект і план, карыстаецца вытрымкамі з мастацкай і палітычнай літаратуры, яго гутаркі цяпер праходзяць жыва і цікава.

Нядаўна партыйны камітэт сабраў усіх агітатараў і чытчыкаў для абмеркавання артыкула з журнала «Спутник агитатора»—«Палітычная агітацыя на промучастку сульфатбуда ў Архангельску». У разгорнутай дзелавой гутарцы агітатары падзяліліся вопытам сваёй работы. Прыводзім паасобныя выступленні.

Тав. **Чэрнін**—агітатар футлярнага цэха расказваў:

«Брыгада перчатачнікаў сістэматычна не выконвала промфінплан з-за слабога разгортвання стаханаўскага руху. Мне, як агітатару, прышлося моцна падумаць над тым, як вывесці брыгаду ў перадавыя. Нарэшце рашыў прапрацаваць з імі прамову таварыша Сталіна на нарадзе стаханаўцаў. Сабраліся на кватэры ў стаханаўкі Нейштат. З прамовы любімага правадыра прысутныя добра ўяснілі пастаўленыя перад імі задачы. У дадатак я прывёў канкрэтныя прыклады з работы стаханаўцаў свайго цэха, растлумачыў, што дзякуючы стаханаўскаму руху мы выпускаем прадукцыі больш і лепшай якасці, маем вялікую эканомію, а адсюль зніжэнне цэн і палепшанне добрабыту працоўных нашай радзімы. Стаханаўцы падзяліліся сваім вопытам, расказалі, якім чынам дабіліся яны высокай прадукцыйнасці працы. Станоўчыя вынікі мы мелі ўжо праз некалькі дзён. Рабочыя пачалі лепш працаваць. Колькасць стаханаўцаў вырасла з 3 чалавек да 12. Тт. Беспразваная, Капусціна, Гразоўская свой план выконваюць на 180—200 проц. Праз кароткі час група ліквідавала запазычанасць перад дзяржавай. На прыкладзе гэтай брыгады відаць, што пры правільнай пастаноўцы арганізацыйнай работы можна не толькі выканаць, але і перавыканаць вытворчыя задачы».

Агітатар чамаданнага цэха тав. **Ліўшыц** гаворыць:

«Калі ў нашым цэху пачаў разгортвацца стаханаўскі рух, я, як агітатар, паставіў перад сабою задачу—асабістым прыкладам вучыць рабочых працаваць па-стаханаўску. Гутаркі аб разгортванні стаханаўскага руху ілюструю канкрэтнымі прыкладамі сваёй работы. Рэгулярна вяду гутаркі па пытаннях міжнароднага становішча. Часта наведваю партгабінет, бываю на кансультацыях, добра рыхтуюся, каб зрабіць гутаркі цікавей. Многія рабочыя не разумелі значэння чыткі мастацкай літаратуры. Я рашыў пагаварыць на гэту тэму. Запрасіў іх да сябе на кватэру. Літаратурны работнік дзяржаўнай бібліятэкі ў сваёй гутарцы растлумачыў рабочым важнасць чытання мастацкай літаратуры. Пасля таго многія запісаліся ў бібліятэку. Работніца тав. Эдвіг прачытала «Чапаева» Фурманава, тав. Сымон прачытала «Як гартавалася сталь» Астроўскага. Лічу недахопам, што агітатараў мала збіраюць для распрацоўкі з імі паасобных мастацкіх твораў, а гэта вельмі дапамагло-б у рабоце».

Агітатар закройнага цэха тав. **Шырай** адзначыў:

«Працуючы агітатарам, мне прыходзіцца асвятляць рабочым масу пытанняў. У апошні час я правёў гутаркі на тэмы: «Сталін і Чырвоная армія», «Аб іспанскіх падзеях», «Аб сталінскай Канстытуцыі» і інш. Свае гутаркі я заўсёды звязваю з канкрэтнай работай цэха і паасобных рабочых. Маімі актыўнымі слухачамі з'яўляюцца тт. Альбух, Капілевіч, Іткін, Лазінскі, Лазоўская, Самсановіч, Эйг і інш. Апіраючыся на гэты актыў, я разгортваю жывую гутарку і такім чынам уцягваю ў яе астатніх рабочых.

Пры распрацоўцы рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб задачах прамысловасці ў сувязі са стаханаўскім рухам я напомніў рабочым аб гераічнай барацьбе пролетарыята пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна за першую пяцігодку, аб барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам і правым ухілам. Старыя рабочыя самі расказалі аб тым, як яны працавалі да першай пяцігодкі, якая тады была прадукцыйнасць працы, як яна ўзрасла цяпер і што яшчэ перашкаджае яе павышэнню. Абагульваючы выступленні, я паказаў рабочым, для чаго патрэбна высокая прадукцыйнасць працы і што ад гэтага маюць працоўныя Совецкага Саюза. У рэзультаце гутаркі значна павялічылася колькасць стаханаўцаў. У закройным цэху цяпер 60 стаханаўцаў і 12 двухсотнікаў».

Калі раней наша партарганізацыя займалася падборам агітатараў і чытчыкаў сярод лепшых комуністаў і комсамольцаў фабрыкі, то зараз асаблівая ўвага ўдзяляецца вырошчванню агітатараў, павышэнню іх ідэйна-палітычнага і агульна-культурнага ўзроўню.

* * *

Наша фабрыка за 8 месяцаў гэтага года выпусціла прадукцыі на 651.600 руб. звыш плана, пры палепшанні якасці. Толькі за першае паўгоддзе фабрыка дабілася эканоміі 871,6 тысячы дэцыметраў асноўных матар'ялаў—скуры і гралексу. Сабекошт зніжан на 3,97 проц.

У гэтай перамозе не малую ролю адыгралі комуністы і комсамольцы фабрыкі. Яны занялі вядучую ролю на вытворчасці і паказваюць лепшыя ўзоры стаханаўскай работы. У партарганізацыі 37 комуністаў. Усе яны—стаханаўцы. Парторгі тт. Гамер, Ліўшыц, Эфраімовіч, Персіц з'яўляюцца ініцыятарамі стаханаўскага руху на фабрыцы. Аб рабоце комуністаў і комсамольцаў сведчаць наступныя прыклады.

Калі ў брыгадзе Куракевіча (чамаданны цэх) быў прарыў па абшыўцы ручак, туды паслалі ў дапамогу комуніста Ліўшыца. З першага-ж дня ён павёў растлумачальную і арганізацыйную работу і асабістым прыкладам паказваў, як трэба працаваць. Свой план стаў выконваць на 200—220 проц. Гэтаму прыкладу паследвалі астатнія рабочыя, і хутка брыгада стала суцэльна стаханаўскай. Калі раней пры 8 чалавеках план не выконваўся, то цяпер сістэматычна выконваецца пры 4-х рабочых у брыгадзе.

Фабрыка многа ўвагі ўдзяляе ўвядзенню новых фасонаў і пашырэнню асартымента скургалантарэйных вырабаў. І ў гэтым пытанні комуністы занялі не апошняе месца. За апошнія 2 месяцы было ўведзена 7 новых фасонаў дамскіх сумак, бумажнікаў і партманэ. На чале новаарганізаваных груп былі пастаўлены комуністы, якія хутка асвоілі работу.

Група комуністкі Персіц з першага-ж дня пачала перавыконваць свой промфінплан. За жнівень дала 106 проц. плана і значна павысіла якасць прадукцыі, выпусціўшы толькі 4 проц. другога гатунку замест 13 проц. планавых. Персіц арганізавала работу так, што ўсе рабочыя працуюць поўныя 420 мінут без малейшага прастою.

Комуніст Будзянскі, працуючы на каблучках і партсігарах, выконвае план на 140—150 проц. пры добрай якасці прадукцыі. Разам з тым ён дапамагае рабочаму Шліонскаму асвоіць працэс.

Кандыдат партыі тав. Табарынскі працаваў раней у ахове фабрыкі. Ідэйна-палітычны ўзровень яго быў нізкі. Пасля самасправаздачы на парткоме дырэкцыя стварыла тав. Табарынскаму ўсе ўмовы, неабходныя для павышэння кваліфікацыі. Прапрацаваўшы некаторы час у эк-

сперыментальным бюро, а потым у цэху, тав. Табарынскі стаў кваліфікаваным скургалантарэйшчыкам у брыгадзе дамскіх партфеляў. Зараз ён двухсотнік, выконвае план на 200—250 проц. пры добрай якасці прадукцыі і зарабляе больш 500 руб. у месяц.

Комсамольская група закройнага цэха, дзе працуе майстрам кандыдат партыі тав. Клебанаў, абвясціла вытворчы паход імя VIII надзвычайнага з'езда Саветаў. На агульным сходзе цэха рабочыя ўхвалілі ініцыятыву комсамольскай групы і ўключыліся ў паход.

Жнівеньскі план комсамольская брыгада выканала 27 жніўня і з'эканоміла 13.744 дэц. скуры. За гэты час выраслі комсамольцы стаханаўцы-двухсотнікі Эйг, Сонкіна, Салавейчык, Корзін і інш. У цэху зараз 12 двухсотнікаў. У брыгадзе брусоўкі двухсотнікамі з'яўляюцца тт. Шыло, Пракаповіч, Ліпяніна. Астатнія члены брыгады выконваюць свае нормы да 200 проц. Верасвёўскі план комсамольская група выканала 14 верасня пры значным палепшанні якасці крою.

Спачуваючая двухсотніца тав. Эдвіт выконвае план на 200 проц. Спачуваючая тав. Машок працуе цяпер адна на працэсе, які раней абслугоўвалі двое рабочых.

Вядучая роля комуністаў на вытворчасці і выкананне вытворчых планаў дасягнуты ўпартай работай партыйнага камітэта фабрыкі з комуністамі, комсамольцамі і спачуваючымі. Партыйная арганізацыя сур'ёзна занялася правільнай расстаноўкай партыйных кадраў на ўсіх вытворчых участках. Вытворчы аддзел, аддзел снабжэння, бракеражны апарат фабрыкі ўмацаваны комуністамі.

* * *

Пасля рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму ў партыю партыйная арганізацыя нашай фабрыкі пачала праводзіць з кандыдатамі партыі і спачуваючымі сур'ёзную штодзенную палітычную работу. У першую чаргу мы ахапілі вучобай усіх кандыдатаў партыі і спачуваючых. З кожным днём яны ўзнімаюць свой ідэйна-палітычны і агульна-адукацыйны ўзровень.

Тав. **Сімон** не разбіралася ў элементарных палітычных пытаннях. Цяпер яна настойліва працуе над павышэннем свайго палітычнага і агульна-адукацыйнага ўзроўню, з'яўляецца адным з перадавых слухачоў палітшколы. Многа ўвагі ўдзяляе вывучэнню статута і праграмы партыі, наведрэе стаханаўскі універсітэт, які многа дапамагае ў яе росце.

Тав. **Гарохаў** мае добрую бібліятэку, сістэматычна чытае газеты і добра разбіраецца ў прачытаным. Асаблівую ўвагу ўдзяляе вывучэнню праграмы і статута партыі.

Партыйны камітэт часта склікае кандыдатаў для прапрацоўкі праграмы і статута партыі, паасобных матар'ялаў з журналаў «Партийное строительство» і «Большевик», важнейшых рашэнняў партыі і ўрада. У выніку кандыдаты партыі тт. Капілевіч, Гарохаў, Асіноўскі, Сымон і Клебанаў узнялі свой ідэйна-палітычны ўзровень і падрыхтаваліся да пераводу ў партыю.

Асаблівую ўвагу партыйны камітэт звярнуў на работу з групай спачуваючых, як важнейшым рэзервам папаўнення радоў партыі.

Спачуваючыя ахоплены вучобай і штодзенна працуюць над сабой. Тав. **Кандрацюк** за час прабывання ў групе спачуваючых пачала

сур'ёзна займацца ў палітшколе, рэгулярна чытае газеты, цікавіцца пытаннямі міжнароднага і ўнутранага становішча. З'яўляючыся дэпутатам горсовета, Кандрацюк актыўна працуе ў секцыі аховы здароўя. Раней зусім адсталая, яна настолькі вырасла, што цяпер вылучана другім работнікам фабкома. Такі-ж рост паказалі і астатнія спачуваючыя.

Нядаўна партыйны камітэт правёў нараду спачуваючых па пытанню іх ідэйнага росту.

Спачуваючы тав. **Крупальнік** заявіў: «Да ўступлення ў групу спачуваючых я быў зусім адсталым і нічым не цікавіўся. У групе спачуваючых узняўся мой палітычны ўзровень, што дапамагае мне паспяхова выконваць грамадскую работу. Цяпер я працую прафоргам цэха, а раней дрэнна разбіраўся ў элементарных палітычных пытаннях».

Тав. **Машок** гаворыць: «Да ўступлення ў групу спачуваючых я ніколі не чытала газет. Цяпер мяне цікавяць пытанні міжнароднага становішча. Чытаю рэгулярна газеты і добра ў іх разбіраюся, заўсёды наведваю калектыўныя чыткі мастацкай літаратуры. Усё гэта дапамагло мне ўзняць свой палітычны і агульна-культурны ўзровень. Толькі цяпер я зразумела, што дасягнутае мною—далёка не ўсё, што патрабуецца ад мяне. Гэта абавязвае мяне яшчэ больш працаваць над сабой».

За апошні час партыйная арганізацыя прапрацавала са спачуваючымі праект сталінскай Канстытуцыі, пытанні аб падзеях у Іспаніі, перадавыя артыкулы «Праўды» аб пільнасці, матар'ялы суда над трацкісцка-зіноўеўскай бандай, статут і праграму партыі і рад іншых матар'ялаў з журналаў і газет.

Зусім нядаўна праведзены гутаркі са спачуваючымі па пытаннях, якія іх найбольш цікавяць. Спачуваючыя і беспартыйны актыў былі папярэджаны за 10 дзён да гутаркі, што не будзе ніякіх дакладаў, а толькі адказы на цікавячыя іх пытанні.

Спачуваючыя і беспартыйны актыў праявілі вялікую актыўнасць. Тав. Палазнік задала пытанне, чаму Германія і Японія асабліва шалёна рыхтуюцца да новай вайны і ў першую чаргу супроць Савецкага Саюза. Тав. Кандрацюк цікавілася жыццём кітайскай чырвонай арміі. Многа пытанняў было задана аб падзеях у Іспаніі, аб адзіным народным фронце. На ўсе пытанні далі вычарпальныя адказы спецыяльна вылучаныя парткомам таварышы.

Гутарка выклікала вялікую зацікаўленасць, і спачуваючыя прасілі партком праводзіць такія гутаркі сістэматычна.

Усе спачуваючыя, рабочыя ад станка, не толькі самі з'яўляюцца стаханаўцамі, але і дапамагаюць астатнім рабочым авалодваць стаханаўскімі метадамі. Ініцыятарам стаханаўскага руху на фабрыцы з'яўляецца спачуваючы тав. Гуртоўнік. Спачуваючыя разам з комуністамі першымі ўключыліся ў рух двухсотнікаў.

Каб лепш арганізаваць работу са спачуваючымі ў адпаведнасці з індывідуальнымі асаблівасцямі кожнага, сакратар парткома часта бывае ў іх на кватэрах, цікавіцца іх бытам і тым, як яны выкарыстоўваюць свой вольны час, дзеліцца ўражаннем аб прачытаных кнігах, газетах і інш.

Партыйны камітэт часта збірае беспартыйны актыў для гутарак па пытаннях вытворчасці, вучобы, бягучай палітыкі. Зусім нядаўна мы склікалі беспартыйны актыў разам са спачуваючымі і калектыўна прачыталі ўрывак з кнігі Барбюса «Сталін—гэта Ленін сёння». Пасля

чыткі спачуваючыя расказвалі аб сваёй вучобе і рабоце, аб удзеле ў грамадскім жыцці фабрыкі і аб тым, чым яны адрозніваюцца ад астатніх рабочых, якія працуюць побач з імі. У выніку мы маем рост спачуваючых на 7 чалавек з ліку лепшых людзей, стаханаўцаў фабрыкі.

Многа ўвагі наша партыйная арганізацыя ўдзяляе рабоце з камсамольскім актывам, з якім прапрацавалі праграму і статут партыі, шэсць асаблівасцей партыі новага тыпу, перадавы артыкул «Праўды»— «Выхаваць моладзь у духу комунізма».

Але на гэтым мы не спынімся і будзем працаваць яшчэ лепш, больш вывучаць кожнага спачуваючага, каб падрыхтаваць дастойнае папаўненне нашай партыі.

---

**Б. Рабкін**

Сакратар парткома ф-кі „Комунарка“

# Падрыхтоўка да новага прыёму ў партыю

Снежаньскі і студзеньскі пленумы ЦК, падводзячы вынікі праверкі партдакументаў, паставілі перад парттарганізацыямі рад неадкладных задач у галіне ўздыму ўсёй арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай работы на вышэйшую ступень. Падрыхтоўка да новага прыёму ў партыю патрабуе ад усёй нашай партарганізацыі і кожнага комуніста паасобку ўзмоцненай работы з кожным спачуваючым, комсамольскім актывістам, стаханаўцам, кандыдатам партыі.

Рашаючым рэзервам для папаўнення радоў партыі з'яўляюцца спачуваючыя і комсамольскі актыў. Партарганізацыя паставіла перад сабой задачу—вывучыць гэты рэзерв на практычнай рабоце і ў быту, прывіць яму пачуццё большэвіцкай пільнасці, нянавісць і непрымірымасць да класавых ворагаў.

У апошні час нам удалося выявіць твар «спачуваючага» Плоткіна, які скрыў сваё выключэнне з комсамола і сяброўства з трацкістам. Зараз ён выключан з групы спачуваючых.

Усяго спачуваючых у нас 18 чалавек. Нядаўна былі прыняты ў спачуваючыя тт. Ахрамовіч, Голуб і Аляшэвіч. Усе яны працуюць на фабрыцы больш 7 год, з'яўляюцца стаханаўцамі і выконваюць новыя нормы на 130—140%. Да большасці спачуваючых прымацаваны члены і кандыдаты партыі для індывідуальнай дапамогі ў рабоце. Усе спачуваючыя з'яўляюцца перадавымі людзьмі на вытворчасці і прыкладнымі сярод беспартыйных, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці фабрыкі, займаюцца ў школах і гуртках, частка наведвае агульнаадукацыйную школу.

Значна выраслі ідэйна тт. Крэмер, Голуб, Ермілаў, Гуль, Назараў, Лісоўскі, Мілер, Хаменка; адстаюць з-за нізкай агульнай граматнасці Вайсфельд, Хейфец і Бабецкі.

Амаль усе спачуваючыя добра выконваюць партдаручэнні. Тт. Лісоўскі і Гуль з'яўляюцца агітатарамі, сістэматычна праводзяць чытку газет і гутаркі, старанна рыхтуюцца да іх. Тав. Крэмер—адзін з лепшых рэдактароў штодзенкі цукеркавага цэха.

На сходзе, праведзеным парткомам 23 верасня, выявіўся значны ідэйны рост спачуваючых.

Тав. Лісоўскі расказаў аб тым, як ён рыхтуецца да ўступлення ў кандыдаты партыі:

«На вытворчасці працую добра, займаюся нядрэнна ў палітшколе. Усвоіў статут партыі, чытаю газеты, мастацкую і палітычную літара-

туру. За апошні перыяд прачытаў: «Сталін і Хашым», «Маці» Горкага, «Як гартавалася сталь» Остроўскага і інш. Адчуваю свой ідэйны рост»

Тав. Гуль: «Новыя нормы асвоіла і выконваю іх на 115—120%. Ведаю статут партыі. Рэгулярна рыхтуюся да заняткаў. Чытаю газеты і літаратуру. Дрэнна ў мяне справа з агульнай адукацыяй, але думаю падцягнуцца».

Побач з партвучобай сістэматычна праводзім гутаркі са спачуваючымі. За апошні час прапрацавалі брашуру «Сталін і Хашым», па артыкулу Е. Яраслаўскага «Што патрабуе партыя ад кожнага камуніста» прапрацавалі матар'ялы працэсу над контррэвалюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай бандай.

За апошні час партком узмацніў работу са стаханаўскім беспартыйным актывам, якому ўдзялялася вельмі мала ўвагі. Тым часам на фабрыцы працуе звыш 400 стаханаўцаў. Гэта людзі сталінскай эпохі, рэзерв для новага папаўнення радоў нашай партыі. Яны патрабуюць асабліва чулых і ўважлівых адносін, безупынных клопатаў аб павышэнні іх ідэйна-палітычнага ўзроўню.

Зараз у кожным цэху створан актыў з беспартыйных стаханаўцаў і наладжана выхаваўчая работа. З лепшымі, перадавымі стаханаўцамі распрацавалі раздзел статута аб задачах групы спачуваючых.

Абмен партдакументаў унёс ажыўленне ў работу з кандыдатамі партыі. Партком улічыў указанні райкома партыі аб рабоце з кандыдатамі, што дало станоўчыя вынікі. Мы пачалі збіраць кандыдатаў і гутарыць з імі. У выніку ўсе кандыдаты партыі пачалі павышаць свой ідэйна-палітычны ўзровень, лепш выконваць партдаручэнні, быць у авангардзе на вытворчасці. Кандыдаты Кугель, Бернштэйн, Гольдзін, Ананьева новыя нормы перавыконваюць. Сярод кандыдатаў нямала добрых агітатараў, рэдактароў насценных газет і інш.

Значна павысілі свой ідэйна-палітычны ўзровень тт. Бернштэйн, Пташнік, Янушкевіч, пераведзеныя ў час чысткі з членаў у кандыдаты за палітычную няграматнасць.

Да пераводу ў члены партыі ў асноўным падрыхтаваліся тт. Шнэйдэр, Радкевіч, Пташнік, Гуль, Бернштэйн, Ліпман, Гольдзін, Янушкевіч, Пагірэйчык, Турэцкі. Не падрыхтаваны да пераводу кандыдаты тт. Адліванкіна, Кугель, Гантман, Ананьева. Гэтым таварышам партком павінен аказаць дапамогу.

Да прыёму ў партыю рыхтуецца група комсамольцаў-актывістаў з 15 чалавек.

Асноўным недахопам з'яўляецца тое, што партгрупы як след яшчэ не ўключыліся ў падрыхтоўку да прыёму ў партыю. У сувязі з пісьмом ЦК ВКП(б) мы рыхтуем чарговы партдзень, прысвечаны пытанню аб падрыхтоўцы да ўступлення ў партыю. Гэты партдзень павінен даць новую зарадку. Наогул мы маем усе даныя ў бліжэйшы час знішчыць недахопы ў сваёй рабоце.

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б)

## Аб скажэннях некаторымі мясцовымі партыйнымі арганізацыямі пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б)

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове ад 29-га верасня 1936 года «Да ўсіх арганізацый партыі—аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б)» строга папярэдзіў партыйныя арганізацыі аб небяспецы скажэння і паўтарэння памылак, меўшых месца ў мінулым пры прыёме ў ВКП(б), аб небяслеках падмены ўважлівага індывідуальнага адбору ў рады ВКП(б) шкоднай для справы партыі валавой кампаніяй па прыёму ў партыю, якая прыводзіць да агульнага прыёму ў ВКП(б) і, тым самым, да вядомай засмечанасці радоў ВКП(б) чуждымі, варожымі і выпадковымі для партыі элементамі.

Не гледзячы на гэтыя папярэджанні і наперакор дакладным указанням ЦК ВКП(б), некаторыя парткомы, райкомы і гаркомы партыі яўна збіваюцца на асуджаны партыяй шляхператварэння прыёму новых членаў у ВКП(б) у чарговую кампанію, арганізуюць у мэтах масавай вярбоўкі ў партыю сходы і мітынгі рабочых, калгаснікаў, спачуваючых. Так было, напрыклад, на швейнай фабрыцы ў гор. Бранску, дзе партком склікаў 1-га кастрычніка 1936 года двухтысячны мітынг, заклікаючы на ім рабочых і работніц уступаць у рады ВКП(б). Практыка склікання масавых рабочых сходаў па пытанню аб прыёме ў ВКП(б) мела месца і на многіх іншых арганізацыях (Астраханская, Таганрогская, Шахцінская, Орская, Гомельская, Пензенская і інш.).

Некаторыя партыйныя арганізацыі ў парушэнне ўказанняў ЦК ВКП(б) намячаюць паскораны парадак разгляду заяў аб прыёме ў ВКП(б), складаюць для гэтай мэты спецыяльныя камісіі, вызначаюць для сябе кантрольныя лічбы і развёрстачныя заданні па прыёму ў ВКП(б), абавязваюць комуністаў у парадку партыйных даручэнняў даваць рэкамендацыі нават у тых выпадках, калі члены партыі не ведаюць падаваўшага заяву. Так, напрыклад, Кальчугінскі райком ВКП(б) Іванаўскай вобласці, на сваім пленуме прадвырашыў пытанне аб агульным пераводзе з кандыдатаў у члены ВКП(б) 260 чалавек і аб прыёме ў кандыдаты партыі з ліку спачуваючых 92 чалавек. Падобныя арганізацыйныя «мерапрыемствы» намячаюцца і іншымі партыйнымі арганізацыямі, не ўсвоіўшымі да гэтага часу, што такая практыка немінуча прывядзе да зрыву дырэктывы ЦК ВКП(б) аб строга індывідуальным парадку прыёму новых членаў у партыю.

Некаторыя газеты ствараюць вакол прыёму новых членаў у ВКП(б) атмасферу парадпасці і шуміхі, змяшчаюць складзеныя ва ўрачыстых

і напышчаных тонах артыкулы і заметкі, якія ўсхваляюць намеры пасобных таварышоў уступіць у партыю, як нейкі подвіг і геройства, публікуюць у сувязі з гэтым фатаграфіі жадаючых уступіць у партыю, як гэта робяць, напрыклад, газеты «МОЛОТ»—орган Азова-Чорнаморскага крайкома, «ЗВЕЗДА»—орган Пермскага гаркома ВКП(б) і інш.

ЦК ВКП(б) катэгарычна асуджае падобную практыку, як не маючую нічога агульнага з вучэннем Леніна аб партыі.

ЦК ВКП(б) лічыць, што ў аснове такой практыкі ляжаць несур'ёзныя, лёгкадумныя адносіны раду работнікаў да важнейшай справы прыёму ў ВКП(б).

ЦК ВКП(б) лічыць, што пры наяўнасці ўсіх спрыяльных умоў для вывучэння і праверкі прымаемых у кандыдаты партыі (групы спачуваючых) і пераводзімых у члены партыі (кандыдацкі стаж), лёгкадумным і злачынным з'яўляецца валавы, агульны набор у ВКП(б), які немінуча, як гэта паказаў вопыт, прыводзіць да засмечанасці радоў ВКП(б) чуждымі, варожымі і выпадковымі элементамі, а ў далейшым—да масавых выключэнняў з партыі пры праверках і чыстках, што не можа не наносіць шкоды аўтарытэту партыі.

ЦК ВКП(б) абавязвае абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый:

а) неадкладна спыніць усякія спробы ператварыць прыём новых членаў у ВКП(б) у чарговую кампанію і парадную шуміху;

б) безумоўна забяспечыць індывідуальны парадак прыёму ў ВКП(б), уважлівую праверку кожнага прымаемага ў партыю, вывучэнне і разбор кожнай заявы аб уступленні ў рады ВКП(б), не лічачыся з тым, колькі часу патрабуецца для разгляду такіх заяў, і не робячы выключэння з гэтага парадку ні для якіх катэгорый прымаемых (рабочыя, сяляне, працоўная інтэлігенцыя);

в) асудзіць усякую спешку ў справе прыёму ў партыю і найстражэйшым чынам забараніць устанаўленне колькасных заданняў па прыёму ў партыю і якое-б там ні было спаборніцтва ў гэтай справе;

г) забяспечыць правільнае асвятленне ў друку пытанняў прыёму новых членаў у ВКП(б).

ЦК ВКП(б) абавязвае абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый у адпаведнасці з данымі ўказаннямі неадкладна выправіць памылкі, дапушчаныя мясцовымі партыйнымі арганізацыямі пры правядзенні ў жыццё рашэння ЦК ВКП(б) ад 29 верасня 1936 г.

**ЦК ВКП(б).**

21 кастрычніка 1936 года.

Уп. Галоўлітбела № П—5014.
Тыраж 7748.
264 000 друк. зн. (5 арк.)
Здана ў набор 22/X-36 г.
Падпісана да друку 1/XI-1936 г.

*Рэдкалегія* Д. Конік, Г. Рубінштэйн

*Нам. адказнага рэдактара* Стырнэ

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1150.

